Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

ЛіМ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ISSN 0024-4686

№ 24 (4568) 18 чэрвеня 2010 г.

## У нумары:







*Калаж Віктара Калініна*

# Ад захаплення — да малітвы...

**Да 24 ліпеня ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі працуе выстаўка "Святыя заступнікі ў праваслаўным іканапісе XVI —XIX стагоддзяў". Экспазіцыя аб'яднала творы сакральнага жывапісу, якія знаходзяцца ў нашай галоўнай скарбніцы выяўленчага мастацтва, і абразы з фондаў Яраслаўскага мастацкага музея. Сустрэча са старажытнымі рукатворнымі цудамі — гэта хвалюючыя хвіліны шчырасці. Як ціхая малітва. Як паклон...**

Вернісаж, які адбыўся амаль два месяцы таму, прымеркавалі да 75-годдзя Мітрапаліта Мінскага і Слуцкага Філарэта, Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі ды яго 32-гадовага служэння на землях беларускіх. Невыпадкова з гэтай урачыстай нагодай звязалі менавіта супольную мінска-яраслаўскую выстаўку святых выяў: сямейнымі каранямі ўладыка Філарэт (Кірыла Варфаламеевіч Вахрамееў), як вядома, звязаны з Яраслаўлем. Тут з пакалення ў пакаленне захоўваецца памяць пра яго прадзеда Івана Вахрамеева (1843 — 1908), бо Іван Аляксандравіч на пасадзе кіраўніка горада шмат зрабіў для ўратавання найбагацейшай духоўнай, мастацкай і культурнай спадчыны Яраслаўля.

У экспазіцыю ўвайшлі абразы нябесных заступнікаў, якія ад пачатку хрысціянізацыі найбольш шануюцца праваслаўнымі вернікамі. Яраслаўскі мастацкі музей прадставіў 33 узоры іканапісу, прысвечаныя архіепіскапам Міколу Мірлікійскаму ды Іяну Залатавусту. Частка гэтых твораў паходзіць з храмаў Яраслаўля і, дарэчы, была вядомая Івану Вахрамееву.

Наогул жа, у тамтэйшым мастацкім музеі захоўваецца каля дзвюх тысяч работ іканапісцаў XIII — пачатку XX стагоддзя. Спецыялісты вылучаюць у гэтай калекцыі унікальныя старажытныя помнікі, а таксама абразы XVII стагоддзя — сапраўдную адметнасць таго перыяду, з якім быў звязаны ўздым і росквіт зямлі яраслаўскай. На той час Яраслаўль лічыўся другім пасля Масквы горадам Рускай дзяржавы па колькасці насельніцтва і трэцім па заможнасці, багацці. Вылучалася і яраслаўская школа іканапісу: работы мясцовых майстроў пазнаваліся па манументальнасці вобразаў, вытанчанасці выяў і арнаментаў, па яркасці палітры, колеравых кантрастах, схільнасці да дэталёвага аповеда праз малюнкі, па мностве клеймаў...

У такой характэрнай манеры выкананыя і абразы, прывезеныя на выстаўку ў Мінск.

З гісторыі хрысціянства вядома, што ўсходнія славяне асабліва шанавалі святціцеля Мікалая, епіскапа Мір Лікійскіх (IV стагоддзе). Нікому іншаму са святых не прысвечана столькі храмаў. Таксама глыбока шануецца ў праваслаўі свяціцель Іяан Залатавуст (каля 350 — 407), вялікі прапаведнік, стваральнік чыну літургіі, якую і сёння правяць у храмах. На гэтыя прыярытэты і зарыентаваны змест яраслаўскай падборкі. У ёй як найбольш старажытныя і набліжаныя да цудатворнага вобраза Міколы Зарайскага вылучаюцца выявы свяціцеля Мікалая з чатырнаццаццю клеймамі жыція (сярэдзіна XVI ст.) ды Іяана Залатавуста (першая палова XVI ст.). А сярод беларускіх абразоў, што дапаўняюць экспазіцыю, ёсць каштоўнасць, датаваная 30-мі гадамі XVIII стагоддзя, з Успенскага сабора Жыровіцкага манастыра — "Прарокі Ісая ды Ерэмія", якая ў 2009 годзе ў ліку сямі святых выяў была перададзена ў збор НММ Беларусі пры актыўным садзейнічанні Мітрапаліта Філарэта.

Падчас адкрыцця гэтай выстаўкі адбылася сугучная ёй падзея: прэзентацыя кнігі "Храмы и монастыри Беларуси XIX века в составе Российской империи. Пересоздание наследия" (выдавецтва "Прогресс-Традиция", пры падтрымцы Расійскага гуманітарнага навуковага фонду, Масква, 2010). Аўтар кнігі — Інеса Слюнькова (на здымку), доктар архітэктуры, член-карэспандэнт Расійскай акадэміі архітэктуры і будаўнічых навук, галоўны навуковы супрацоўнік НДІ тэорыі і гісторыі выяўленчых мастацтваў Расійскай акадэміі мастацтваў. Інеса Мікалаеўна, грунтуючыся на архіўных і рэдкіх літаратурных крыніцах, прысвяціла гэтую працу царкоўнай гісторыі і архітэктуры Беларусі перыяду ўваходжання яе ў склад Расійскай імперыі. Кніга складаецца з чарады нарысаў, якія раскрываюць супярэчнасці храмабудаўніцтва беларускага краю ва ўмовах дзяржаўнай цэнтралізацыі і рэгулявання імперскім урадам культавага будаўніцтва на месцах, у гарадах і вясковых пасяленнях. Прадстаўленая кніга Інесы Слюньковай складае адзіны праект з яе ж выдадзенай у 2002 годзе манаграфіяй "Монастыри восточной и западной традиций. Наследие архитектуры Беларуси". Праект прысвечаны гісторыі ўзаемадзеяння культур Беларусі, Літвы, Украіны і Расіі ў сістэме ўплыву заходняга свету на сутыку заходняй і ўсходняй хрысціянскіх традыцый.

Прысутныя на адкрыцці выстаўкі, безумоўна, зацікавіліся новым выданнем, якое, сярод іншага, змяшчае праекты і пабудовы храмаў пэўнага перыяду, не вядомыя раней матэрыялы пра першыя спробы рэстаўрацыі помнікаў дойлідства, рэдкасныя графічныя дакументы XIX стагоддзя, паказальнік 549 манастыроў, што існавалі на тэрыторыі Беларусі ды памежных земляў...

"Святыя заступнікі ў праваслаўным іканапісе XVI — XIX стагоддзяў" — ужо трэці супольны праект мастацкіх музеяў Беларусі і старажытнага прыволжскага горада. І арганізатары выстаўкі ўпэўненыя, што найбагацейшыя калекцыі Яраслаўля і фонды Нацыянальнага мастацкага музея нашай краіны даюць магчымасць для працягу такога плённага супрацоўніцтва. А пакуль кожны з нас можа спрычыніцца да старадаўніх маляваных святыняў, якія выклікаюць асаблівае, ціхае захапленне, настройваюць на малітоўны лад, узносяць душу да веры ў жыццё вышняе і вечнае.

Лана ІВАНОВА

Фота Кастуся Дробава

## Пункціраў

•Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў з 80-годдзем народнага мастака СССР Ілью Глазунова. "Вы ўнеслі вялікі ўклад у сусветную культуру як адзін з найвялікшых мастакоў сучаснасці, які адыграў значную ролю ў захаванні, узбагачэнні і творчым развіцці традыцый рэалістычнага мастацтва. Вашы творы ўзбагацілі скарбніцу славянскай духоўнасці", — гаворыцца ў віншаванні.

•Спектакль Брэсцкага тэатра лялек "Месяц Сальеры" заваяваў Гран-пры на XIV Сусветным фестывалі тэатраў лялек, які адбыўся ў Празе. У конкурсе ўдзельнічалі 38 тэатральных калектываў з 24 краін Еўропы, Азіі і Амерыкі. Беларусы скараюць гэты фестываль ужо ў другі раз: у 2006 годзе брастаўчане атрымалі Гран-пры за спектакль "Халстамер".

•Каля Сафійскага сабора ў Полацку адбыўся фестываль сярэднявечнай культуры "Рубон", прымеркаваны да 1148-годдзя горада. Рыцарскія турніры, спаборніцтвы лучнікаў і вершнікаў, старажытныя славянскія гульні і танцы, кірмаш рамеснікаў ды шмат іншага пабачылі госці фестывалю, які праходзіць ужо ў трэці раз і з кожным годам становіцца ўсё больш насычаным.

•Прыватны арткінатэатр хутка адчыніцца ў Мінску. У ім будуць дэманстравацца сусветныя прэм'еры ў фармаце 3D, а таксама артхаўз. Асаблівасцю кінатэатра стане тое, што паказы ў ім будуць адбывацца кругласутачна.

•У Палацы мастацтваў завяршаецца Тыдзень іранскай культуры. Гэтымі днямі тут можна пабачыць унікальныя майстэрствы: танец з драўлянымі кіямі, дываны, жывапіс, традыцыйную пантаміму.

•Ураджэнец Баранавіч Сяргей Лазніца, які апошнія 9 гадоў жыве ў Нямеччыне, атрымаў галоўную ўзнагароду на расійскім кінафестывалі «Кінатаўр» за свой першы іграві фільм "Шчасце маё".

•У галерэі «Ракурс» Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі праходзіць II Мінская міжнародная біенале сучаснага жывапісу «COLORFEST». Сёлета ўдзел у мерапрыемстве бяруць мастакі з Беларусі, Украіны, Эстоніі, Латвіі, Літвы, Італіі, Расіі і інш. Яны прадставілі больш як 140 работ у рознай тэхніцы выканання.

•У межах Першага фестывалю беларускамоўнай рэкламы і прамоцыі Adnak! абвешчаны конкурс на найлепшы пераклад слоганаў замежных брэндаў на беларускую мову. Удзельнічаць могуць усе жадаючыя. Умовы конкурсу даступныя на сайце adnak.by.

•З 22 чэрвеня па 3 ліпеня ў Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва будзе працаваць выстава "Беларускі авангард 1980—1990-х гг.". Творы адабраныя з калекцыі Андрэя Плясавана, якая збіралася з 1975 года і налічвае больш як 1000 экспанатаў. У экспазіцыю ўвайшлі працы У.Акулава, А.Клінава, І.Кашкурэвіча, Л.Русавай ды іншых вядомых мастакоў-авангардыстаў.

•Выйшаў мультымедыйны праект пад назвай "Шляхамі Вілейшчыны". На дыску сабрана інфармацыя пра турыстычныя аб'екты — сядзібы, храмы, гарадзішчы, культавыя і памятныя камяні раёна, а таксама прадстаўлены звесткі пра гістарычных асоб краю.

•20 чэрвеня адзначаецца Сусветны Дзень бежанцаў, з гэтай нагоды ў Нацыянальным гістарычным музеі Беларусі адкрылася выстава 100 дзіцячых малюнкаў "Пад адным сонцам". Гэтыя працы, не аднародныя па сваёй мастацкай вартасці, адлюстравалі стаўленне школьнікаў да праблемы бежанства.

Саша ДОРСКАЯ

# Прынятыя ў Саюз пісьменнікаў Беларусі



АКУЛІК
Аляксандр Канстанцінавіч
Публіцыст

Нарадзіўся 4 чэрвеня 1939 года ў вёсцы Баранавічы Карэліцкага раёна Гродзенскай вобласці. Скончыў аддзяленне журналістыкі філфака БДУ. Працаваў у рэспубліканскіх газетах і часопісах, быў першым намеснікам галоўнага рэдактара газеты "Рэспубліка". Цяпер вядучы навуковы супрацоўнік аддзела міждзяржаўных адносін НАН Беларусі, дацэнт Інстытута журналістыкі БДУ. Аўтар шматлікіх нарысаў, апублікаваных у часопісах Беларусі і калектыўных зборніках. Выдаў шэсць кніг: "Колосья и родники" (1981), "Энергичнее, товарищ парторг" (1986), "За чеканной строкой Устава" (1989), "Старшынёў хлеб" (1984), "Капля вечности. Книга I" (2004), "Капля вечности. Книга II" (2005).



ЗАЛЕСКАЯ
Тамара Георгіеўна
Паэтэса

Нарадзілася 22 чэрвеня 1953 года ў г. Яльцы Ліпецкай вобласці Расіі. Скончыла філалагічны факультэт Маскоўскага дзяржаўнага універсітэта і аспірантуру пры гэтай навучальнай установе. Працавала ў БДУ на філалагічным факультэце, потым на кафедры рускай мовы Беларускага дзяржаўнага універсітэта культуры і мастацтваў.

Вядомая шырокай аўдыторыі як аўтар песенных тэкстаў. Вершы паэтэсы друкаваліся ў перыядычных выданнях і зборніках ("Мы храним тебя, Беларусь", "Отечеству служим"). У 2009 годзе пабачыў свет зборнік вершаў і песень Т.Залескай "Белые сады".



КІСЯЛЁЎ
Сяргей Андрэевіч
Паэт

Нарадзіўся 27 лютага 1950 года ў вёсцы Маркава Бабаеўскага раёна Валагодскай вобласці Расіі. Скончыў спецаддзяленне філалагічнага факультэта Ленінградскага дзяржаўнага універсітэта. Працаваў выкладчыкам рускай мовы як замежнай у Беларускай дзяржаўнай сельскагаспадарчай акадэміі (Горкі, Магілёўская вобласць). Скончыў аспірантуру пры БДУ. На працягу 7 гадоў быў загадчыкам кафедры рускай мовы БДСГА. Дацэнт кафедры педагогікі, псіхалогіі і сацыялогіі БДСГА.

Аўтар кніг паэзіі "Дорога домой" (2003), "Родник" (2004), "Светлый вечер" (2007), "Одинокий путь" (2010).

# «Белая Вежа» асталюецца ў Мінску

**Размова не пра помнік архітэктуры ў горадзе Камянец, а пра друкаваны орган Саюза пісьменнікаў Саюзнай дзяржавы — літаратурна-мастацкі часопіс "Белая Вежа". Плануецца, што першы нумар пабачыць свет у бліжэйшы час. Падрабязней пра выданне распавёў старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі, сустаршыня Саюза пісьменнікаў Саюзнай дзяржавы Мікалай Чаргінец.**

— Мікалай Іванавіч, чаму для часопіса абралі менавіта такую назву?

— Рабочая назва гэтага часопіса была "Собор". Але мы ўбачылі, што толькі ў Расіі 12 выданняў з такой назвай. Таму прыйшлі да высновы, што лепш назваць часопіс "Белая Вежа". Спачатку выданне будзе рускамоўным, але плануем па меры пашырэння чытацкай аўдыторыі частку рабіць і на беларускай мове. Бо ў Расіі пражывае шмат беларусаў, якія хацелі б чытаць на роднай мове.

— Хто будзе галоўным рэдактарам выдання?

— Галоўным рэдактарам абралі Васіля Шырко, пісьменніка, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь. Ён нам ужо прапанаваў макет першага нумара. Створана рэдакцыйная калегія, у склад якой увайшлі як прадстаўнікі Расіі, так і Беларусі. У прыватнасці, Валерый Ганічаў, старшыня Саюза пісьменнікаў Расіі. З нашага боку — не менш вядомыя літаратары. Рэдакцыя будзе знаходзіцца ў Мінску.

— Якая плануецца перыядычнасць часопіса?

— Перыядычнасць і тыраж залежаць ад попыту. Спачатку будзем выдаваць раз на два месяцы. Калі справа пойдзе, то паставім пытанне аб павелічэнні аб'ёму выдання і частаце выпуску. Мы гатовыя забяспечваць матэрыяламі два нумары ў месяц.

— Што будзе друкавацца ў "Белай Вежы"?

— Падабраны і вершы, і проза, і літаратурная крытыка, і інфармацыя. З уступным словам у першым нумары мы яшчэ не вызначыліся. Плануем надаваць вялікую ўвагу творчасці моладзі. У кожным нумары будуць прадстаўлены 1—2 пачаткоўцы. Усё залежыць ад аб'ёму. Абавязкова будуць інтэрв'ю і раздзел гумару. Зацікаўленасць да выдання вялікая: ад расійскіх пісьменнікаў ужо атрымалі шмат просьбаў выдаць іх творы.

Магчыма, ужо ў канцы чэрвеня мы ўбачым першы выпуск "Белай Вежы".

Аляксандр КУЛЕШ

## «Круглы стол»

**Фонд імя Фрыдрыха Эберта — найстарэйшы нямецкі фонд, які мае на Беларусі афіцыйнае прадстаўніцтва. Палітра яго дзейнасці — СМІ, прафсаюзы, эканоміка, мясцовае самакіраванне, сацыяльная сфера ды іншыя. Фонд актыўна запрашае ў нашу краіну экспертаў з Германіі. Днямі ў Мінску прайшоў "круглы стол" "Аб'яднаная Еўропа і еўрапейскія структуры", на які была запрошана сп. Карын Йонс — дэпутат Еўрапарламента цягам 15 гадоў: з 1994 па 2009 гг. Карын — яшчэ і журналіст, нейкі час была кіраўніком бюро па культурных сувязях Германіі і Францыі.**



# Агульныя каштоўнасці

Спадарыня Йонс распавяла пра канструкцыю Еўрасаюза, у які цяпер уваходзяць 27 дзяржаў, што размаўляюць на 23 мовах. Аднак не уніфікацыя, а культурная рознасць — мэта дзейнасці аб'яднаных структур. Сацыяльныя сістэмы павінны захаваць нацыянальны характар, прымаючы да ўвагі, што існуюць агульныя каштоўнасці, якія абвяшчае Еўрасаюз. Гэта клопат пра здароўе насельніцтва, абарона асабістых дадзеных пра чалавека і яго жыццё (абарона інфармацыі), правa на альтэрнатыўную ваенную службу ды іншыя. Надзвычай актуальна цяпер гучаць праблемы забруджвання навакольнага асяроддзя, бяспекі прадуктаў харчавання. Дэпутаты Еўрапарламента нагамаюцца, каб дырэктывы Еўрасаюза з'яўляліся і законамі. 70 працэнтаў нацыянальных заканадаўстваў, па словах Карын Йонс, з'яўляюцца рэалізацыяй еўрапейскага права.

Агульны рынак з 27 дзяржаў азначае і неабходнасць роўных ды справядлівых умоў для канкурэнцыі. Да таго ж, гэта 27 культур і ментальнасцей.

На пытанне карэспандэнта "ЛіМа", як сп. Йонс ацэньвае ўзровень узаемадзеяння дзяржаў, у тым ліку і Беларусі, у інфармацыйнай ды культурнай прасторы, яна адказала: "Трэба падкрэсліць, што культуры ў развіцці дэмакратыі маюць вялікую ролю. Культура даносіць дэмакратыю праз мастацтва, таму вельмі важна мець супрацоўніцтва ў гэтай сферы. Гэта першы мой візіт, і я магу сказаць, што вынікі сустрэч і дыялогаў паказалі: нават такі прыезд знова даць штуршок да ўзаемадзеяння. Але трэба пагаварыць са спецыялістамі, каб даведацца аб праектах, якія тут рэалізуюцца. Спадзяюся, што гэта будзе двухбаковы плённы працэс, вы будзеце нешта атрымліваць ад нас, ад еўрапейскай культуры, гэтаксама як і мы ад вашай".

Ірына ТУЛУПАВА

Фота Кастуся Дробава

## Хойнікі-2010

# Створым свята разам!

Паважаныя сябры!

Штогод у першую нядзелю верасня наша краіна адзначае нацыянальнае свята «Дзень беларускага пісьменства. У гэты дзень мы аддаём даніну павагі нашым продкам, якія стварылі фундамент адукацыі і пісьменства, усім, хто на працягу стагоддзяў шанаваў і нёс у свет цудоўную беларускую мову, хто ўпрыгожыў айчынную і сусветную культуру сваімі бессмяротнымі творамі.

Сталіцай XVII Дня беларускага пісьменства ў 2010 годзе стануць Хойнікі. Гэты непаўторны край узгадаваў не толькі народнага пісьменніка Беларусі Івана Мележа, які на ўвесь свет праславіў родную зямлю сваёй "Палескай хронікай", тут таксама нарадзіліся і выраслі празаік Барыс Сачанка, паэт Мікола Мятліцкі, паэтэса Ала Канапелька і інш.

Каб Дзень беларускага пісьменства прайшоў на самым высокім узроўні, запрашаем усіх неабыякавых людзей прыняць удзел у яго падрыхтоўцы. Вялікіх затрат патрабуе добраўпарадкаванне Хойнікаў: неабходна рэканструяваць дзіцячую бібліятэку, Дом культуры, гарадскі парк, былую панскую сядзібу, дзе неўзабаве будзе адкрыты краязнаўчы музей. У горадзе з'явіцца культурныя кампазіцыі герояў твораў Івана Мележа. Асабіста мы запрашаем прыняць удзел у дабрачыннай акцыі тых жыхароў Хойнікшчыны, якіх лёс раскідаў па розных кутках нашай краіны.

У вас ёсць шанц пакінуць сваё імя ў сучаснай гісторыі нашага краю. Свае грашовыя ахвяраванні можна дасылаць на разліковы рахунак 3641430000057 у філіяле 326 АСБ "Беларусбанк"
МФО 151501685,
г. Хойнікі, вул. К. Маркса, 4 УНН-400057081,
ОКПО-04063463.

Нацыянальны арганізацыйны камітэт па падрыхтоўцы і правядзенні Дня беларускага пісьменства.

## Фестывалі

# «Берагіня» запрашае на фэст

"Там подых дайніны глыбокай, а побач сённяшнія дні". Гэта радкі з верша пенсіянера, самабытнага паэта з вёскі Рассвет Акцябрскага раёна Васіля Русага, якія той прысвяціў фестывалю фальклорнага мастацтва "Берагіня". У раённым цэнтры Акцябрскі першы фэст ладзіўся ў 1998 годзе і сёлета праводзіцца шосты раз — з 24 па 27 чэрвеня.

"Эксклюзіў у цэнтры Еўропы" — адна з неафіцыйных назваў фестывалю, які ўзнік на падмурку жывой аўтэнтычнай культуры беларусаў. Як зазначыла загадчык аддзела бібліятэчнага маркетынгу Акцябрскай РЦБС Іта Грынкевіч, фэст дынамічна развіваецца, з кожным новым крокам уключае ў свае імпрэзы ўсё новыя віды і жанры матэрыяльнай і нематэрыяльнай спадчыны і прыцягвае да сябе ўсё больш моладзі. "Берагіня" з'яўляецца скарбніцай народнага духу, народнай мудрасці і адзіным фестывалем у Беларусі, які сканцэнтраваны на традыцыйнай культуры і пераемнасці яе каштоўнасцей вуснымі шляхам і метадам імітацыі. Зберагчы народныя традыцыі, паказаць іх унікальнасць не толькі для беларускай, але і сусветнай культуры — прызначэнне і місія "Берагіні".

Сярод асноўных мэт фестывалю — вывучэнне, адналенне і захаванне мясцовых (лакальных) традыцыйных культур; фарміраванне каштоўнасных арыенціраў беларускага грамадства ў кірунку асэнсавання значнасці традыцыйнага мастацтва ў сістэме сучаснай беларускай і сусветнай культуры; сумесная дзейнасць устаноў адукацыі, культуры, а таксама сям'і па ўсебаковым выхаванні падрастаючага пакалення сродкамі народнай спадчыны беларусаў; пашырэнне геаграфіі далучэння дзяцей, падлеткаў і моладзі да гісторыка-культурных каранёў сваёй Бацькаўшчыны…

Галоўны элемент фестывалю "Берагіня" — элемент сапраўднасці, тут заўсёды жывуць дзействы, святы, як гэта было ў народнай культуры. Фестываль — месца жыцця адвечнай песні, танца, карагода, скокаў, гульняў (асабліва абрадавых і прымеркаваных да абрадаў), засваенне твораў вуснай народнай прозы з адметнасцю кожнага рэгіёна, кожнай вёскі.

Віктар ЗАЯЦ

Літ-абсягі

# У гасцях — шведскі Мядзведзік

Швецыя, вядомая на ўвесь свет сваімі казкамі, імкліва набліжаецца да беларускага чытача. Услед за перакладамі "Малога і Карлсана-з-даху" і "Пiпi Доўгайпанчохі" Астрыд Ліндгрэн, а таксама аповесці "Маленькія тролі і вялікая паводка" шведскамоўнай пісьменніцы Туве Янсан, па-беларуску ў перастварэнні Надзеі Кандрусевіч загучаў твор Юі і Томаса Віcландэраў "Малы і Мядзведзік". Кніга выйшла нядаўна ў РВУ "Літаратура і Мастацтва". На прэзентацыі ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі прысутнічала сама аўтарка — спадарыня Юя.



Плюшавыя мядзведзі — "праваднікі ў краіну дзяцінства", як назвала іх вядучая імпрэзы пісьменніца Алена Масла, — былі паўнавартаснымі ўдзельнікамі сустрэчы. Тут прысутнічаў і сапраўдны ветэран цацачнага руху — 60-гадовы мядзведзь, прывезены супрацоўніцай бібліятэкі. Пасол Швецыі ў Беларусі Стэфан Эрыксан, які напісаў прадмову да кнігі, таксама захапіў з сабой даўняга плюшавага сябра сваёй старэйшай дачкі. Ён адзначыў, што Пасольства Швецыі ў Беларусі і надалей плануе апекавацца такімі выдавецкімі праектамі.

Юя Віcландэр распавяла, што пісаць для дзяцей яны з мужам Томасам пачалі больш як 35 гадоў таму. Сюжэты для сваіх апавяданняў, песень а таксама радыё- і тэлешоў для малых чэрпалі з гісторый, якія выдумлялі іх дзеці. "Усе мае кнігі — пра гульні, якім дарослыя не надаюць вялікага значэння, але дзеці шмат чаму на іх вучацца. Хачу падзякаваць усім, хто дапамог ажыццявіць гэты праект у Беларусі, але галоўнае — маім героям: Малому і асабліва Мядзведзіку, які з'яўляецца сімвалам дзіцячай фантазіі". Адказваючы на пытанні, аўтарка адзначыла, што па адукацыі яна філолаг шведскай мовы, але самымі важнымі яе настаўнікамі заўсёды былі дзеці, ад якіх яна атрымала галоўныя жыццёвыя веды. Яна таксама распавяла пра некаторыя асаблівасці шведскага дзіцячага кнігавыдання: "У нас немагчыма прадаваць толькі кнігу, да яе абавязкова павінны дадавацца пазлы, цацкі, гульні — тое, што прадугледжана маркетынгам. Таму мне прыемна, што ў Беларусі з такой увагай паставіліся менавіта да майго тэксту, а не да кнігі як тавара". Яна дадала: "Ілюстратары ў Швецыі займаюць такую ж высокую пазіцыю, як і аўтары кнігі. Беларускае выданне "Малога і Мядзведзіка" аздоблена тымі ж малюнкамі, што і шведскі арыгінал".

Сямейная пара Віcландэраў таксама праславілася сваімі кнігамі пра карову Маці Му, якія былі перакладзены на 30 моў свету. Пасля смерці мужа Юя на некаторы час перастала пісаць. Але ў 2003 годзе зноў вярнулася да любімых казачных герояў і сёння прыдумляе новыя прыгоды для сваёй славутай каровы. Застаецца спадзявацца, што і яны з часам прыйдуць у Беларусь.

Саша ДОРСКАЯ

На здымку: Юя Віcландэр (злева).

Арт-лінія

# Энцін... круглы год!

На казачным востраве Чунга-Чанга, як у песеньцы пяецца, —круглы год лета. А "Чунга-Чанга" разам са многімі іншымі папулярнымі савецкімі (расійскімі) песнямі на тэксты Юрыя Энціна — круглы год вакол нас. Яны гучаць у мастацкіх кінастужках, "мульціках", радыёканцэртах, тэлеперадачах... І — у Беларускім дзяржаўным акадэмічным музычным тэатры, дзе рэжысёр Настасся Грыненка, дырыжор Мікалай Макарэвіч, балетмайстар Дзмітрый Якубовіч ды сцэнограф Андрэй Меранкоў ажыццявілі арыгінальныя спектаклі "Бураціна.by" і "Прыгоды брэменскіх музыкантаў" з вершамі Ю. Энціна. Нядаўна да гэтых мюзіклаў адрасаваных і дзецям, і дарослым гледачам, дадалося "Энцін-шоу" ў пастаноўцы той жа творчай групы і з удзелам самога Юрыя Сяргеевіча.

Паказ папулярнага спектакля "Прыгоды брэменскіх музыкантаў", прымеркаваны да Міжнароднага дня абароны дзяцей, і прэм'ера "Энцін-шоу" склаліся ў дабрачынную акцыю тэатра, куды былі запрошаныя юныя гледачы з дзіцячых дамоў, сацыяльных цэнтраў і прытулкаў, асацыяцый шматдзетных сем'яў. Творчая сустрэча з расійскім госцем ладзілася ў атачэнні музычных нумароў з "культавых" мультфільмаў.

Паэт, драматург. Член Саюза пісьменнікаў і Саюза кінематаграфістаў Расіі. Аўтар песенных тэкстаў, знаёмых не аднаму пакаленню: "Антошка", "Крылатыя арэлі", "Лясны алень", "Вот оно какое, наше лето", "Прекрасное далёко", "Расскажи, Снегурочка...", "Ничего на свете лучше нету", "Бу-ра-ці-на!", "Кто на новенького?", "Говорят, мы — бяки-буки..." — увогуле, больш як 500 вершаў да "хітоў", напісаных ім разам з Г. Гладковым, А. Рыбнікавым, У. Шаінскім, Д. Тухманавым, іншымі знанымі кампазітарамі. Як суразмоўца Ю. Энцін — дасціпны, таварыскі, шчодры на добрыя эмоцыі. Мінская версія "Брэменскіх..." уразіла госця ўзроўнем выканання: "Я ўпершыню ўбачыў мюзікл не на Брадвеі: жывое гучанне аркестра з дырыжорам, жывыя спевы артыстаў, якія пры гэтым актыўна рухаюцца, танцуюць і не збіваюць дыханне! Думаў, што такое ёсць толькі ў Амерыцы, дзе летась мне давялося паглядзець сапраўдныя брадвейскія мюзіклы". У Расіі яго непрыемна ўражвае сённяшняе стаўленне да дзіцячых песень: "Няма ніводнай тэлеперадачы, куды я мог бы прынесці не знаёмыя публіцы песні, запісаныя ў свой час у выкананні М. Баскава, М. Баярскага, Л. Гурчанкі, Н. Гундаравай, Л. Гурчанкі, М. Карачанцава, Ф. Кіркорава, А. Пятрэнкі, Я. Шыфрына... Краіна СССР была маім прадзюсерам, не трэба было ніякіх асабістых знаёмстваў, каб прынесенае табою загучала ў эфіры. Сёння ў нас няма дзіцячай музычнай індустрыі, кіно і анімацыі — прадзюсіраваць творчасць для дзяцей камерцыйна нявыгадна. Да таго ж, песні-аднадзёнкі пачалі пісаць усе: кіраўнікі дзіцячых музычных калектываў, мамы і таты юных "зорак". А на нейкім дзіцячым тэлеконкурсе 11-гадовы хлопчык перамог, выканаўшы песню эратычнага зместу... Праўда, Віця Белан, вядомы ўсім як Дзіма Білан, 12 гадоў таму з песняй "Чунга-Чанга" перамог на ўсерасійскім конкурсе дзіцячай творчасці..." Ці не таму нарадзіўся Творчы цэнтр Ю. Энціна, арганізуюцца фестывалі, асацыяцыі па адраджэнні і распаўсюджванні песень на яго вершы?..



Нядаўна Ю. Энцін сабраў творы для 2-3-гадовых дзяцей і атрымаўся цыкл песень, прысвечаных чатыром сезонам: сапраўдны круглы год!

Святлана БЕРАСЦЕНЬ

На здымку: Юрый Энцін расказвае...

Фота Віктара Кавалёва

Повязі

# Паэтычны трохкутнік

У Гродне прайшоў I фестываль паэзіі беларускага памежжа з удзелам творцаў з Польшчы, Брэстчыны і Гродзеншчыны. Цэнтральным мерапрыемствам стала свята паэзіі "Бацькаўшчына светлая мая", зладкаванае ў Гродзенскай абласной бібліятэцы імя Я. Карскага. Яно было прымеркавана да VIII Рэспубліканскага фестывалю нацыянальных культур і сабрала літаратараў розных краін.



Ідэя вялікага паэтычнага фестывалю нарадзілася падчас адной з папярэдніх сустрэч у Беластоку, дзе створаны і дзейнічае культурны цэнтр Беларусі ў Польшчы. Творцы, чые кантакты не перарываюцца, вырашылі штогод праводзіць сустрэчы-справаздачы.

На паэтычнае свята ў Гродна завіталі прафесар Беластоцкага універсітэта, член Саюза польскіх пісьменнікаў, аўтар шматлікіх паэтычных зборнікаў Ян Чыквін, паэт, перакладчык, грамадскі дзеяч, член Саюза польскіх пісьменнікаў Віктар Швед, паэт, празаік, які піша на дыялекце роднай вёскі Віктар Сахвюк, паэт, аўтар некалькіх зборнікаў вершаў Юрый Буйнюк, празаік, паэт, журналіст Міраслава Лукша, кіраўнік культурнага цэнтра Беларусі пры пасольстве Рэспублікі Беларусь у Рэспубліцы Польшча Аляксандр Карачун, намеснік кіраўніка культурнага цэнтра Беларусі ў Беластоку Эдуард Швайко, сакратар Саюза пісьменнікаў Беларусі Сяргей Трахімёнак. Сярод шматлікай дэлегацыі брастаўчан — старшыня Брэсцкага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі Анатоль Крэйдзіч, таксама Алесь Каско, Анатоль Шушко, Алесь Паплаўскі, Георгій Тамашэвіч ды іншыя.

Паэты сустракаліся з моладдзю і чытачамі ў аўдыторыях, у краязнаўчых і літаратурных музеях. У бібліятэцы гаварылі не толькі пра сваё любімае і роднае слова — яны чыталі творы пра тое, што іх хвалюе, пра жыццё ва ўсіх яго праявах.

Віктар Швед прачытаў вершы для дзяцей. А на выставе, арганізаванай Гродзенскай абласной бібліятэкай, прэзентаваўся шэраг яго выданняў, у ліку якіх — зборнік "Вершы Натальцы". Чыталі свае вершы прадстаўнікі Украіны, Расіі, Малдовы, Азербайджана, Галандыі. І напоўніцу з вуснаў амаль усіх удзельнікаў гучала беларускае слова.

У Гродне Ян Чыквін падкрэсліў: колькі б ні было такіх сустрэч, для пісьменнікаў ніколі іх не будзе зашмат. Калі глядзець з пункта гледжання нашай культуры, літаратуры, мы ўсе знаходзімся ў атмасферы, якую ствараем. Добра было б, каб яна пашыралася. І прачытаў вершы, якія асацыяваліся з назваю сустрэчы — "Бацькаўшчына светлая мая" — як паэтычны зварот да сыноў і дачок, якія любяць бацькоў і айчыну.

Фестываль паэзіі — традыцыйнае мерапрыемства Рэспубліканскага фестывалю нацыянальных культур. Як зазначыла рэжысёр і сцэнарыст свята, старшыня Гродзенскай абласной арганізацыі СПБ Людміла Кебіч, гэта сапраўдны форум літаратараў беларускага памежжа.

Такім чынам, у Беластоку адбылася рабочая сустрэча прадстаўнікоў "паэтычнага трохкутніка", гродзенская праходзіла падчас Рэспубліканскага фестывалю нацыянальных культур, напярэдадні, у 2011 годзе, — берасцейская. А ў 2012-м літаратары збяруцца на фестываль у Беласток.

Ірына ТУЛУПАВА

На здымку: польскія кнігі на беларускай зямлі.

Фота аўтара

З-пад пяра

У Славянскай спецыялізаванай бібліятэцы г. Гомеля адбылася чарговая паэтычная вечарына. Кіраўнік школы "Малады літаратар" паэтэса Ніна Шклярава арганізавала сустрэчу з вядомым паэтам і мецэнатам Іванам Бісевым. Атрымаўся своеасаблівы майстар-клас, дзе Іван Васільевіч павёў гутарку аб прызначэнні паэтычнага слова ў нашым жыцці. "Музыка слова" — так назваў ён сустрэчу. Ніна Шклярава абвясціла, што на базе школы "Малады літаратар" паэтам Іванам Бісевым пры фінансавым забеспячэнні фірмы "Гомелькотлосервис" сёлета заснавана серыя "Аз" — першая кніга паэта. Першымі ластаўкамі гэтай серыі сталі зборнік вершаў на рускай мове "Обереги" Іны Спасібінай і сумесная кніга "Не наступайте птице на крыло" Дар'і Дарошкі і Уладзіміра Чарухіна.

Ала ДАРАШЭНКА

У Прэс-цэнтры Дома прэсы адкрылася дзіцячая выстава дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва "Чараўніцтва сваімі рукамі" народнага калектыву "Творчая скарбонка" сярэдняй школы № 200 горада Мінска пры падтрымцы газеты "Зорька". Дзіцячы калектыў "Творчая скарбонка" створаны ў 1988 годзе. Яго праца накіравана на прыцягненне навучэнцаў да народнага мастацтва Беларусі. Гэта вырабы з саломкі, керамікі, роспіс па дрэве, шклу. Навучэнцы калектыву прымаюць актыўны ўдзел у раённых, гарадскіх, рэспубліканскіх, міжнародных выставах, дзе заўсёды займаюць прызавыя месцы. У працэсе навучання дзеці творча развіваюцца: знаёмяцца з гісторыяй і відамі дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва Беларусі, яго нацыянальнымі рысамі, асаблівасцямі традыцый народнага мастацтва. Кіраўнік калектыву — член Беларускага саюза майстроў народнай творчасці, педагог выяўленчага мастацтва СШ № 200 Галіна Удодава.

Уладзімір ПАДАЛЯК

У сувязі з днём нараджэння А. С. Пушкіна Мінскае гарадское аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі арганізавала паэтычнае свята каля помніка класіку рускай і сусветнай літаратуры. Аб значэнні і вартасцях творчасці знакамітага творцы ў нашы дні ўзнёсла распавядаў сакратар Праўлення СПБ, старшыня сталічнага аддзялення СПБ Міхась Пазнякоў. Пра свае адносіны да вялікага Пушкіна, яго паэзіі і прозы выказаліся пісьменнікі Наталля Касцючэнка і Святлана Кражава. Прагучалі вершы паэтаў Наталлі Капы, Таццяны Лейкі, Лізаветы Палеес, Алы Чорнай, Міхася Пазнякова ў выкананні аўтараў. Некалькі песень на свае вершы праспявала пад гітару маладая пісьменніца Алена Свечнікава. Паэтычнае свята ў гонар А. С. Пушкіна будзе цяпер праходзіць каля помніка ў дзень нараджэння паэта кожны год.

Павел КУЗЬМІЧ

Больш як на 500 экземпляраў папоўніўся кніжны фонд Лідскай раённай бібліятэкі імя Янкі Купалы. Тут прайшла прэзентацыя літоўскай літаратуры. Падчас цікавай сустрэчы дэпутат сейма Літвы Гонтарыс Сангайла, кіраўнік аднаго з дэпартаментаў МЗС краіны Арвідас Даўнаравічус, консул Літоўскай Рэспублікі ў Гродне Даля Міцкене і намеснік старшыні таварыства "Вільня" з літоўскай сталіцы Ніёле Бальчунене падаравалі бібліятэцы стосы кніг на літоўскай мове. Тым самым спраўдзілася задума актывістаў суполкі лідскіх літоўцаў "Рута" мець у агульным доступе родную літаратуру. Дарэчы, фонд гэты будзе папаўняцца. У кулуарах вечарыны выказвалася такая думка: варта і нам, беларусам, паклапаціцца, каб мець падобныя фонды беларускай літаратуры ў Свянцянах, Шальчынінкаі, Эйшышках, Друскеніках.

Алесь ЖАЛКОЎСКІ

# Крыніца натхнення — Сярэднявечча

**Цікавасць да рыцарскага руху на Беларусі ўзнікла ў пачатку 1990-х. З той пары ў грамадстве адбылося шмат змен, не абмінулі яны і сучаснае рыцарства. Канстанціна Дударава, сёння прафесійнага рэканструктара даспехаў, музыку, скульптара, можна смела назваць "летапісцам" гэтай з'явы. Ён, стаўшы сябрам клуба ў 15 год, быў сведкам усіх этапаў развіцця руху і сучаснага рыцарскага ўзбраення — ад прымітыўных драўляных вырабаў да сапраўднай прафесійнай рэканструкцыі.**

— З чаго пачыналася ваша "рыцарская кар'ера"?

— У Мінскім дзяржаўным палацы дзяцей і моладзі ў 1993 годзе з'явіўся рыцарскі клуб "Рыцары Вялікага княства Літоўскага" пад кіраўніцтвам Арыны Вячоркі. Гэта было аб'яднанне падлеткаў гадоў 10 — 15-ці. Асноўнай мэтай суполкі лічылася вывучэнне гісторыі Беларусі і паездкі па месцах, якія маюць гісторыка-культурнае значэнне. Можна сказаць, клуб меў толькі агульна-пазнаваўчы ўзровень. Праз некаторы час да працы далучыўся Дзмітрый Нясцюк, адзін з заснавальнікаў беларускага рыцарскага руху. Ён працаваў на студыі "Беларусьфільм" і ведаў, як граматна зрабіць бутафорыю. Менавіта ён і пачаў нас вучыць правільна рабіць касцюмы. У хуткім часе Дзмітрый стаў кіраўніком рыцарскага клуба, які атрымаў назву "Ордэн Сэрца Дракона", і 15 ліпеня 1995 года ў Палацы дзяцей і моладзі адбыўся першы рыцарскі турнір, прысвечаны гадавіне Грунвальдскай бітвы. Мне пашчасціла стаць яго пераможцам. У 1998 годзе мы з'ездзілі ў Расію, дзе рыцарскі рух пачаўся крыху раней, і "запазычылі" адтуль рэканструкцыю. У 1999 годзе ўжо колькасна большы клуб атрымаў назву "Ордэн Паўночнага храма", мы сталі рэканструяваць тампліераў. Пачалі ездзіць на міжнародныя фестывалі. У 2000 годзе ўпершыню трапілі на Грунвальд. Пры інсцэніроўцы бітваў, нягледзячы на гістарычную неадпаведнасць (у пачатку XV ст. тампліераў ужо не існавала), даводзілася граць тэўтонцаў, бо мы мелі касцюмы з крыжамі. З таго часу патрабаванні да ўдзелу ў рыцарскіх турнірах сталі больш жорсткімі: зараз для ўдзелу ў фестывалях на Грунвальдскім полі патрэбна мець касцюм і даспех непасрэдна канца XIV — пачатку XV стагоддзяў.

— Якія людзі звычайна прыходзяць у рыцарскі клуб?

— Вельмі розныя, з розных слаёў грамадства. У асноўным юнакі і дзяўчаты ва ўзросце ад 15 — 16-ці да 25-ці год, не толькі студэнты, але і тыя, хто ўжо працуе. Неяк нават праваслаўны свяшчэннік стаў сябрам клуба. Я запытаўся, чым яго прывабіла суполка, якая займаецца рэканструкцыяй тампліераў, гэта ўсё ж такі каталіцкі ордэн. Ён адказаў: гэта яму блізка па духу, цікава, і нічога страшнага ці дзіўнага сам у гэтым не бачыў. У самым пачатку нашай дзейнасці праводзілася даволі шмат мерапрыемстваў, і амаль пасля кожнага з іх быў прыток новых сяброў. Зараз спецыфіка клуба больш вузкая: рэканструкцыя даспехаў канца XIII — пачатку XIV стст., ёю зацікавіць непадрыхтаванага чалавека цяжка.

— У рыцарскім руху вы ўжо даўно, ці назіраеце змены, што адбываюцца ў гэтай з'яве?

— За час існавання рыцарскі рух вельмі змяніўся, ён схіляецца больш у бок рэканструкцыі. З'явіліся і новыя адгалінаванні, напрыклад, рух "Livinghistory" (ажыўленне гісторыі): яго прыхільнікі жывуць ва ўмовах, адпаведных розным гістарычным эпохам. З іншага боку, зараз з'явіліся рэканструктары, якія глыбока вывучаюць справу, але не ўсіх іх можна назваць сярэдневяковымі па духу. У іх утварылася свая мова, жаргон, склалася тусоўка, але самае важнае — дух эпохі — даволі часта адсутнічае.

— Рэканструкцыю можна назваць відам мастацтва?

— Калі звяртаць увагу на вышыўку, аздабленне касцюма, мастацкую апрацоўку металу, канечне, гэта мастацтва. Але сам рух гістарычнай рэканструкцыі не толькі мастацтва, але і культурная з'ява. Шмат людзей, зацікаўленых гісторыяй, такім чынам рэалізуюць сваё alter ego, у той жа час зберагаючы і аднаўляючы спадчыну, што засталася нам ад продкаў. На маю думку, гэта вельмі важна.

— Можна прасачыць эвалюцыю "баявога касцюма", якая адбывалася разам з развіццём рыцарскага руху?

— Спачатку мы біліся на драўляных мячах, мелі алюмініевыя кальчугі, бляшаныя даспехі, карацей, бутафорыя была ва ўсім. Да таго ж, крыніц інфармацыі было мала, усё збіралася па фільмах і кнігах. Але жаданне і цікавасць, захапленне Сярэднявеччам былі моцнымі, і энергіі было шмат. Калі ўжо пачалі займацца рэканструкцыяй мэтанакіравана, з'явіўся больш вольны доступ да сеткі Інтэрнэт, сталі збірацца прафесійныя матэрыялы, пачалі рабіць стальныя шлемы, кальчугі. А паколькі я ў той час вучыўся ў Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў, шмат увагі аддаваў мастацкаму складніку даспеха, яго знешняму выгляду. Спачатку даспехі былі бляшанымі, потым стальнымі. Я спецыяльна вывучаў усе пытанні экіпіроўкі, нават у самым пачатку, у 1995 годзе, у сваім клубе быў самым "закаваным" рыцарам: меў з ацынкоўкі жалезныя ногі, латныя рукі, кальчугу і шлем напалову з пластмасы, напалову з жалеза. Паступова асвоіў чаканку, зрабіў акцэнт на даспехі XV — XVI стст, той час, калі назіраўся росквіт даспешнага майстэрства. Рабіў даспехі сабе і паралельна выконваў нейкія просьбы сяброў.

— Рэканструктарская дзейнасць уплывала на вучобу ў Акадэміі мастацтваў?

— У акадэміі я займаўся скульптурай, але тэматыка ўсіх мастацкіх работ была так ці інакш звязана з Сярэднявеччам, рыцарствам. Гэта была і жыццёвая аснова, і крыніца натхнення.

— Як атрымалася так, што рэканструкцыя, па сутнасці хобі, стала вашым асноўным заняткам?

— У 2005 годзе Віктар Шаўцоў, мой знаёмы з іншага рыцарскага клуба, інжынер па зварцы, тэхнолаг, прапанаваў працаваць разам. Мы арганізавалі творчую майстэрню "Стальная спадчына". Я, чалавек з мастацкім пачаткам, стаў займацца эстэтычным аспектам працы, Віктар — тэхнічным. З намі працуе і Аляксандр Чудоўскі, майстар на ўсе рукі, які адзін з першых у Беларусі зрабіў сапраўдны жалезны даспех. Мы сталі выконваць заказы шырокага профілю. Працуем з музеямі, напрыклад, з Мірскім замкам, з прыватнымі заказчыкамі.

— Ваша цікавасць да гістарычнай рэканструкцыі змянілася з часам? Чаму менавіта Сярэднявечча?

— Насамрэч, мяне, як і любога хлопчыка, з дзяцінства прываблівае ваенная гісторыя. У кожным гістарычным перыядзе можна знайсці непаўторныя, адметныя рысы — і ў Антычнасці, і ў час напалеонаўскіх войнаў. Мяне цікавяць парусныя караблі, што ствараліся ў Новы час, захапляе мастацтва ўсіх перыядаў. Але Сярэднявечча вылучаецца з іншых эпох рыцарствам. Гэта дзейнасць мне блізкая і таму, што менавіта ў вырабе даспехаў я змог выкарыстаць свае веды і ўменні, рэалізаваць магчымасці. Рэканструкцыя, рамантыка, дух Сярэднявечча — мой жыццёвы стрыжань, ён нязменна прысутнічае ва ўсім, чым я займаюся. І кнігі мне цікава чытаць, і быць удзельнікам сярэднявековых фестываляў, і рукамі штосьці рабіць — у любым выглядзе мяне гэта прываблівае, мае сваё значэнне. Так атрымліваецца, што, калі чалавек займаецца пэўнай справай доўга і мэтанакіравана, трэба або павышаць узровень, або заканчваць працу у гэтым кірунку. Трэба самому даваць сабе заданні, імкнуцца пераадольваць цяжкасці, не баяцца вучыцца чамусьці новаму.

Гутарыла Марына ВЕСЯЛУХА



На здымку: Канстанцін Дудараў.



# Тэатральны відарыс

**У адпаведнасці з архіўнымі матэрыяламі, ужо з 1880 года ў Барысаве дзейнічала "Аб'яднанне аматараў элегантных мастацтваў", разам з папулярнымі тады вадэвілямі ў рэпертуары драмкалектыва былі п'есы Мікалая Гогаля, Аляксандра Грыбаедава, Аляксандра Астроўскага. Прадаўжальнікам традыцыі гэтага аматарскага калектыва з'яўляецца народны тэатр "Відарыс", які не так даўно адсвяткаваў юбілей: 50 год з дня надання яму статусу народнага і 5 год з часу атрымання звання "Заслужаны аматарскі калектыў Рэспублікі Беларусь".**

Каб павіншаваць калектыў са святам, у тэатральнай зале Палаца культуры імя Максіма Горкага горада Барысава, сабраліся "выпускнікі" тэатра — маладыя людзі, чый творчы шлях пачынаўся ў "Відарысе", яго ранейшыя акцёры, ганаровыя госці. Начальнік упраўлення культуры Мінаблвыканкама Анатоль Акушэвіч, галоўны рэжысёр Мінскага абласнога цэнтра народнай творчасці Ала Ганецкая, дацэнты Беларускага дзяржаўнага універсітэта культуры і мастацтваў Зінаіда Пасюціна і Ларыса Бондарава, народная артыстка Беларусі Марыя Захарэвіч, прадстаўнікі мясцовых улад выказалі ўдзельнікам тэатра словы шчырага захаплення, удзячнасці за шматгадовую паспяховую працу, пажадалі творчых поспехаў, натхнення і спрыяння нябёсаў.

На святкаванні быў паказаны прэм'ерны спектакль "Каласнікі" па п'есе Аляксандра Шчуцкага. Сам аўтар п'есы, які зараз працуе ў Рускім дзяржаўным драматычным тэатры Літвы, прысутнічаў на свяце. Ён падкрэсліў майстэрства і самааддачу акцёраў пры стварэнні вобразаў, высокі ўзровень рэжысуры Уладзіміра Буйко, выказаў удзячнасць галоўнаму рэжысёру за тое, што яго смелае рашэнне не супярэчыла аўтарскай задуме.

Усе ўхвальныя словы ў адрас калектыва былі выказаныя справядліва, бо дзейнасць сучаснага аматарскага тэатра Барысава грунтуецца на шматгадовай традыцыі. Яшчэ ў сярэдзіне 1920-х, калі існавалі тэатралізаваныя вусныя чытанні "Сіняя блуза" (па назве гуртка журналістыкі Маскоўскага дзяржуніверсітэта), калектыў барысаўскіх сінеблузнікаў уваходзіў у лік найбольш цікавых на Беларусі. Вясной 1933 года тут быў створаны Трам (тэатр працоўнай моладзі), які потым стаў Барысаўскім калгасна-саўгасным тэатрам. Над калектывам узяў шэфства Першы дзяржаўны беларускі тэатр БДТ-1 (цяпер Нацыянальны тэатр імя Янкі Купалы). Першую сталую прафесійную трупу Барысаўскага тэатра стварылі акцёры, якія на працягу года вучыліся тэатральнаму майстэрству ў БДТ-1. У 1938 годзе тэатр перавялі ў Заслаўе, затым у Пінск і Магілёў, але аснову трупы доўгі час складалі барысаўчане.

У пасляваенныя гады, калі быў аднаўлены Дом культуры, у яго сценах пачалі з'яўляцца калектывы мастацкай самадзейнасці, у тым ліку драматычны гурток. Сапраўдным яго поспехам стала пастаноўка п'есы "Машэка". Менавіта дзякуючы гэтаму спектаклю ў 1959 годзе барысаўскаму самадзейнаму калектыву, аднаму з першых на Беларусі, было нададзена званне народнага тэатра.

Потым былі гастролі па Беларусі, поспех асобных спектакляў (пастаноўка п'есы А. Салынскага "Барабаншчыца" была паказана аж 147 разоў), выступленне ў Маскве на сцэне Крамлёўскага палаца…

У 1986 годзе калектыў узначаліў Уладзімір Буйко, які і сёння з'яўляецца яго галоўным рэжысёрам. З таго часу калектыў узмацніўся, тэатр атрымаў пастаянную сцэну і залу ў Палацы культуры імя Максіма Горкага. З 1991 года народны тэатр мае назву "Відарыс" — іграю тое, што бачу, што адчуваю — так тлумачаць сімвалізм назвы самі акцёры. І сёння "Відарыс" — супольнасць таленавітых прафесійных акцёраў і аматараў, людзей апантаных і творчых. Калектыў тэатра — 35 чалавек — людзі, якія звязалі сваё жыццё з тэатрам і аддаюць яму вольны ад працы час. Шмат для каго з іх хобі стала прафесіяй.

Уладзімір Буйко, чалавек, які калісьці ў тэатр прыйшоў з завода, дзе працаваў інжынерам-тэхнолагам, затым скончыў рэжысёрскае аддзяленне Беларускага дзяржаўнага інстытута культуры і мастацтваў, з упэўненасцю кажа: "Відарыс" — гэта маё жыццё, тут вырас я сам, выраслі мае дзеці. Гэта тое, чым я жыву". Ён адзначае, што ў ліку акцёраў — людзі розных прафесій: настаўнікі, інжынеры, рабочыя. Яны прыходзяць у тэатр па розных прычынах, якія часта нават складана вытлумачыць. Ён падкрэслівае, што не аддае перавагу спектаклям пэўнага накірунку, з задавальненнем рыхтуе пастаноўкі п'ес як беларускіх, так і замежных драматургаў. Дзеліцца і творчымі планамі: "Зараз для абласнога фестывалю "Бярэзінская рампа" рыхтуем прэм'еру спектакля "Нельская вежа" па п'есе Аляксандра Дзюма".

Для многіх маладых людзей "Відарыс" стаў падмуркам, на якім утварылася новая жыццёвая філасофія, пасля таго, як, здавалася б, усе арыенціры былі страчаны. Гэты ж тэзіс суадносіцца і са старэйшым пакаленнем акцёраў. Юрый Панамароў — сапраўдны старажыл тэатра, ён прымае ўдзел у яго працы з 1957 года, з таго часу, калі яшчэ існаваў драматычны калектыў. Па адукацыі юрыст, Юрый Аляксандравіч некалькі год не займаўся акцёрскай дзейнасцю, але з выхадам на пенсію зноў удзельнічае ў пастаноўках. Для яго "Відарыс" — дом, сям'я, задавальненне, праца. Ён заўважыў, што і маладое пакаленне акцёраў — людзі добрыя, апантаныя тэатральнай дзейнасцю, па духу яны зусім не адрозніваюцца ад сталага пакалення акцёраў.

Добра, што ў тэатры "Відарыс" існуе ўнутраная традыцыя пераемнасці пакаленняў. Радуе і тое, што любімай пастаноўкай калектыва з'яўляецца спектакль "Прышэсце", створаны на аснове рамана Уладзіміра Караткевіча "Хрыстос прызямліўся ў Гародні". А гэта значыць, на шляху да новых, мадэрновых вышынь, у працэсе творчых пошукаў і эксперыментаў традыцыі беларускай класікі будуць захаваныя.

Марына ВЕСЯЛУХА

На здымку: рэжысёр тэатра "Відарыс" Уладзімір Буйко ў вобразе манаха з пастаноўкі "У Вероне — карнавал!".

Фота аўтара

# Хто разгадае «тайну» гісторыі?

Гэту кнігу варта не толькі пагартаць, але і прачытаць, — уважліва, павольна, удумліва. У новай кнізе Славаміра Антановіча — дакументальныя нарысы "Ушедшие в бессмертие" (Мінск, "Мастацкая літаратура", 2010) — паказаны вельмі складаны адрэзак часу і сотні вядомых і невядомых імён. Палітычныя, дзяржаўныя, ваенныя дзеячы, вучоныя, пісьменнікі… Сёння іх яшчэ называюць ахвярамі палітычных рэпрэсій 30-х гадоў.



Пра гэта шмат напісана пісьменнікамі, журналістамі, гісторыкамі. Чытач цікавіцца: хто і навошта арганізоўваў рэпрэсіі ў рэспубліцы і ці маглі іх пазбегнуць.

Славамір Антановіч не навічок у гэтай заблытанай праблематыцы, як аўтар кнігі "Прыгавораныя да расстрэлу", ён не збочвае са свайго высакароднага шляху — дакапацца да праўды. Ён сабраў рэдкія дакументальныя сведчанні судовых працэсаў і саміх шматлікіх ахвяр, іх ліставанне — каштоўнейшы матэрыял, без якога немагчымы навуковы аналіз і высвятленне прычын палітычных рэпрэсій.

Дзевятнаццаць раздзелаў кнігі С.Антановіча, напісаных на аснове архіўных дакументаў КДБ і шматлікіх літаратурных крыніц успрымаюцца як трагічны раман ці неверагодна пакутлівыя карціны жыцця, убачаныя ў страшным сне. Разгледзім тыя "справы", якія асабліва ўражваюць і выклікаюць глыбокі роздум.

У нашы дні, у год 65-годдзя Вялікай Перамогі, шмат разважаюць аб трагічным пачатку вайны. Усіх бянтэжыць чэрвень сорак першага. Так гэта ці не, але кажуць, што адразу развалілася Заходняя ваенная акруга. Яе камандуючы, генерал арміі Дзмітрый Паўлаў, быў выкліканы ў Маскву. Славамір Антановіч піша: "7 ліпеня 1941 года генерала Дзмітрыя Паўлава павялі на першы допыт. То быў не спецыяльны бокс, у якім звычайна дапытвалі арыштаваных, а чыйсьці кабінет, які часова пуставаў. Следчы, немалады ўжо чалавек са знакамі адрознення старшага батальённага камісара, сядзеў за масіўным пісьмовым сталом, перабіраючы нейкія паперы:

— Сядайце, грамадзянін Паўлаў.

Кароткім жэстам рукі паказаў на крэсла побач:

— Мне даручана весці следства па вашай справе, — і размашыста напісаў на шчыльнай кардонай вокладцы: "Справа № Р-24000". Унізе дапоўніў: "Па абвінавачванні ...у здзяйсненні злачынстваў, прадугледжаных артыкуламі..."

Аўтар намаляваў пачатак, здаецца, вельмі празрыстай "справы", якая ўзнікла ў выніку цяжкага злачынства — здрады Радзіме. Апісаўшы адзін рэальны факт, ён адразу паставіў шмат нявырашаных пытанняў, на якія сучасная грамадкасць ужо наўрад ці зможа адказаць. Звернем увагу толькі на два. Чаму судовыя органы пагадзіліся з тым, што ў тых страшэнных абставінах генерал Паўлаў сапраўды здзейсніў злачынства? Тут, здаецца, усё ясна: ён не садзейнічаў немцам прабівацца ўглыб краіны. А няўжо І.В.Сталін узрадаваўся, што з'явілася магчымасць забіць яшчэ аднаго генерала? Думаецца, Сталіну нялёгка далося гэтае рызыкоўнае рашэнне: пакаранне смерцю генерала, як вызначальнае для далейшага ходу вайны. Бо наш хаос і неарганізаванасць нярэдка былі знаходкай для праціўніка. У нарысе "Беларуская справа", у якім гаворыцца пра махлярства наркома дзяржбяспекі БССР Лаўрэнція Цанавы, між іншым, у дужках: "Праз месяц камандуючага Заходняй акругай генерала арміі Д.Паўлава расстраляюць "са згоды" П.Панамарэнкі і Л.Цанавы". Выходзіць, што нашы, рэспубліканскія начальнікі аблегчылі Сталіну задачу. Дык хто ж загубіў генерала: Сталін, Цанава, Панамарэнка ці трагічныя гістарычныя абставіны?.. Гісторыя не дае пэўных адказаў, а толькі адлюстроўвае ход часу.

Шмат новага і нечаканага даведаемся мы з кнігі пра такіх дзяржаўных дзеячаў Беларусі як Сяргей Прыгіцкі, Вера Харужая, Максім Ляўкоў, Мікалай Галадзед, Аляксандр Чарвякоў ды іншых. Вельмі змястоўна і тактоўна напісана пра старшыню Саўнаркома БССР Мікалая Галадзеда і старшыню ЦВК БССР Аляксандра Чарвякова. І хаця пра іх мы многае ведаем, у нарысах знаходзім тое, што захапляе і уражвае. Людзі часам пытаюцца: ці ведалі ахвяры палітычных рэпрэсій пра тых, хто падштурхоўваў іх да турмы. Аўтар змясціў найкаштоўнейшую звестку: "За два дні да гэтага (арышту) Берман накіраваў наркому ўнутраных спраў СССР Мікалаю Яжову матэрыялы, канфіскаваныя ў час вобыску ў Галадзеда: "Пра людзей, якія мяне цкавалі". Абгаварыць таварыша па службе, напісаць данос — прыкмета маральнай недасканаласці людзей, зайздросніцкай і іншадумцаў, шкурнікаў. У кнізе зноў знаходзім надзвычай цікавы факт пра оперупаўнаважанага Рулёва, якому было даручана ахоўваць арыштаваната Галадзеда ў памяшканні НКУС, і пад "аховай" якога старшыня Саўнаркома выкінуўся з акна 5-га паверха. Той жа Берман паведамляе ў Маскву Яжову: "...У выніку вобыску ў доме Рулёва знайшлі ў даволі значнай колькасці золата, у выглядзе манет і вырабаў, пасярэбраныя крыжы...". Робіцца выснова, што ў забойстве М.Галадзеда віноўныя не толькі маскоўскі Крэмль, але яшчэ больш — мясцовыя кіраўнікі і прыкнуўшыя да іх цемрашалы.

Добра дасведчаны аўтар з глыбокім аналізам апісаў ход XVI з'езду КП(б)Б. Хто на ім больш за ўсё цкаваў Аляксандра Чарвякова? Хто, не чакаючы агентаў Масквы, першым убычыў у ім вялікую небяспеку для рэспублікі? Свае, яго паплечнікі, савецка-партыйныя дзеячы. На іх думку, Чарвякоў дрэнна арганізаваў барацьбу супраць "ворагаў народа", і яны пераўтварылі з'езд у арэну палітычнай кары. Не вытрымала сэрца бязлітасная хлусні, і старшыня ЦВК узяўся за пісталет. У пасмяротным лісце Аляксандр Рыгоравіч напісаў: "Я ведаю, што здзяйсняю жудаснае злачынства, але прашу ніколі не змешваць мяне з ворагамі народа". Нарыс — задужа вузкі жанр пра жыццё, узлёт і трагедыю Чарвякова, і спроба ўпрыгожыць яго дакументальнасць мастацкім абрамленнем, нічога не вырашае. Няўжо ніхто з таленавітых беларускіх пісьменнікаў не напіша пра гэтага чалавека мастацкі твор, які заняў бы пачэснае месца ў нашай нацыянальнай літаратуры? Думаю, такія пісьменнікі знойдуцца.

У кнізе С.Антановіча з болем у душы гаворыцца пра маладых пісьменнікаў 20 — 30-х гадоў, многія з якіх адначасова былі і актыўнымі грамадска-палітычнымі дзеячамі. У вялікім нарысе "Герой рэйкавай вайны", прысвечаным Панцеляймону Панамарэнку, нейкія моманты іх нялепшага жыцця адлюстраваны ў дакументах (вытрымкі з газет, стэнаграмы, пратаколы, шыфратэлеграмы). Можна пазнаёміцца з рэдкімі матэрыяламі, якія датычыцца Я.Купалы, Я.Коласа, М.Лынькова, А.Куляшова, П.Броўкі, К.Чорнага, П.Глебкі, К.Крапівы і іншых, без якіх мы не ўяўляем нашу гісторыю. А вось лісты Міхася Лынькова сакратару ЦК КП(б)Б П.К.Панамарэнку, на жаль, не сталі тымі дакументамі, дзе высвятляецца праўда. Упамінаецца малады пісьменік Янка Скрыган, які потым марнаваўся ў высылках 20 год. Вярнуўшыся ў Мінск, ён напісаў успаміны "Горкая далячынь", у якіх выказаў вельмі слушныя думкі аб "нелюдзях", якія пераўтаралі звычайнага чалавека ў злачынцу.

У сваёй сацыяльна значнай кнізе С.Антановіч паказаў, як шмат рабілася ў краіне зла, як марна гінулі народныя таленты. Такой была эпоха, такой была воля людзей, якія кіраваліся мэтамі свайго часу і сваімі рознымі, часам эгаістычнымі памкненнямі. І кніга напамінае пра тое, каб заганнае, ірацыянальнае ў палітыцы не паўтаралася, каб чалавек заўсёды адчуваў другога чалавека як духоўнага сабрата і невычэрпную крыніцу жыцця.

Аднак хтосьці не дае нам жыць спакойна, у згодзе, узаемапавазе. Мы ўсё выкрываем, ваюем між сабой, пакутаем, а годнасці і шчасця не дадаецца. Час загойвае нашы раны, а мы іх зноў адкрываем. Прыйшоў новы час, і будзем спадзявацца "прыйдзе новы — а мудры — гісторык" і хай ён дапоўніць, абагульніць сабранае, а мы будзем аптымістычна будаваць больш дасканалае грамадства, раскрываючы свае таленты дабрыні і чалавекалюбства. Прыклад таму — дакументальная кніга С.Антановіча "Ушедшие в бессмертие", у якой таксама разгадваюцца "тайны" гісторыі тых часоў.

Эдуард КАРНІЛОВІЧ

# Маленькая Машынка і… вялікае жыццё

Пагадзіцеся: усё ж не так і часта надараецца, каб, узяўшы ў рукі кнігу для дзяцей, чытаў яе, быццам яшчэ знаходзішся ў тым узросце, калі ўсяму хочацца здзіўляцца. Кніга ж казак Наталлі Бучынскай "Прыгоды маленькай Машынкі", выпушчаная выдавецтвам "Мастацкая літаратура" ў бібліятэчцы "Казкі XXI стагоддзя", акурат і з'яўляецца такім прыемным выключэннем. Праўда, калі быць дакладным, дык гэта ўсё ж аповесць-казка, хоць сама аўтар і не пазначыла гэтага.



Што "Прыгоды маленькай Машынкі" — аповесць, сумнення няма, бо ўсе 19 раздзелаў, прадстаўленых у зборніку, па сутнасці сюжэтна звязаныя між сабой. Дасягаецца гэта дзякуючы таму, што ў кожным з твораў прысутнічае галоўная гераіня, якую завуць... Так, правільна — Машынка. Зноў жа — персанаж арыгінальны, непадобны да тых, што сустракаюцца ў кнігах іншых пісьменнікаў, і, несумненна, сучасны. Узяты, як кажуць, з самога жыцця. У дадзеным выпадку — жыцця маленькіх, пра што, дарэчы, і згадвае ў сваім слове-ўступе Н.Бучынская.

Пра тое ж, як задумвалася кніжка, Н.Бучынская расказвае наступнае: "З тае пары, як у мяне нарадзіліся два сыночкі, гэтая гульня (у машынкі. — А.М.) стала самай папулярнай у нашай сям'і. З раніцы да вечара машынкі ездзілі, гулі, буксавалі, уразаліся ў мэблю, плінтусы, а бывала, і ў татаву нагу, калі не паспее адскочыць. Дзеці не хацелі развітвацца з любімай гульнёй нават у ложку. Яны прасілі: "Мама, раскажы казку пра машынку!"

Хіба ж магла пасля ўсяго гэтага мама не пайсці насустрач любай малечы? — "Каб казка з'явілася, мне давялося ўявіць сабе, што машынка жывая і як яна пачуваецца ў розных жыццёвых сітуацыях. І ведаеце, мяне гэта захапіла. Я стала больш пільна прыглядацца да машын — і гісторыі самі пацяклі да мяне ручаём".

Што атрымалася, відаць з гэтых казачных аповедаў. Як у папулярнай песні, "с голубого ручейка начинается река", так у творах Н.Бучынскай гісторыя да гісторыі і — паступова нараджаецца займальная і дасціпная аповесць-казка. Але тое, пра што расказвае пісьменніца, хоць і народжана фантазіяй, не адарвана ад рэальнасці, у якой жывуць хлопчыкі і дзяўчынкі. Яна ж, як вядома, такая, што ў іх уяўленні ўсё тое, што акружае іх, адушаўлёнае, жывое.

Прыгоды жывой Машынкі — гэта па сутнасці тое, што магло адбыцца з сапраўднай машынай. З той толькі розніцай, што сапраўдная машына не здатная перадаць свой стан, выказаць адносіны да таго ці іншага здарэння. Маленькая ж Машынка ўсё гэта можа рабіць, бо яна — з казкі, а ў казцы ўсё магчыма.

Калі чытаеш пра тое, як маленькую Машынку "зусім нядаўна сабралі на заводзе, паставілі рухавік, залілі бензін, і магутная машына адвезла малую ў вялізны гараж", прадчуваеш, што менавіта з гэтага моманту ўсё і пачнецца. Што ў такім разе казаць пра маленькіх чытачоў ці слухачоў, хоць, думаецца, аповесць-казка ўсё ж больш падыходзіць менавіта для дзетак, якія, як некалі і сынкі Н.Бучынскай, гатовы слухаць "Казку пра машынку!" І мама альбо бабуля, узяўшы ў рукі гэтую кнігу, пачнуць ім "расказваць", перадаючы змест таго, што адбывалася з маленькай Машынкай, якая апынулася ў гаражы поруч з іншымі машынамі.

Сярод іх "адразу ж знайшліся дзве дарослыя паважаныя машыны, якія ўзялі апекавацца над ёю, пакуль малая падрасце ды паразумнее. Яны і сталі Машынцы Мамай і Татам". Зноў жа, як у самім жыцці, а гэта, зразумела, узмацняе выхаваўчы эфект твораў. Н.Бучынская кіруецца нязменным правілам: "Акрамя вясёлых прыгод, мне хацелася расказаць дзецям пра вялікую адказнасць кожнага чалавека, які мае дачыненне да дарог, незалежна ад таго, вадзіцель ён, пасажыр ці пешаход".

Праўда, як на маю думку, часам трэба было б даваць тую ці іншую параду больш даходліва, але разам з тым нельга адмаўляць, што кожны твор, адрасаваны дзецям, па-свойму дыдактычны. Калі ж тое, што прамаўляе аўтар, лёгка ўвязваецца з сюжэтам, дзеці падобнай нацяжкі не адчуваюць. Н.Бучынская ўмее гэта рабіць, таму кожнае павучанне вынікае з паводзін Машынкі ці тых, з кім ёй даводзіцца кантактаваць.

Пазнаючы навакольны свет, маленькая Машынка па сутнасці пазнае і самую сябе. Інакш кажучы, яна вучыцца таму, як трэба паводзіць сябе ў тых ці іншых абставінах. Што можна рабіць, а чаго нельга... Калі абавязкова выяўляць сваю пазіцыю, а ў якіх выпадках лепей ад гэтага ўстрымацца.

Наталля Бучынская карыстаецца не толькі ўласна аўтарскім аповедам. Вялікая ўвага надаецца і дыялогу. Дыялог жа, як вядома, не проста актывізуе дзіцячую думку, ён, да ўсяго іншага, робіць дзяцей непасрэднымі ўдзельнікамі таго, што адбываецца.

Скажам, пазнаёмілася наша гераіня са старым аўтобусам ("Пра дзіўнага пасажыра"), што працуе на адным з гарадскіх маршрутаў, які прызнаецца: "Ведаеш, малеча, я ж не першы год па сваім маршруце катаюся. Шмат чаго пабачыў, шмат каго перавозіў, але сённяшні выпадак асаблівы..." А гаворка ідзе пра тое, як у аўтобус нечакана уляцеў верабей: "Я ў люстэрка задняга бачання паглядаю. Пасажыры мае пасміхаюцца, за вераб'ём цікуюць. А ён усім выглядам сваім нібы даводзіць: "Я нікога не чапаю, і вы мяне не чапайце". Праехаў два прыпынкі, а пасля спакойненька так — пырх да дзвярэй. Дык ці паверыш? З салона нават не вылецеў, а выйшаў. Як быццам катаца на аўтобусе для яго — справа звыклая".

А узяць казку "Каровы на дарозе"?! Адбылося ўсё, канечне, за горадам, у тым месцы, дзе статак пераходзіў дарогу: "Ох, якога страху нацярпелася Машынка. Асабліва калі адна жывёліна падышла блізка-блізка і тыцнула гарачым носам якраз у бампер". Спачатку спалохалася Машынка, ды ўспомніла, што гэта такая жывёліна, якая намалявана на пакеце з малаком: "Машынка перавяла дух. Яна зразумела, што няма чаго ўжо гэтак баяцца".

Разам з маленькай Машынкай дзеткі пабываюць там, дзе з аўтамабіляў змываюць усялякі бруд ("На аўтамыйцы"). Трапяць яны і ў вулічны затор ("Пробкафобія"). Даведаюцца, як неабходна ашчадна ставіцца да навакольнага асяроддзя ("Чаму "кашляюць"машыны"). Зазірнуць таксама і туды, куды машыны звозяць, калі парушаны правілы паркавання ("На штрафстаянцы"). Дый шмат чаго іншага чакае малечу пры знаёмстве з гэтай аповесцю-казкай.

Прабачце, забыўся сказаць, што ў кнізе ёсць яшчэ адзін герой, які пераходзіць з раздзела ў раздзел, — малады шафёр Толік. Паколькі вадзіцельскі стаж у яго зусім малы, то і яму таксама трэба яшчэ шмат чаму вучыцца. Як і самой маленькай Машынцы. З-за гэтага абое яны трапляюць у сітуацыі, з якіх няпроста знайсці выйсце, але гэта, безумоўна, зрабіць прасцей, калі побач надзейныя сябры.

Не ведаю, ці садзіцца за руль сама Н.Бучынская, але адчуванне такое, што яна ва ўсім тым, што звязана з кіраваннем, абслугоўваннем машыны, разбіраецца цудоўна. Чаго жадае ў будучым і сваім маленькім прыхільнікам: "Кожны з вас таксама падрастае, і кожнага чакаюць свае цікавыя прыгоды. І, магчыма, некаторыя з іх сустрэнуць менавіта тады, калі вы самі будзеце сядзець за рулём машыны!".

"Удачы вам!" — кажа дзеткам на развітанне аўтар "Прыгод маленькай Машынкі". Самой жа Н.Бучынскай хочацца пажадаць новых кніг. Не сумняваюся, што яны, як і гэтая, будуць запатрабаванымі, бо відавочна, наколькі пісьменніца ўмее пісаць па-свойму. Не паўтараючы іншых. Каб у хлопчыкаў і дзяўчынак не знікала цікаўнасць да кніг.

Алесь МАРЦІНОВІЧ

**Гадоў сорак пяць таму ў савецкай прэсе разгарэлася дыскусія: “Што такое фантастыка?” Больш маладыя аўтары публікацый (а не трэба забывацца, што гэта было на сыходзе хрушчоўскай “адлігі”) настойвалі: фантастыка — такая ж паўнавартасная галіна “сапраўднай” літаратуры, як і славуты рэалізм. Іх апаненты, людзі выразна кансерватыўнай арыентацыі, наадварот, сцвярджалі: фантастыка — разнавіднасць папулярызатарскага чытва, няхай сабе і захапляльнага, але цалкам пазбаўленага мастацкасці. Падчас дыскусіі адразу ж з’явіліся і з’едлівыя азначэнні: “падчарка літаратуры”, “Папялушка літаратуры”, “літаратура крылатай мары”, якія на доўгія гады сталі своеасаблівым клішэ і пры гэтым нібы катэгарычна вызначалі “законнае” месца фантастыкі ў літаратурным працэсе.**

# Новыя абрысы айчыннай фантастыкі

Адкуль жа ўзнікла такі зняважлівы, калі не сказаць негатыўны падыход? Бо такога стаўлення да фантастыкі не было нідзе, нават у краінах так званага сацыялізму. Толькі ў СССР.

Асноўная прычына была, мабыць, у тым, што фантастыка паволе сваёй прыроды, заўсёды была схільная да рэфлексіі, аналізу, нестандартнага асэнсавання рэчаіснасці. А якое такое асэнсаванне савецкай рэчаіснасці магло быць у прынцыпе? Гэта ж імгненна стварала небяспеку і для існуючага ладу, і для яго ідэалаў, зададзеных раз і назаўсёды! Беспраблемным бытапісальніцтвам займацца – калі ласка, такое вельмі нават заахвочвалася і афіцыйна ўзводзілася ў ранг “высокай літаратуры”. (Адсюль – усе гэтыя знакамітыя “Бруски”, “Цементы”, “Знакомтесь, Балуевы”, “Оптимистические трагедии”, “Поднятые целины” ды іншыя…) У той час як фантастыка… жанр непрадказальны! Калі толькі не паставіць перад фантастамі першапачаткова “правільныя” задачы. Вось ідэолагі ад літаратуры і пастараліся.

Было абвешчана: у эпоху пераможнага сацыялізму і, адпаведна, перамаганоснага шэсця савецкай навукі (нібыта навук бывае некалькі!) галоўнай задачай айчынных фантастаў становіцца раскрыццё велічы камуністычных ідэй і, у рамках такога раскрыцця, — прапаганда ўсяго самага перадавога ў айчынных навуковых ведах. Хай сабе пісьменнікі лунаюць у навуковых эмпірэях (але марксісцка-ленінскіх, вядома), затое ў рэальную паўсядзённасць не станець лезці. Аднак не трэба забывацца, што ў сярэдзіне мінулага стагоддзя ў СССР з пагардай іменавалі кібернетыку “буржуазнай ілжэнавукай”, а генетыку і ўвогуле — “публічнай дзеўкай імперыялізму”. Ды і шмат якія тэарэтычныя распрацоўкі фізікаў выклікалі ў савецкіх ідэолагаў навукі сур’ёзныя падазрэнні… Вось таму і фантастам было загадана: не захапляцца ўсялякімі там абстракцыямі, але, праслаўляючы камуністычную будучыню, не адрывацца празмерна ад рэальных навукова-тэхнічных здзяйсненняў.

Статус фантастыкі, здавалася б, зацвердзілі назаўсёды. І што самае крыўднае, такое стаўленне да яе замацавалася і ў чытачоў, нават вельмі адукаваных і інтэлігентных. Маўляў, ёсць і плённа развіваецца рэалістычная (то бок паўнавартасная) літаратура, а ёсць, убаку ад яе, нейкі мастацкі “неданосак”, званы фантастыкай. Прычым, не проста фантастыкай, а менавіта навуковай фантастыкай, паколькі фантастыка “ўвогуле” выклікала ў ідэолагаў літаратуры недаўменне, галаўны боль і рэзкае класавае непрыманне. Не бывае проста літаратуры, лічылі яны, усё павінна быць класіфікавана, раскладзена па палічках і забяспечана адпаведнымі ярлыкамі.

Само сабой, літаратурнае гета, куды загналі савецкую фантастыку, вельмі імпанавала так званым рэалістам. Яны ж меркавалі (і іх усяляк падтрымлівалі ў гэтым вучоныя крытыкі), што фантастыка (нібы ў сілу сваёй першапачатковай прымітыўнасці) займаецца рэчамі несур’ёзнымі, для яе важныя неіснуючыя светы, дзе творацца цуды, і пазбаўленыя жывых чалавечых рысаў героі. Затое яны, рэалісты, маўляў, самую праўду-матку пра жыццё ведаюць і адважна яе прамаўляюць! І няўцям ім было, што акурат-такі пра цуды фантасты і не пішуць. Гэта яны, стваральнікі так званага сацрэалізму, і вынаходзяць дзівосы. Бо жывуць у прыдуманым свеце “камуністычнай мары” і наперабой пішуць пра нейкую нечуваную праўду “камуністычнай казкі”, то бок з’яўляюцца самымі натуральнымі і беспрынцыповымі фантастамі.

Многія рэалісты падсвядома, пэўна ж, адчувалі, што ў фантастаў усё ж фармальна болей шанцаў выказаць нешта больш істотнае і нават жыццёвае — няхай сабе і ў незвычайнай форме. Бо фантастыў у меру свайго таленту і ў меру дазволенасці разважалі пра магчымае як прыхаванную іпастась рэальнага, пра тое, чаго, здавалася б, і няма на свеце, але можа праявіцца — і не на пустым месцы, а ў строгай адпаведнасці з фундаментальнымі законамі светабудовы, выяўленымі навукай. І, трэба думаць, невыпадкова ў 1960-х мінулага стагоддзя вядомы фантаст У. Грыгор’еў даў парадаксальнае азначэнне: “Фантастыка — гэта праўда пра тое, чаго няма”. Менавіта “няма”, а не “немагчыма”. Паняцці прынцыпова розняга ўзроўню, а гэта вельмі часта пакідаюць па-за ўвагай.

Такім чынам, фантастыка (і афіцыйнай крытыкай, і чытацкай публікай) была прызнана літаратурай другога гатунку. Аднак чуйныя бытапісальнікі адразу ж адчулі ў ёй схаваную пагрозу для сябе. Давялося абвясціць савецкую фантастыку выключна спадчынніцай Жуля Верна (Герберта Уэлса таксама паважалі, ды вось нешта ў ім насцярожвала!..) і загнаць яе ў пракруства ложа навукова-тэхнічнай прапаганды. Гэта было справай няхітрай. Аднак урэшце стала ясна, што сацрэалізм як магістральны шлях роднай літаратуры сябе не апраўдаў. Трэба было нешта прадпрымаць. Айчынная фантастыка ўжо гадоў праз пяць пасля смерці лепшага сябра ўсіх фізкультурнікаў Зямлі і Сусвету пачала змяняцца, ускладняцца, паляпшацца літаральна на вачах. А тут яшчэ ўзяліся пакрыху друкаваць у перакладзе заходніх фантастаў. І чытачы з немалым здзіўленнем адкрылі для сябе, што на савецкай фантастыцы свет клінам не сышоўся, што “за бугром” пішуць па-іншаму і зусім не горай, а, можа, нават і лепей. Лем, Брэдберы, Азімаў (дарэчы, выхадзец з Беларусі, нарадзіўся ў мястэчку Пятровічы, што размяшчалася некалі на Магілёўшчыне), Саймак, Шэклі, Коба Абэ — вось першыя ластаўкі, якія заляцелі да нас з практычна невядомай сусветнай Краіны Фантазіі. І — пайшло-паехала! Шчыльны кокан, які ахінаў фантастыку як нейкую “недалітаратуру”, умомант хруснуў.

Вось тады і адбылася знамянальная дыскусія, пра якую ішла гаворка ў самым пачатку артыкула. Дык што ж такое фантастыка? Усяго толькі “літаратура крылатай мары”, закліканая быць правадніком камуністычных ідэй і прапагандыстам “перадавой савецкай навукі”? Ці сапраўды — самастойная галіна на дрэве “вялікай” літаратуры? Артадоксы жахаліся: якая галіна, якая літаратура, прыдумкі ўсё гэта! І тут апаненты, з “наватараў”, упэрты гучна заявілі: і не адгалінаванне зусім, і наватне асобны, хай сабе і спецыфічны кірунак; фантастыка і ёсць сама літаратура — уся, ад старажытных гадоў да нашых дзён, тады як славуты рэалізм, наадварот, толькі бакавы атожылак на магутным ствале фантастыкі, не болей!



*Здымак з інтэрнэт-сайта.*

Калі непрадузята паглядзець на развіццё сусветнай літаратуры, лёгка выявіць: так, яе магістральнай лініяй была менавіта фантастыка — як фундамент, на якім надбудоўвалася ўсё астатняе. Гесіёд, Гамер, Арыстафан, Апулей, Лукіян — хто? У першую чаргу — фантасты. У іх можна знайсці і шэраг іншых жанравых рысаў, што з захапленнем і робяць мнагамудрыя гісторыкі літаратуры. Аднак фантастыка як такая — відавочна прэвалюе. Ну, а Чосэр, Мэлары, Шэкспір, Рабле, Свіфт, Вальтэр, Стэрн, Гётэ, Гофман, Мэры Шэлі, усе прадстаўнікі гатычнага рамана — хто яны? Вядома ж, фантасты! У большай ці меншай ступені, але — фантасты. І ўсе яны раз-пораз звярталіся да гэтага жанру. Напрыклад, Бальзак… Здавалася б, “прожжённый” рэаліст (так пра яго заўсёды пішуць). А вось і не: захапіўшыся Мэцьюрынам, не ўтрымаўся і напісаў працяг — “Мэльмат, якому даравалі”, і яшчэ напісаў фантастычны раман “Шчыгрынавая скура”. А Пушкін, Гогаль, Распэ, Барышэўскі, Патоцкі, Дастаеўскі, Тургенеў, Марк Твэн, Натаніэль Готарн, Адоеўскі, Вельтман, Дыкенс, Эдгар По, Чэхаў, Брусаў, Замяцін, Булгакаў, Тамас Ман, Маркес, Борхес, Картасар, Гесэ, Айтматаў, Дорыс Лесінг, Карэн Бліксен, Сельма Лагерлёф, Караткевіч, Акунін, Шэфнер, Грас, Аксёнаў, Голдынг, Апдайк, Эка, Маруа, Марыяк — усіх і не пералічыць. Усе яны аддалі даніну фантастыцы. Не таму, што модна (запатрабавана, як цяпер часта кажуць), а таму што інакш, не звярнуўшыся да фантастыкі, да фантастычнага, не маглі адэкватна, ва ўсёй паўнаце выразіць тое, што іх хвалявала. І аўтары ўсе — першаступенныя.

Між іншым, і Гесэ, і Лагерлёф, і Голдынг, і Маркес, і Грас атрымалі свае Нобелеўскія прэміі за раманы цалкам фантастычнага характару. А Лесінг і ўвогуле быў уганараваны Нобелеўскай прэміяй у 2007 годзе за цыкл фантастычных раманаў. Вялікага Уэлса некалькі разоў вылучалі на Нобелеўскую, проста аўтар, на жаль, не дажыў (уручаюць толькі прыжыццёва, а на прэмію, як вядома, чарга вялікая: Пастэрнак, напрыклад, атрымаў медаль толькі з адзінаццатага заходу!) Таму дзіўна бывае чуць ад, здавалася б, адукаваных, разумных людзей заявы кшталту: “Я фантастыкі не чытаю. Гэта танны жанр”. Няўжо яны не разумеюць, што многія з тых цудоўных кніг, якія яны з задавальненнем прачыталі, і ёсць самая натуральная фантастыка, толькі без адпаведнага грыфу на вокладцы?! Але для такіх чытачоў яшчэ не ўсё страчана… Крыху іншыя эмоцыі з’яўляюцца, калі самі пісьменнікі грэбліва кажуць: “Фі, прымітыўная літаратура! Хіба я магу апускацца да пісання такіх опусаў?!” І хочацца адказаць: “Не апускацца, а падымацца! Павучыся ў класікаў сусветнай літаратуры, перш чым такое заяўляць. А калі вучыцца не ў стане, то і нічога ты не варты як пісьменнік”.

Аднак я быў бы несправядлівым, калі б не адзначыў, што пэўная доля рацыі ў такіх прыдзірлівых выказваннях ёсць. Сапраўды, фантаст, як правіла, піша не пра тое, што ёсць, а пра магчымае, нязведанае і пра верагодныя шляхі набліжэння да яго. На першы погляд, у фантастыцы магчыма ўсё. Што гэта значыць? Сучасная фізіка сцвярджае: у будучыні стане магчымым усё, што не супярэчыць фундаментальным асновам Сусвету, — і тэлекінез, і штучны інтэлект, і нават перамяшчэнне ў часе. Немагчыма толькі адно: прадказваць будучыню. Яна непрадказальная, і развагі пра яе падобныя да варажбы на кававай гушчы. Але ж фантасты так любяць менавіта пагадаць!.. У гэтым — і захапляльнасць іх “літаратурнай варажбы”, і відавочная слабасць. Праўда, калі пра будучыню гадаюць з пэўнай доляй дэманстратыўнай умоўнасці, з адценнем іранічнасці, гэтыя недахопы нібы сыходзяць у цень, а то і наадварот, ператвараюцца ў вартасці, уласцівыя кожнай гульні.

Вось і выплыла слоўца — гульня. Многія аўтары шчыра мяркуюць, нібыта гуляць нашмат прасцей, чым карпець над кожнай старонкай. Аднак не! Дасканалая гульня патрабуе захавання куды большай колькасці правіл, умоўнасцяў і ўзятых на сябе абавязкаў. Гульня — гэта моцартаўскі стыль, знешне лёгкі, бясклапотны, нібыта даступны кожнаму, а вось колькі за ім стаіць цяжкай, адказнай працы — нікому невядома, і любое пранікненне ў сутнасць гульні для староннята недапушчальна. Затое ў выніку — бліскучыя, захапляльныя творы, якія так уражваюць нас у класікаў, або легкаважныя, але па сутнасці не ацэненыя крытыкамі раманы Акуніна, якога ўжо цяпер называюць на Захадзе “сучасным Дастаеўскім”…

Іншая справа, цяперашняя мода на розныя трылеры, дзе адрываюць рукі-ногі, а вантробы выцякаюць вонкі. І хай бог толькі гэта. Адбылося амаль неверагоднае. Скончылася перабудова — і ўсё стала можна. Прыдумляй, гадай колькі заўгодна — чытач, згаладалы па рознай фантастыцы, з удзячнасцю ўспрыме новы тэкст. Фантастыка амаль імгненна пераўтварылася ў пародыю на самую сябе, з’явілася прымітыўнае, бясконца паўтаральнае фэнтэзі, дзе абавязкова суперздзядзькі лётаюць туды-сюды, бразгочуць мячамі, і магі, падобныя да ідыётаў, змагаюцца з драконамі... Таму можна зразумець сапраўдных пісьменнікаў, калі яны заяўляюць, што не прызнаюць і адмаўляюцца ствараць такую фантастыку. Тут яны маюць рацыю на ўсе сто.

Але ж ёсць і іншая фантастыка. Была і ёсць. На жаль, надта позна дайшоў да нас Толкіен з яго геніяльным “Уладаром пярсцёнкаў”. Яшчэ пазней, ужо на мяжы 1980-1990-х гадоў, мы нарэшце пазнаёміліся з творчасцю К. С. Льюса. Калі б адбылося гэтае знаёмства на чвэрць стагоддзя раней, не ўзнікла б такога нястрымнага перайманьніцкага шалу, якое назіраецца цяпер. Пераасэнсавалі б, прызвычаіліся б, і калі б і сталі пераймаць, то на нейкім іншым, больш высокім узроўні. А тут яшчэ з’явілася вялікая хваля нізкапробнай кінафантастыкі — і нашы аўтары, замест таго, каб прыдумляць хай не вялікае, але ўсё-ткі арыгінальнае, узяліся бессаромна перацягваць кавалкі ўпадабаных фільмаў на старонкі сваіх тэкстаў. Увогуле ў савецкай (там хоць нея́к можна растлумачыць) і ў цяперашняй расійскай казачна-фантастычнай літаратуры агульная бяда: яна заўсёды запазычвала тое, што прыцякала з Захаду, і рэдка-рэдка стварала нешта вартае і пры гэтым цалкам арыгінальнае. Або адкрыта кралі (“Залаты ключык”, “Чараўнік Смарагдавага горада”, “Прыгоды Нязнайкі і яго сяброў”, напрыклад), або перайначвалі так, што лепш бы гэтага не рабілі зусім.

Кажуць, фантастыка паўсюль перажывае не самыя лепшыя часы. Такая фантастыка — хутчэй за ўсё. Між тым, у нас, у Беларусі адбылася немалая літаратурная падзея: пачала выдавацца серыя “Беларуская сучасная фантастыка”, якую заснаваў Саюз пісьменнікаў Беларусі. Менавіта так — проста фантастыка. Без разрознення на паджанры. Бо і так званая навуковая фантастыка, і містыка, і казачная фантастыка, і гумарыстычная, і гісторыка-этнаграфічная, і заглыблена філасофская — усё гэта грані аднаго каштоўнага каменя, імя якому фантастыка. Серыя будзе працягвацца, трэба выдаваць шмат кніг новых аўтараў — і ўжо вядомых, і яшчэ невядомых нікому, якія твораць у сталіцы і ў глыбінцы. Мы пакуль яшчэ не такія багатыя, каб раскідвацца тым, што маем, вось і трэба ўсё гэта захоўваць. Таму кніжная серыя “Беларуская сучасная фантастыка” — цудоўны спосаб не толькі захаваць, але і даць новае жыццё аднаму з самых важных і вартых кірункаў у айчыннай літаратуры.

Аляксандр СІЛЕЦКІ,
пісьменнік-фантаст



Тамара КАШАВАЯ

## Верніца кахання

Было — і адышло,
Ужо не вернецца…
Адлюстравала шкло
Кахання верніцу.

Размытыя сляды,
Ці затаптаныя?
Пражытыя гады…
Мае каханыя…

Лістамі па вясне
Мне квецень падала
Ад тых, хто здрадзіў мне,
Каму я здрадзіла.

І восеньскіх дароў
Плады нямалыя…
Хто быў кахаць гатоў,
Не пакахала я.

Бо дадзена мне ўмець
Са сталым вопытам
Ужо не блытаць медзь
З чырвонным золатам…

…Над здрадай і маной
Зіхціць і свеціцца
Ў люстэрку прада мной —
Кахання верніца.

Зімовая туга
Другім пасцелена,
А на маіх лугах
Яшчэ ўсё зелена!

## Непагадзь

Пішу я вершанё, так, ні аб чым,
Маленькае такенькае, мясцовае,
А непагадзь накцюрнам велічным
Уладу на зямлі ўмацоўвае…

…Я ціха песню мармычу ўначы,
У цішыні утульнага пакою,
А непагадзь, як той арган, гучыць
Складанай фугай Бахаўскага строю.

Маланкай апаляе небакрай,
Сціскае хмараў пругкія камэлкі,
І панаванне гэтых чорных зграй
Нібыта усталёўвае навекі.

Ільє вадою і плюе агнём
З агромністай расчыненае пашчы,
А мы ўдваіх з маленькім вершанём
Спрабуем тую непагадзь улашчыць.

З лістом паперы, на якім — радкі
І на нагах, безабаронна босых,
Гукаю ёй, дабегшы да ракі:
— Ну, што ты вырабляеш у нябёсах?

Разводзіш тут макрэчу, халадзеж.
Скідай даспехаў вогненую збрую.
Ты вельмі гучна граеш і пяеш,
Таму з табою людзі не сябруюць.

— Хадзем са мной на Шведскую гару!
Што? Прагуляцца ты са мной
не можаш?
А хочаш, табе вершык падару?
Глядзі, які маленькі і прыгожы!

— Табе няўтульна на двары адной?
Стыхія, глянь, ты ўжо не ў адзіноце!
І непагадзь, уражаная мной,
Раптоўна замірае на паўноце…

## Верш да людзей

А чаго, чаго захацелась ім,
Пагарджаным век, ім, сляпым, глухім?
Людзьмі звацца!
Янка Купала

Няхай дакорам мне не будзе,
Што думаю наадварот.
Люблю, калі гавораць: "людзі"
І не люблю, калі — "народ".

Спрабуйце, людцы дарагія,
Каб на мяне не крыўдаваць,
Два словы, розныя такія,
На слых і смак пакаштаваць.

І зразумееце адразу
Якой нудой маршчыню лоб:
Я не люблю такую масу
Абезаблічаных асоб.

І так, і гэтак, і нанова
Крыўлю я прамаўленнем рот,
Невінаватая, што слова
"Народ" — гучыць мне, як прыплод.

Не дасць ілжою мне ўпівацца
Мая сумленная рука.
Я слова не люблю "грамадства",
Мілей мне слова "талака".

Адно — шкрабе, як кот бязродны,
Другое з ласкаю вядзе,
Бо грамада — яна з народа,
А талака — яна з людзей.

За думкі, вартыя дэбатаў,
Даруй мне, люд мой дарагі!
Я — музыкант. А музыканту
Гучыць усё не як другім.

Напрыклад, як парой часова
Мяне ўзнімае дагары
Такое ёмістае слова —
Не "спевакі", а "песняры".

Адныя — зорак не хапаюць,
Другія — душу ў песнях льюць.
Бо спевакі — яны спяваюць,
А песняры — яны пяюць!

Якою мовай карыстацца —
Ад нас залежыць ад саміх.
Калі ж людзьмі мы хочам звацца,
Найперш павінны быць людзьмі.

## Ода Аўдзеевай лазні

Цела абдымае жарам —
Ці то п'яны, ці цвярозы!
Ой, ты, лазня з лёгкім парам!
Ой, ты, венічак з бярозы!

І душа тут маладзее,
І распарваюцца косці…
Ходзім да дзядка Аўдзея
Мы у лазню — як у госці!

Квасу плёхне на каменне —
Пар струменем узнясецца!
Счырванееш за імгненне
І мацней заб'ецца сэрца.

Ад касцей адстане мяска,
Бы то студзень даварыўся,
Расквітнее, нібы краска,
Змаладзелая Марыся.

Ну, а потым… потым дзедка
Б'е нас венікам без жалю,
Б'е мяне, Марыську, Светку,
Сала выбівае з Галі…

На паліцы з той нагоды
Дух адзінства паміж намі —
Стогнуць дзеўкі з асалоды
Пад такімі бізунамі!

Сажалка каля ўваходу
Падаецца пэўным раем,
Мы з той лазні не выходзім,
А папросту выпадаем!

Каб крыху ахаланіцца,
Мы на дно ідзем каменнем…
Здавальнелы дзед смяецца,
Каля дзевак ходзіць пеўнем…

Ох, дзядуля, кат мой любы,
Хто ж прылюдна ўсіх цалуе!
Пападзе ад бабы Любы,
Баба Люба не даруе!

— Не-е, кабеткі, не кажыце!
Помніць Любачка і знае:
Як кахаў яе — у жыце! —
Так дагэтуль і кахаю.

І якая ж, дзеткі, свара,
І якія ж там пагрозы,
Калі лазня з лёгкім парам,
Калі венічак з бярозы!

## Сціпласць

Паэтаў, кажуць, красілі заўжды
Прыгожыя і сціплыя ўласцівасці?
Усё лухта! Не тыя ўжо гады,
І мне, сябры, прабачце,
не да сціпласці.

Мой знак — Авен,
стыхіі знак — агонь,
У тым — мая планіда чалавечая.
А на задворках таленту свайго
І так праседзела амаль паўвека я.

Не вылучыць і не ускалыхне
Матлянне між апошнімі і першымі.
Хачу, каб людзі ведалі мяне
І грэлі душы над маімі вершамі!

О, Муза, твой караючы бізун,
Мне не дае
ад сціпласці затойвацца
І ў адзіноце абраняць слязу,
Калі радком душа мая патоліцца.

Так! Пацягну свой крыж я на гару.
Не! Не вымольваю сабе з міласці.
Надыдзе час – няхай і я памру,
Але сваёю смерцю,
не ад сціпласці!

## Я з таго пакалення…

Мілагучнасць маўлення
ўспрымаць не "пантова",
Я з таго пакалення,
што цуралася мовы.

Я з таго пакалення,
што крычала: "Дзяроўня!",
Не дай бог,
загаворыць па-вясковаму роўня!

На палях угнаенняў брыдкі пах,
а не водар,
Я з таго пакалення,
дзе сялянства — не гонар.

Корміць пашу насеннем
хлебаробская сіла…
Я ж з таго пакалення,
што Краіна ўскарміла!

Дзеўчынё гарадское,
украінка — ды й годзе! —
Як я смачна чытала
пра "людзей на балоце"!

Суткі седзячы колам,
не выходзячы з хаты,
Як рыдала я ўголас
ад "Альпійскай балады"!

Апякала навала, гора цiснула скроні,
Быццам сэрца трымала
я на ўласнай далоні…

Час кідаці каменне,
час збіраці каменне…
Так балюча-балюча за маё пакаленне…

Мне за боль несуцешны,
Бог, памылкі закрэсліі!
За любоў, і за вершы,
і за светлыя песні.

Што каштоўнага маю,
я з адказнасцю сталай,
Як гусляр, праспяваю ля
"Кургана" Купалы.



Уладзімір САКАЛОЎСКІ

* * *

Сярод чужых я чуюся далёкім,
Сярод сваіх незразумелым і чужым.
Так і блукаю вечна адзінокім,
Шукаю свет, каб мог назваць свaім.

* * *

Ганяўся век за ўласным ценем,
Хацеў яго злавіць, спазнаць.
Не ведаў, покуль свеціць сонца,
Яго ніколі не дагнаць.

* * *

Ёсць святло – і водбліскі жыцця,
Сонца бляск – і цені як зігзагі.
Думкі светлыя, успышкі пачуцця,
Прага вечнасці і спаталенне смагі.

* * *

Звычайны сад становіцца нам раем,
Калі з каханай там мы спачываем.

* * *

1
Што страчана не вернецца ніколі.
Набытае заўсёды застаецца.
Нас пакідаюць радасці і болі.
Нішто дарма нікому не даецца.

2
Да сэрца добрае і злое мкнецца
Жыццё свой след у сусвеце пакідае
Набытае заўсёды застаецца.
А створанае ў вечнасць пранікае.

* * *

1
У прасторах
Бязмежных сусвету,
Дзе наша доля,
Адкуль наш шлях,
Вялікія катастрофы
Маленькай планеты
У памяці сэрцаў
Схаваны, як жах.

2
Рытмы мелодый
Далёкіх стагоддзяў
У імпульсах душаў
Нашых жывуць.
Усё ўзнікае
І гіне ў прыродзе.
Бясконцыя рухі
Ў бясконцым жывуць.

* * *

1
Божа мілы, літасці не маеш
Над душою беднаю маёй.
І за што, за што мяне караеш?
Я зусім не вінны прад табой.

2
У гэтым свеце зверства і разбою,
Страціўшы дарогі і масты,
Я не змог застацца сам сабою
І не змог распятым быць, як ты.



Фота Віктара Кавалёва

# Казанова і Квазімода



Уладзімір СЦЯПАН

## Навела

У жанчыны сабраныя ў худы хвост жоўтыя валасы. Яна шые на машынцы "Зінгер". Хістае босай нагой педаль. А бліскучая іголка чыкае і чыкае, прабівае тканіну. Белай ніткі на белым не відаць. Прасціна павольна сунецца і спаўзае на падлогу.

Гэты сюжэт, выява жанчыны, якая шые-вышывае, — штамп для мастака. Пры вакне, побач са свечкай, пад абажурам… Такіх малюнкаў і карцін бачыўперабачыў. Я ляжу з тэмпературай і гляджу на Зіну — дачку гаспадыні, і мне хочацца яе намаляваць. Але я толькі разглядаю, быццам запомніць вырашыў, гляджу і ўсё. Каб маляваць, то трэба паперу браць, аловак гайстрыць, трэба з-пад коўдры вылазіць.

Маляваць цяжка. Маляваць доўга. Намаляванае застаецца ў маёй памяці. Не буду сцвярджаць, што назаўсёды, але застаецца. Дачка гаспадыні няшчасная, але спадзяецца, што лёс да яе пераменіцца. У яе хлопчык і дзяўчынка, а мужа няма, кінуў і пайшоў да другой. Магчыма, каб не кінуў яе муж, то і не жыў бы я ў гэтым доме. Навошта здаваць пакой чужым людзям, калі ў доме ёсць грошы?

Каб маляваць — трэба свята. Хто ж у цемры маляваць будзе? Я па вечарах, калі прыходжу з мастацкай вучэльні і збіраюся маляваць, то выкручваю слабенькую лямпачку і закручваю яркую. Калі сыходжу на заняткі, то гаспадыня маю яркую выкручвае і заварочвае сваю нядужую і цьмяную. Але гэта не гульня. Гэта — сквапнасць, беражлівасць. Адно добра, што ў гэтым цагляным прыватным доме цёпла. Гаспадар, яго партрэт стаіць на этажэрцы ў зале, паставіў добры кацёл і пусціў радыятары па ўсіх пакоях. Але не для кватарантаў гаспадыня стараецца і дом грэе. Унукі малыя хварэюць, вось і даводзіцца паліць вугаль і торф.

Пакой доўгі, панылы і цёмны. Шафа, машынка, два крэслы, канапа, ложак і доўгі брудны дыванок мышынага колеру. Адно акно. За акном — яблыневы сад і паркан. Шторы ў дробныя кветачкі да падваконня. На канапе спіць Ігар, а я сплю на высокім ложку з жалезнымі біламі. Калі канапа раскладаецца, то даводзіцца шчаміцца. Вось такі вузкі той цёплы пакой. Ігар працуе інжынерам у парку Чалюскінцаў. Ён адказвае за працу замежных атракцыёнаў. Ігару падабаюцца бландзінкі, але водзіць ён на сваю чырвоную канапу і брунетак, і рудых. Лысых не бачыў і казаць на суседа не буду.

Мне шаснаццаць, а Ігару дваццаць сем. У яго ёсць жонка і дачка, але ён з імі не жыве. Дачка гаспадыні, а часам і сама гаспадыня, запрашаюць Ігара павячэраць, але ён скрозь адмаўляецца. У Ігара жанчын — лічыць не пералічыць. Хоць дачка гаспадыні і светлавалосая, але ёй дваццаць шэсць і дзеці.

Ігар носіць шэры касцюм, кейс, адпрасаваныя штаны, наваксаваныя чаравікі, белыя, чорныя ці сінія кашулі і скураны плашч. У яго ёсць і чорны капялюш з папяліста-шакаловай стужкай, і чорны парасонаўтамат. Знаёмыя жанчыны ў майго суседа паўсюль: у краме, газетным шапіку, пральні, гастраноме, міліцыі, пашпартным стале, аптэцы, паліклініцы, на Прылуцкай…

Гаспадыня прыводзіць жанчын забараніла. Але жанчыны трапляюць у наш вузкі пакой праз акно. Ігар грукае ў шыбку, я адчыняю шпінгалеты, запускаю халоднае восеньскае паветра, а следам з'яўляецца дзяўчына, а жанчына. Худыя і мажныя, маладыя і не вельмі, гаваркія і сполоханыя, цвярозыя і п'яна-ватыя. Мне тады даводзіцца рабіць выгляд, што я моцна сплю. Гэта цяжка… Добра, што такая радасць не кожны дзень.

Ігара я маляваў двойчы. Адзін малюнак ён забраў на працу, паклаў пад шкло пісьмовага стала, а другі прышпіліў да сцяны, насупраць канапы, каб на сябе глядзець. Ён можа чвэрць гадзіны на той малюнак, чорным алоўкам зроблены, дзівіцца і пасміхацца загадкава.

У Ігара ёсць сціплы і магутны сябар Саня. І Саню я маляваў, бо Ігар папрасіў. У Сані шырокія плечы, амаль кубічная галава і прамыя валасы колеру навошчанага паркету і яркі залаты зуб. Але Саню гэтыя дэталі зусім не псуюць, а наадварот, дадаюць мужнасці. Саня з нянавісцю ставіцца да міліцыянераў. І ён ім не падабаецца, выклікае трывогу і неспакой. Можа таму, як вып'е мужчына-волат, так і ўплішчваецца ў розныя непрыемнасці. Ігару тады даводзіцца сябра ратаваць. У Ігара гэта атрымліваецца. Ён тэлефануе патрэбным жанчынам, сустракаецца, і яны яму дапамагаюць.

Потым Саня прыносіць валізу з бутэлькамі і хатняй ежай. На машынцы "Зінгер", зробленай у тысяча дзевяцьсот шаснаццатым годзе, накрываецца стол. П'юць Саня з Ігарам па-сапраўднаму, заўсёды, як у апошні раз. Саня клянецца-бажыцца, што больш ні-ні, больш ніколі ён людзей у шэрых шынялях і з пагонамі чапаць не будзе. Звычайна пасля другой бутэлькі віна Саня расказвае пра вайну, на якой ён біў амерыканскіх марскіх пехацінцаў прыкладам свайго аўтамата АК і нагой сорак пятага памеру. Біў у пах. І ні каратэ, ні другія прыёмчыкі амерыканскім хлопцам супраць яго не дапамагалі. У нейкай невядомай краіне адбываўся той лакальны канфлікт, тая кароткая, але жорсткая сутычка. Саня добры. Ён адразу будуе мне вялікі смачны бутэрброд. Такі высокі і шматслойны, што ў рот не месціцца. Ён сочыць, каб я шмат не піў і добра закусваў. Ён угаворвае Ігара вярнуцца да сям'і, бо там жа дачка трохгадовая. У Сані жонка ёсць, а вось дзяцей няма. Ігар неяк сказаў, калі мы завялі Саню на прыпынак і пасадзілі ў тралейбус, што ягонаму лепшаму сябру, на той выспе, пасярод мора трапічнага, амерыканцы адбілі памідоры, і таму дзяцей няма. Пры гэтым твар у Ігара выглядаў задуменным, хоць партрэт малюй.

Але ўсё, што я так доўга апісваў, гэта толькі пачатак гісторыі. Сама ж гісторыя кароткая — даўжынёй роўна ў трыццаць пяць гадоў. Пачалася ўвосень тысяча дзевяцьсот семдзесят пятага, а скончылася праз трыццаць пяць гадоў, у новым тысячагоддзі. Вось так…

Дачка гаспадыні скончыла шытво. Падняла рукі, і прасціна ломкімі складкамі выпрасталася, завісла ў прасторы. Жанчына нягучна засмяялася. Прасціна вісела, прыхопленая за ражкі пальцамі, як прышчэпкамі, а Зіна стаяла за ёй. Потым яна перахапіла ільняную тканіну, пераламіла і склала. Гэта ўсё паўтарылася тройчы, па колькасці прасцін. Склала стос на канапу і спарадкавала машынку. На развітанне яна дакранулася прахалоднай далонню да майго лба і сказала, што тэмпература, калі і ёсць, то не надта вялікая. Праз чвэрць гадзіны яна прынесла кубак гарачага малака з жоўтай пенкай і падала мне ў рукі.

Я сядзеў і піў малако, а яна глядзела ў вакно і пастуквала пальцамі па машынцы. Яшчэ яна спытала, а ці пайду я заўтра на заняткі… Потым колькі часу дзівілася на малюнак, прышпілены да сцяны кнопкамі. Было зразумела, што Ігар ёй падабаецца. А калі забірала цёплы кубак, то заўважыла, што нос у Ігарка большы, чым я намаляваў. Мне заставалася адно паціснуць плячыма і вінавата пасміхнуцца. Мы мала з ёй гаварылі…

За акном неба зрабілася цёмна-сцюдзёным, а дрэвы чорнымі. Прыйшлі Ігар і Саня. Запалілася святло. Ігар чмыхнуў носам і паглядзеў на мяне з усмешкай.

— Тут пахне жанчынай, — сказаў ён і засунуў шторы.

— Зіна заходзіла, шыла, — патлумачыў я.

Ігар пайшоў грэць ваду, а Саня распрануўся і пачаў распакоўваць валізу. Заўтра яму трэба ехаць у камандзіроўку, а таму сёння можна і выпіць.

Праз чвэрць гадзіны мы сядзелі на канапе. У Ігара і Сані былі ў руках шклянкі, поўныя віна, а ў мяне паўлітровы кубак, а ў ім — кіпень з малінавым варэннем.

Саня захмялеў хутка, ён прыйшоў нападпітку і пачаў скардзіцца на сваю жонку. Ігар слухаў уважліва, а потым сказаў сябру, каб той сціх. Саня пакрыўджана змоўк. Колькі часу сядзелі ў цішыні. Было чуваць, як гаспадыня грыміць посудам і сварыцца на ўнучку, якая плёхаецца ў халоднай вадзе.

Саня падняўся і пачаў апранацца. Ён паціснуў мне руку. Ігар правёў яго да прыпынку. Вярнуўся і сказаў, што пазнаёміўся з прыгожай цёлкай, але сёння яму трэба выспацца, бо заўтра будзе справа. Ён ляжаў на нераскладзенай канапе, глядзеў у столь і слухаў музыку са сваёй спідолы… Я чытаў кніжку і таксама слухаў музыку.

— Я куплю табе настольную лямпу, — раптам сказаў Ігар. — Атрымаю прэмію за новы атракцыён і куплю. Гэта будзе мой табе падарунак за партрэт.

— Зіна сказала, што ў цябе нос большы, чым я намаляваў.

— Усе адно я з ёй звязвацца не буду. Хопіць і без яе праблем. З бландзінкай пазнаёміўся, квіткі на чыгуначным вакзале прадае. Так што, калі трэба ехаць куды, то возьме. А завуць яе Джэма. Імя як у сабакі. А да нас Фаіна ўладкоўваецца, і мужа няма, разышлася. Нішто сабе такая Фаіна. Да вясны мне пакой у інтэрнаце абяцаюць… Абяцаюць, усе толькі абяцаюць, абяцаюць…

Калі я паглядзеў на Ігара, то ён спаў. Левая рука з гадзіннікам закрывала вочы.

Мне засталося выключыць музыку і патушыць святло.

Раніцай Ігар спытаў пра тое, калі я збіраюся вярнуцца з заняткаў. Патлумачыў, што будзе не адзін. Я сказаў, што вярнуся гадзін у дзевяць, не раней.

— Паспею, — сказаў ён задуменна, быццам у космас сабраўся паляцець.

Роўна а дзевятай я ішоў ад тралейбуснага прыпынку ў свой цёмны завулак. Было халодна, крапаў дождж, мокрыя дрэвы, мокрыя парканы, мокры асфальт. Ігар і светлавалосая жанчына таропка выйшлі з-за рога. Ігар трымаў над светлавалосай свой парасон-аўтамат. Мы сутыкнуліся амаль нос у нос, але Ігар адвярнуўся і падхапіў жанчыну пад локаць. Я направіў каўнер, вецер дзьмуў у твар.

Канапа была раскладзеная. На машынцы стаяла бутэлька чырвонага віна, на талерцы чорны вінаград, а на другой — акуратна парэзаная вяндліна. Такая, як прыносіць з дому Саня. Ён казаў, што яго жонка светлавалосая і маленькая. На этажэрцы стаяў нявыключаны прыёмнік. Гучала музыка.

Я разумею, што па літаратурным сюжэце гэта няправільна, але.

Мне далі інтэрнат раней, чым Ігару, і я з'ехаў з вузкага і панылага пакойчыка з адным вакном. Хацелася напісаць пра пакой — аднавокі… Настольную лямпу пакінуў Ігару.

Бачыў яго праз год, наступнай вясной, у парку. Выпадкова сустрэў. Ён стаяў у капелюшы, у касцюме шэрым і кашулі сіняй. Верхні гузік, як заўсёды, расшпілены. Ігар абапіраўся локцем на агароджу і глядзеў, слухаў, як носяцца бляшаныя тарпеды аэрадынамічнай формы, як вішчаць і смяюцца дзяўчаты, калі тарпеда саслізгвае з вышыні і ляціць-ляціць. Ён слухаў, як грымяць ланцугі і гудзе рухавік.

Я гуляў у парку з дзяўчынай. Ігар ёй спадабаўся, а яна Ігару не спадабалася. Яго доўгі нос зморшчыўся. Ён правёў нас праз шчыльную чаргу і кантроль, пасадзіў у тарпеду. Мы насіліся на "Супер-8", пакуль Ігар не вярнуўся. Маёй сяброўцы стала млосна, выглядала яна кепска, і каб я не падтрымліваў, то магла б і паваліцца.

Я спытаў, ці з'ехаў ён з вузкага пакойчыка ў цагляным доме, што стаіць у Крапоткінскім завулку? Ён сказаў, што пакуль яшчэ жыве там. Але гэта толькі пакуль.

Пра сябра-волата паведаміў, што даўно не бачыў, што Саня цяпер малады бацька і клопату хапае, бо жонка нарадзіла-такі дзіця, і яго сябар зусім кінуў піць. І ён сам цяпер амаль не выпівае. Мая сяброўка пачувала сябе кепска, і мы развіталіся.

Маляваць цяжка. Маляваць доўга. Намаляванае застаецца ў памяці надоўга, можа назаўсёды. Я пазнаў яго адразу, як гэта ні дзіўна. Ён сядзеў насупраць увахода ў гастраном. Сядзеў на склізкім гранітным парапеце газона. Твар яго быў жудасны, азызлы, у сіняках і крывападцёках. Бомж глядзеў на дзверы і сціскаў кулакі. Вялікі рот расцягваўся ў гумовай усмешцы. Сапраўдны Квазімода... Гэта быў Саня.

Май 2010

Алесь ДЗЕРАВЯНКА

# Бывай, Машка!

Пад вечар хлынуў праліўны дождж, прамы, роўны, спакойны. Кабыла Машка стаяла на лужку з мурожнай травой, што прылягала да ўчастка бульбы… Не скубла сакавітую траву, дрыготка прабягала па скуры. Я збіраўся вынесці лусту хлеба, пачаставаць любіміцу. Але ўсё не сціхаў моцны дождж, і я марудзіў з пачастункам, адкладваў свой візіт на "потым". Чаму я не прынёс акраец хлеба, калі вярнуўся з лазні? Калі хмары яшчэ не аблажылі неба. Тады не мучылі б згрызоты, не пакутаваў бы, што не пачаставаў каняку любімым ласункам.

Машка ўжо была абыякавая да ўсяго, чакала нaканаванага лёсам. Мне было шкада жывёліны. Выводзіў кожную раніцу на далёкую траву, ставіў на прывязь. А затым познім вечарам вяртаў у двор. Зусім не маючы навыкаў абыходжання з канём, я ўсхвалявана і няўмела насоўваў на галаву аброць і, адчыніўшы загарадку, выводзіў Машку на панадворак з хлява. Швагер трымаў каня ў бацькавым хляве, на сядзібе майго цесця. Вечарам забіраў каня з лугу і ставіў у хлеў.

Машка не заўсёды мяне слухалася. Аднойчы — во, конская сіла! — тузанула повад аброці, калі выводзіў са стайні, дык я паляцеў, як малое хлапчанё, потырч. Моцна выцяўся плячом аб загарадку. Дзякуй Богу, што не гвазданууся лбом.

Але ж яна мяне любіла: незлаcлівa пакусвала за плечы, патрабуючы лусту хлеба, любімага ласунку. Іржала, паварочваючы ўскінутую галаву, калі заўважала мяне здалёку. У спякотныя дні чакала, каб завёў у стайню, дзе яе чакала ношка накошанага мурагу. Буракі са склепа. Яна са смакам хрумстала, у прыцемках знаходзячы гасцінец. Кабылу некаму было дагледзець. Швагер цяжка хворы, прыкаваны да інваліднай каляскі. Ды і сама Машка хворая на астму. Моцна кашляе, калі ў павятры кружыцца кветкавая пыльца. Аж вывальваецца язык, агаляе яшчэ даволі моцныя жоўтыя зубы. Задыхаецца. Пасадзіць, абарась бульбу з ёю цяжка, валіцца на баразну ў пастрэмках. Даглядаць кабылу няма каму. Збыць за нейкія капейкі хворую было б нават грэшна. Каб здаць на мясакамбінат, трэба везці яе ажно ў Барысаў. З выдаткамі — грошы абы што, паўтары сотні рублёў. Хоць выгані каня на волю, каб нехта ўзяў да свайго двара. Гандляры падрадзіліся купіць.

У чаканні прыезду купца і яго каманды са швагравай і нашай, цесцевай, хаты ніхто не выходзіў. Спрыяў аблoжны дождж, які не заціхаў з вечара. Мая жонка і яе сястра сядзелі перад тэлевізарам. З перамоў швагравага зяця па мабільніку з купцамі вынікала: яны, што выехалі, жывадзёры. Ведаў пра гэта і гаспадар, ад якога хавалі дамову з мяснікамі. Шмат гадоў гадаваў ён каня, касіў на яго і карову сена, а цяпер прыходзіў час з жывёлай развітацца. Ніхто пра гэтую падзею не размаўляў. Спрыяў сядзець у хаце аблoжны дождж...

Я выглянуў на двор, калі ён заціх і перастаў ліць. Зацікаўлена паглядзеў на лужок, дзе спадзяваўся ўбачыць Машку. Там было пуста.

Здзіўляць раз-пораз усялякімі нечаканасцямі ды адорваць сюрпрызамі здатнае не толькі навакольнае жыццё, але і мастацтва. Колькі разоў можна сутыкнуцца з яго парадоксамі! Бо ў наш час, на пераломе стагоддзяў, сталася так, што аматарства ўзнялося на вялікі ўзровень, а прафесійная творчасць, наадварот, знізіла планку, і сярод безлічы цяперашніх тэатральных пастановак "сярэдняе арыфметычнае" знаходзіцца далёка ад прасторы сапраўднага мастацтва. Тым большае ўражанне, узрушанасць, проста ўздым пачуцця ахопліваюць тэатрала (і аматара, і практыка, які мае дачыненне да гэтага цудоўнага жывога мастацтва), калі ён нечакана напаткае хаця б фрагменты сцэнічнай творчасці, якія адпавядаюць гэтай вялікай назве — Тэатр.



# Тэатральная нечаканасць

Я знаёмы з Наталляй-Разаліяй Родзінай ужо некалькі гадоў — з таго часу, як я выкладаў у Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў эстэтыку і культуралогію, а яна была студэнткай рэжысёрскага аддзялення. Мы неаднаразова сустракаліся і ў Нацыянальным акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы, дзе ёй давялося папрацаваць. А сёлета паглядзеў спектакль "Дзюймовачка", які малады рэжысёр паставіла ў Беларускім рэспубліканскім ТЮГу. Спектакль атрымаўся дыхтоўны, даволі моцны, асабліва калі ўлічваць, што яго стваральнікам быў пачатковец. Але нічога нечакана-незвычайнага я не ўбачыў.

Вядома, рэжысура — самае слабае звяно беларускага тэатра. Акцёры ў нас усё-ткі трымаюць планку: у іх зберагаецца школа і моманты сапраўднага майстэрства (праўда, гэта датычыць пераважна псіхалагічнага тэатра, тэатра перажыванняў). Сцэнографы апошнім часам, дзякуючы мастацка-педагагічнай дзейнасці Б. Герлавана, таксама выглядаюць больш-менш грунтоўна. І драматургія на пераломе стагоддзяў неяк скранулася з месца — цяпер за межамі Беларусі добра ведаюць не толькі Андрэя Курэйчыка, але і, напрыклад, імёны Сяргея Гіргеля, Міколы Рудкоўскага, Паўла Пражко. І толькі з рэжысурай — хоць плач. Зразумела, прафесія рэ-



жысёра вымагае складанага комплексу моцнай асобы. А ў нас апошнім часам у рэжысуру ідуць амаль адны дзяўчаты. Не, я зусім не антыфемініст. Калі чалавек у такой цяжкай працы, як мастацтва, можа пацвердзіць сваю годнасць, вартасць,шчыра скажу, для мяне не мае значэння тая інфармацыя, што не датычыць яго прафесіі. Але на працягу свайго не надта кароткага жыцця я ў нашых тэатрах бачыў толькі аднаго звышвыдатнага рэжысёра — Веру Рэдліх, і яшчэ аднаго, так бы мовіць, які здзейсніўся, — Наталлю Башаву. А ся-



род легіёна новых "шукальнікаў шчасця" ў гэтай цяжкай, звышцяжкай прафесіі я ведаю пакуль толькі трох асоб, якія здзівілі: Кацярыну Агароднікаву, Вольгу Саратокіну і Кацярыну Аверкаву. Здзівілі нейкай адметнасцю — і гэта ўжо дасягненне.

Аднак жыццё мастацкае можа не толькі здзівіць, але і ўразіць. Я зноў пераканаўся ў гэтым, пабываўшы нядаўна ў Гродне.

Пры першым позірку на афішу Гродзенскага абласнога драматычнага тэатра ледзь не аслупянеў: назва новага тамтэйшага спектакля значылася буйнымі літарамі — "Графіня Шардэн", а маленькімі ўдакладнялася, што пастаноўка зроблена паводле твора К. Хігінса "Гаральд і Мод". Мне адразу ўспомнілася адзін з лепшых спектакляў тэатра імя Янкі Купалы 1990-х гадоў — "Гаральд і Мод" у адметнай, саспелай ужо рэжысуры М. Пінігіна і з яскравымі, незвычайнымі акцёрскімі работамі В. Манаева і С. Станюты. Яны двое стварылі цудоўны ансамбль… Як можна спаборнічаць з імі!

Я думаў: не вытрымаю, пайду з залы, але расхінулася заслона, і потым… Потым пайсці не было ніякай патрэбы, таму што са сцэны (тэатрал гэта адчувае!) пацягнула адразу жывым токам. Даволі ўмоўная сцэнаграфічная канструкцыя, якая добра і тактоўна падтрымлівае дзеянне разам з музыкай. (Пасля заканчэння спектакля я спытаў у Наталлі-Разаліі Родзінай — а менавіта яна працавала і ў якасці аўтара музычнага афармлення спектакля — колькі варыянтаў мелодый было выкарыстана ёю падчас працы над спектаклем. Яна адказала: каля дзвюх соцень.) Сцэнаграфія і касцюмы, якія яе лагічна дапаўняюць, зробленыя Алесяй Снапок-Сарокінай, якую па праве можна лічыць сааўтарам спектакля. Асабліва ў гэтым сэнсе ўражвае гэтак званая "японская" мізансцэна, дзе Мод прымае Гаральда ў адпаведным стылі, дзе ўсё фактурна і лёгка, адначасова паветрана і моцна. Нядрэнна выглядае і пластычны малюнак спектакля (харэограф гродзенскі — Аляксандр Цебенькоў), і яго работа сведчыць пра павышэнне айчыннай тэатральнай культуры).

Такое падрабязнае апісанне дэталей спектакля заўсёды выклікае падазрэнне, што нечага, мабыць, бракуе ў самім дзеянні. Так часам здараецца ў сучасных спектаклях, дзе сцэнограф альбо харэограф "цягнуць коўдру" на сябе. Але ў гэтым спектаклі ўсё падпарадкавана генеральнай ідэі. Дзякуй Богу, яна ёсць у пастаноўцы і вызначае яе мастацкі ўзровень. Гэта ідэя перамогі агульначалавечага, ідэя сцвярджэння жыцця, любавання ім. І па-рэжысёрску яна вырашаецца не "ў лоб", а неяк спакваля. Нездарма жанр спектакля вызначаны як сюіта-фантазія ў стылі танца мадэрн. Знакаміты пінігінскі "Гаральд і Мод" уяўляецца спектаклем на дзве асобы. У гродзенскай пастаноўцы дзейных асоб дванаццаць. І прахадных персанажаў няма. Я быў сведкам, як рэжысёр перажывала з-за ўвода ў спектакль новага выканаўцы на ролю садоўніка, які з'яўляецца на сцэне літаральна на некалькі хвілін.

Годна выглядаюць у спектаклі А. Шаўкаплясаў (доктар Мацііуш), В. Жадзько (Мары), А. Станога (святар), А. Дзям'янаў (паліцэйскі). А работы А. Івановай (мадам Чэйзен), А. Машынковай (Нэнсі) і Т. Жук (Сільвія) наогул аздабляюць дзеянне, надаюць яму своеасаблівую стэрэаскапічнасць, атачаюць адносіны галоўных герояў, маюць і самастойную сцэнічную значнасць.

Што датычыць галоўных герояў, можна сцвярджаць, што менавіта ў іх адносінах знаходзіць канчатковае завяршэнне ідэя спектакля пра бязмежнасць чалавечай любові. Гаральд Чэйзен у выкананні М. Вілімовіча па-юнацку парывісты, чысты імкненнямі і дзеяннямі. А Мод актрысы Л. Волкавай і ўражвае, і здзіўляе адначасова. Яна нясе з сабой дабрыню трапятліва і ўсхвалявана. Калі глядзіш за яе рухам-палётам на сцэне, абвешчаны ўзрост гераіні здаецца абсурдам. Міжволі верыш, што ў такую Мод і сапраўды можна закахацца! І таму сапраўднай трагедыяй успрымаецца знікненне Мод. І як запавет і Гаральду, і нам, гледачам, застаюцца ў памяці яе словы: "Жыццё — як гэта цудоўна!.."

А з тэатральнага пункта гледжання вельмі цікава асэнсоўваць моцную повязь працы вялікага тэатральнага майстра і маладога артыста, які шукае сябе і раскрывае пры гэтым творчы патэнцыял. Але важней за ўсё тое, што сінтэз гэтых дзвюх акцёрскіх работ трымае, як гавораць у будаўніцтве, усю апорную канструкцыю, надае спектаклю імпульс сапраўднай мастацкасці…

І яшчэ адно. Я бачыў, з якой павагай сустракалі акцёры за кулісамі свайго рэжысёра. І гэта для мяне, абазнанага ў закулісных стасунках, — вызначальны паказчык. Значыць, рэжысёр (малады рэжысёр!) змагла выклікаць давер выканаўцаў, пераварыць іх у сваіх аднадумцаў. Толькі так і дасягаюцца творчыя перамогі. Адна з іх — спектакль "Графіня Шардэн" у Гродзенскім абласным драматычным тэатры. На жаль, мы са сваёй сціпласцю і сталічным пыхай (гэта датычыць "топавых" мінскіх крытыкаў) не заўсёды заўважаем тыя парасткі сапраўднай мастацкасці, якія з'яўляюцца у нас, часам далёка ад сталіцы.

Вялікая рэч, аказваецца, нечаканасць. Яна калі-ніколі адмыкае браму здзіўлення. А здзіўленне — маці пазнання і радасці.

Вадзім САЛЕЕЎ,
доктар філасофскіх навук,
тэатральны крытык

На здымках: сцэны са спектакля "Графіня Шардэн".

# Польскі карнавал

Музей сучаснага выяўленчага мастацтва наладзіў пры падтрымцы Польскага інстытута ў Мінску выстаўку "Польская сучасная графіка", падрыхтаваную выкладчыкамі ды выпускнікамі факультэта графікі Акадэміі мастацтваў горада Катавіцы. Экспазіцыю прадставілі дэкан факультэта прафесар Гжэгаж Ханьдэрэк ды загадчык майстэрні шаўкаграфіі прафесар Вальдэмар Вэнгжын. Гасцей з Катавіц віталі дырэктар музея Наталля Шаранговіч, дырэктар Польскага інстытута ў Мінску (ІР) Пётр Казакевіч, старшыня Нацыянальнай камісіі Рэспублікі Беларусь па справах ЮНЕСКА



Уладзімір Шчасны. А першы намеснік старшыні Беларускага саюза мастакоў Рыгор Сітніца падкрэсліў, што каля 300 гадоў беларусы ды палякі жылі ў адной дзяржаве, і наўрад ці ёсць яшчэ большая радня ў свеце, чым нашы народы, таму сённяшняя, дзякуючы кіраўніку ІР, актывізацыя працэсу збліжэння дзвюх родпасных культур мае вельмі важнае значэнне. З дапамогай польскіх калег нашы мастакі могуць хутчэй дасягнуць больш глыбокага пранікнення ў еўрапейскую арт-прастору. А знаёмства з дасягненнямі трох пакаленняў катавіцкай школы графікі дазваляе беларускім творцам карэктаваць прафесійныя самаацэнкі, не цурацца разнастайнасці ў традыцыях і эксперыментах.

У экспазіцыі спалучыліся два асноўныя кірункі развіцця польскай сучаснай графікі: арыентацыя на класічныя традыцыі, развіццё ў межах стараданіх тэхналогій (высокі друк, інталія, сухая іголка) ды пошук з выкарыстаннем складаных спалучэнняў камп'ютэрных магчымасцей (лічбавы друк). Катавіцкая школа графікі, якая вядзе свой радавод ад легендарнай Кракаўскай акадэміі выяўленчага мастацтва, — самая маладая ў Польшчы: у наступным годзе яна адзначыць 10 гадоў. Тут імкліва і няспынна адбываецца перагляд абшару творчасці, вынікам чаго — смелае выкарыстанне лічбавых матрыц, светлавой анімацыі, развіццё "трэцяга вымярэння" літаграфіі; разнастайныя тэхнікі друку перамяшчаюцца з паперы на палатно, а інтэрмедыйная графіка асвойвае паверхню гарадской ратушы...

Работы Евы Завадскай, Ёзафа Будкі, Аляксандра Лясоня, Марыуша Палкі, Якуба Цікалы, Яна Шматлоха, Шымона Прандзёха ды іх калег дэманстра-



валі пейзажы і вобразы, народжаныя ў падсвядомасці, рэальныя чалавечыя твары і філасофію беспрадметнага свету, рэбусы геаметрычных фігур і рытміку абстрактных колеравых "акордаў", напаўняючы залу карнавальнай стыхіяй — стракатай, парадаксальнай і загадкавай...

Святлана БЕРАСЦЕНЬ

На здымках: Адам Раманюк "Карнавал" (лічбавы друк); Дарэк Гаеўскі "Прастора ІІ" (лічбавы друк).

Фота Віктара Кавалёва

У Беларускім саюзе музычных дзеячаў працягваецца працэс аб'яднання членаў суполкі паводле прафесійнага прынцыпу. Да сямі творчых асацыяцый (цымбалістаў, дамрыстаў і мандалiністаў, перкусіі, майстроў музычных інструментаў, кіраўнікоў хароў хлопчыкаў і юнакоў, оперна-сімфанічных дырыжораў, баяністаў і акардэаністаў) дадалася Асацыяцыя маладых беларускіх кампазітараў (АМБК), якая аб'ядноўвае прафесійных кампазітараў ва ўзросце да 39 гадоў. Галоўная мэта арганізацыі — папулярызацыя музыкі маладых кампазітараў краіны, дапамога ў рэалізацыі іх творчага патэнцыялу.

# Сябры па суполцы

Сярод прыярытэтнах напрамкаў дзейнасці АМБК — арганізацыя і правядзенне фэстаў сучаснай акадэмічнай музыкі, канцэртаў з твораў маладых кампазітараў Беларусі, супрацоўніцтва з рэжысёрамі, харэографамі, мастакамі, паэтамі і г.д. з мэтай стварэння разнастайных арт-праектаў; падрыхтоўка да выдання партытур твораў членаў асацыяцыі, а таксама CD і DVD з аўдыё- ды відэазапісамі іх твораў; стварэнне нотнай электроннай бібліятэкі маладых кампазітараў краіны; пашырэнне міжнародных кантактаў у галіне сучаснага музычнага мастацтва; актыўная прапаганда маладзёжнай акадэмічнай музыкі ў сродках масавай інфармацыі.

Старшынёй Асацыяцыі маладых беларускіх кампазітараў абраны Канстанцін Яськоў, яго намеснікам — Максім Круглы.

♫ Новая творчая структура БСМД — квартэт блокфлейт "Brevis", выключна рэдкі па сваім інструментальным складзе, — быў створаны ў 1998 г. як дзіцяча-юнацкі калектыў. За гады існавання ансамбля тут выхавана плеяда высакакласных музыкантаў. Паспяхова гастралявалі "Brevis" у Германіі, Польшчы, Літве, ААЭ, Паўднёвай Карэі.



З'яўляецца лаўрэатам міжнародных конкурсаў камерных ансамбляў імя М. Кл. Агінскага (2006 г. — 1 прэмія, 2009 г. — 3 прэмія), III міжнароднага конкурсу камерных ансамбляў, фартэпіянных дуэтаў і канцэртмайстарскага майстэрства ў г. Клайпеда (2007 г.), VII міжнароднага фестывалю-конкурсу старадаўняй музычнай культуры "Wspolne Dziedzictwo Kultury" (2009 г. — 1 прэмія). У 2008 г. за актыўную паспяховую творчую дзейнасць ансамбль атрымаў грант спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы таленавітай моладзі на набыццё прафесійнага камплекту блокфлейт фірмы "МОЕСК" (ФРГ). У актыве ансамбля — 6 аўдыё кампакт-дыскаў, адзін з якіх выдадзены ў 2008 г. "Новай музычнай кампаніяй" і дыстрыб'ютраваны ў СНД. Мастацкі кіраўнік квартэта "Brevis" — член Беларускага саюза музычных дзеячаў Павел Сурагін.

Васіль ВАЛОДЗЬКА

Сябры! На вашы пытанні, якія датычацца падрыхтоўкі матэрыялаў для гэтай старонкі, адкажа першы намеснік старшыні праўлення Беларускага саюза музычных дзеячаў Наталля Васільеўна ВІТЧАНКА.
Тэлефоны: (017) 222-37-33 — працоўны; (029) 507-55-05 — МТС; (029) 699-32-00 — Velcom.

# Рэха спеўных струн

Сёлетняй вясною па ініцыятыве ўпраўлення культуры Мінгарвыканкама і пры падтрымцы Беларускага саюза музычных дзеячаў праводзіўся VI Мінскі гарадскі адкрыты конкурс юных выканаўцаў на струнных народных інструментах памяці Г. Жыхарава "Спяваючыя струны".

Творчыя спаборніцтвы ажыццяўляліся ў розных намінацыях (домра, мандаліна, балалайка, інструментальны ансамбль) у ДМШ № 7 г. Мінска, дзверы якой заўсёды гасцінна расчыненыя для канцэртаў і конкурсаў. Юныя артысты, якіх было больш як 100, прыехалі з розных куткоў краіны — Полацка, Магілёва, Барысава, але ж найбольшую колькасць канкурсантаў прадставіў Мінск. Заахвочаныя выкладчыкі музычных школ на працягу навучальнага года рупліва рыхтавалі сваіх вучняў да конкурсу, які з'явіўся адначасова і творчай справаздачай, і яскравым святам інструментальнага жанру. Хваляванне ўсіх удзельнікаў было зразумелае: праслухоўванне паважаным журы на чале з заслужанай артысткай Беларусі, прафесарам Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі, членам прэзідыума БСМД Галінай Асмалоўскай, а таксама імя Г. Жыхарава, памяці якога прысвячаўся конкурс, — гэта абавязвала выконваць праграму з высокім мастацкім густам, тэхнічна і выразна.



Нельга не адзначыць, што Георгій Іванавіч Жыхараў — заснавальнік і вялікі майстра народна-інструментальнага мастацтва, які паклаў пачатак у напрамку акадэмізацыі выканальніцтва на струнных народных інструментах. За сваё жыццё ён стварыў шмат разнастайных інструментальных калектываў (у тым ліку аднавіў пасля Вялікай Айчыннай вайны дзейнасць сэкстэта домраў Беларускага радыё). Яскравы аранжыроўшчык, Г. Жыхараў, чыя творчая дзейнасць вызначалася разнастайнасцю і высокай артыстычнай культурай, стварыў шэраг нотных работ, якія цяпер знаходзяцца ў БДАМ у так званай "жыхараўскай бібліятэцы". Гэта ноты для ансамбляў, аркестраў розных складаў і творчага ўзроўню, але ж усе адметныя выразнасцю і дасканаласцю. У дзейнасці Г. Жыхарава не было нічога выпадковага. Настойліва і прафесійна ён прапагандаваў народныя інструменты, прыкладаў вялікія намаганні, каб людзі іх ведалі, гралі на іх, любілі гэты мілагучны каларыт. На працягу дзесяцігоддзя (1963 — 1973) Георгій Іванавіч з'яўляўся загадчыкам кафедры струнных народных інструментаў БДАМ. Нястомны творца-педагог, ён выхаваў плеяду яркіх музыкантаў, якія з вялікім майстэрствам і энергіяй працягваюць працу свайго Настаўніка.

Але ж звернемся да сённяшніх юных талентаў і паглядзім на вынікі конкурсу. Лаўрэатамі Гран-пры ў розных намінацыях сталі Ілья Якубеня з Полацкай школы мастацтваў і дуэт брата ды сястры Аляксея і Дар'і Пракапенкаў з ДМШ № 11 г. Мінска. Першыя прэміі ў сольных намінацыях заваявалі мінчане Соф'я Ляўковіч, Ліза Кнацько (ДМШ № 6), Алена Філазаповіч (ДМШ № 7), Яна Пяровіч (ДМШ № 1), Андрэй Дзем'яненка (ДШМ г. Мінска) і Настасся Барадаўка (ДМШ № 11); у ансамблевых намінацыях былі лепшымі ДМШ № 12, № 17, № 7, № 1.

Каб вызначыць асноўныя напрамкі развіцця вучняў, варта паразмаўляць з журы. Так, загадчык цыклавой камісіі "Струнныя народныя інструменты" Мінскага дзяржаўнага музычнага вучылішча імя М. Глінкі Я. Валасюк адзначыў: "Безумоўна, конкурс выклікаў вялікую зацікаўленасць музычнага грамадства. У гэтага мерапрыемства ёсць будучыня і добры творчы настрой, бо тут маюць месца свята і, адначасова, спаборніцтва. У вучняў заўважна ўзрост выканальніцкі ўзровень, яны выконваюць цікавыя праграмы, творча падыходзяць да вырашэння складаных задач". Добрыя пажаданні пачулі салістывыканаўцы на мандаліне ад старшыні Асацыяцыі беларускіх дамрыстаў і мандалiністаў БСМД, лаўрэата міжнародных конкурсаў М. Марэцкага, які выказаў упэўненасць у яркай творчай будучыні лаўрэатаў, падкрэсліў неабходнасць уключаць у рэпертуар буйныя творы класікі, створаныя для мандаліны А. Вівальдзі, Л. ван Бетховенам, В. Моцартам, Ф. Саулі, М. Карэтам. Кандыдат мастацтвазнаўства дацэнт БДАМ В. Шчарбак падкрэсліў імкненне навучэнцаў ДМШ іграць на балалайцы і адчуваць разнастайныя фарбы гучання, а таксама артыстызм дзяцей.

Аднак вынік конкурсу — гэта не толькі ўзнагароды і пашана. Галоўнае, як лічыць старшыня журы конкурсу Г. Асмалоўская, — любоў дзяцей да музыкі і народных інструментаў. Не ўсе вучні музычных школ выбіраюць тут прафесійны шлях, але ж яны становяцца падрыхтаванымі аматарамі мастацтва, што з'яўляецца значным сацыяльным (грамадскім) фактарам. Таксама нельга не адзначыць стымул інтэнсіўнага прафесійнага росту не толькі вучняў, але ж і выкладчыкаў.

Пажадаем нашаму творчаму святу пашыраць геаграфію, набываць новых сяброў і ўдзельнікаў, умацоўваць свой статус у пачэсным чарадзе творчых праектаў.

Наталля МЯРКУЛАВА-НАЛІВАЙКА,
старшыня гарадской метадычнай секцыі па спецыяльнасцях "домра, мандаліна, балалайка",
член Беларускага саюза музычных дзеячаў

# Граць і слухаць сваё!

Не вельмі часта на афішах Беларускай дзяржаўнай філармоніі можна ўбачыць канцэрты, у якіх гучала б музыка выключна беларускіх кампазітараў. Таму сапраўдным святам стаўся канцэрт навучэнцаў і педагогаў сталічнай дзіцячай музычнай школы № 10 імя Я. Глебава.

"Музыка беларускіх кампазітараў у сэрцах нашых дзяцей" — так называўся той дынамічны і вельмі добра скампанаваны па драматургіі канцэрт. Ён прайшоў на адным дыханні, хаця гучалі творы самых розных жанраў і для самых розных выканаўчых складаў — ад дуэтаў да аркестравых і харавых калектываў. Нумары з удзелам вучняў і педагогаў, а таксама сумесныя, змянялі адно аднаго, але ва ўсім канцэрце адчуваўся той высокі прафесійны ўзровень, які быў зададзены ад пачатку праграмы. І асабліва ўразілі самыя юныя выканаўцы, якія прадэманстравалі зусім не вучнёўскі артыстызм і ўпэўненае валоданне сваім інструментам. Асаблівым і хвалюючым момантам для многіх юных талентаў з'явілася выкананне твораў у прысутнасці аўтараў, вядомых беларускіх кампазітараў Віктара Войцiка, Галіны Гарэлавай, Эдуарда Зарыцкага, Ігара Лучанка, Ларысы Мурашкі, Кіма Цесакова. Трэба адзначыць, што прыкладам для таленавітых навучэнцаў з'яўляецца цудоўны педагагічны калектыў, у якім працуюць такія вядомыя выканаўцы, як лаўрэаты міжнародных конкурсаў Таццяна Карма-



зінава, Аляксей і Павел Дараганавы, квартэт драўляных духавых "Riviera" пад кіраўніцтвам Максіма Расохі.

Выкананне музыкі беларускіх кампазітараў навучэнцамі і педагогамі школы даўно зрабілася добрай традыцыяй. І ў гэтым вялікая заслуга выдатнага кіраўніка ДМШ № 10 імя Я. Глебава, заслужанага дзеяча культуры, члена праўлення Беларускага саюза музычных дзеячаў Тамары Арцёмаўны Куніцкай. Дзякуючы яе запалу і шчырай зацікаўленасці, шматгадовая дружба са многімі беларускімі кампазітарамі перагварылася ў сапраўднае творчае супрацоўніцтва, праз якое малады музыканты далучаюцца да сваёй нацыянальнай музычнай культуры. Жадаем калектыву школы далейшых поспехаў на гэтым шляху і чакаем новых канцэртаў.

Максім КРУГЛЫ

На здымку: у зале — кампазітары.
Фота Уладзіміра Вітчанкі

Класічная беларуская літаратура не карыстаецца сённяшнім асаблівай увагай у шырокага чытача. Пашыраным з'яўляецца ўяўленне пра невысокую вартасць твораў першай паловы XX стагоддзя ці, прынамсі, іх неадпаведнасць сучасным мастацкім густам і інтэлектуальным запатрабаванням. Калі ж уражанні ад тэкстаў малавядомых дагэтуль аўтараў дашчэнту зруйнавалі мае ўласныя стэрэатыпы, сталася зразумелым, што праблема стаўлення да класікі патрабуе разгляду. Мэта распачатага цыкла артыкулаў — вылучыць пісьменнікаў, якія маглі б быць чытанымі сёння, а таксама спыніцца на адметнасці творчасці аўтараў, вядомых яшчэ па школьных падручніках. Допісы пра асабістыя літаратурныя адкрыцці, паралелі паміж творчасцю класікаў і сучаснікаў, супастаўленні тэкстаў беларускай і замежнай літаратуры азначанага перыяду будуць чаканымі ў рэдакцыі і дазволяць чытачам таксама працягнуць рубрыку...

# ...І дастатковая ступень інтэлектуалізму



Алеся ЛАПІЦКАЯ — новы супрацоўнік аддзела крытыкі "ЛіМа", — магчыма, ужо вядомая чытачам па сваіх артыкулах у нашым тыднёвіку. Нарадзілася ў Мінску, цяпер з'яўляецца студэнткай Беларускага дзяржаўнага універсітэта (спецыяльнасць беларуская філалогія). Распачынае зварот да пачаткаў, вытокаў роднай літаратуры, намагаючыся кароткімі заўвагамі адносна творчасці пісьменнікаў XX стагоддзя "асвяжыць" уяўленне чытача пра беларускую класіку.

Адна з асаблівасцей літаратурнай сітуацыі ў нашай краіне — нізкая папулярнасць беларускай класікі, нават сярод чытачоў народу. З чытачоў "ЛіМа" таксама, бадай, не кожны, прагартаўшы газету, пацягнецца па раманы К. Чорнага ці вершы Якуба Коласа. Пра невысокую запатрабаванасць сведчыць і ўзровень прапановы ў кнігарнях і ў байнэце: ані там, ані там не знойдзеш, прыкладам, вершаў Алаізы Пашкевіч ці Алеся Гаруна...

Яшчэ ў юнацтве патэнцыйных аматараў беларускай літаратуры адштурхоўвае ад класікі школьная праграма: "колькі можна пра тую вёску чытаць", — пэўна, знаёмае ўсім нараканне былых аднакласнікаў. Між тым, тэматычная і настраёвая аднастайнасць беларускай літаратуры першай паловы XX стагоддзя была відавочнай і для тагачасных аўтараў. "Дый нашто вам так карціць у вашай літаратуры гэта жалобнае жыццё? Ну, напісалі, паказалі другім людзём і сабе, што вам дрэнна і што ў вас баліць, паплакалі троху, дый досыць. Шукайце новага чалавека, які ён павінен быць. А прычыны вашай нядолі вы ўжо палічылі, зразумелі, знаючы іх, шукайце раду, лекі", — кажа маскоўскі дэмакрат з драматызаванай аповесці "Антон" Максіма Гарэцкага. Аднак выпраўляць хібы няпроста, тым больш, што паводле савецкіх стандартаў дакалгаснае жыццё вёскі трэба было маляваць абавязкова гаротным, а шчаслівы калгаснік — "новы чалавек" — атрымліваўся ў пісьменнікаў чамусьці ненатуральным.

Тэматычна-стылёвая адметнасці беларускай класікі маюць вынікам скептычнае стаўленне да яе з боку шэрага сучасных аўтараў — праз што маладыя людзі (не філолагі, а зацікаўленыя ў літаратуры наогул) часцяком пачынаюць лічыць творчасць пісьменнікаў мінулага стагоддзя не вартай уласнай увагі. Калі аўтарытэт Міхаіла Дастаеўскага ці Льва Талстога застанецца непахісным нягледзячы на іронію сённяшніх літаратараў і іх памкненне да самасцвярджэння (цалкам натуральнае для кожнага новага творчага пакалення), становішча беларускіх аўтараў у большай ступені няпэўнае. Па-першае, таму, што сапраўднае ўяўленне пра стан беларускай літаратуры пакуль немагчымае: шмат якія імёны і творы яшчэ не вернутыя шырокаму чытачу. Сведчанне гэтаму — выданні "Беларускага кнігазбору", дзе далёка не ўсе прозвішчы пісьменнікаў (такіх, як Фадзей Булгарын, Уладзімір Жылка, Рыгор Кобец) знаёмыя сучасным чытачам. Па-другое, пустазелле дагэтуль не адкінутае ад збожжа, і больш актуальным было б не поўнае адмаўленне папярэднікаў (абсалютызацыя заўжды некарэктная), а спроба расставіць акцэнты і вылучыць значнае ў беларускай літаратурнай спадчыне. Таму актуальнасць набывае менавіта сучасны погляд на беларускую класіку — прычым, погляд асабісты, не вузка навуковы, погляд чытача, што пры пэўным веданні сённяшняй літаратуры звяртаецца да творчасці аўтараў XX стагоддзя з імкненнем заўважыць яе вартасць і магчымую цікавасць у наш час. Неабходнасць жа ведання роднага прызнавалася здаўна:

> Бо толькі родны чарназём,
> цяплом духовым абагрэт,
> здалее даць пітомнае красы
> праўдзіўны квет.

Цікава, ці шмат хто здагадаўся, каму належаць вершаваныя радкі? У школьных падручніках гэты пісьменнік згадваецца адно як грамадска-палітычны дзеяч, мовазнаўца, аўтар "Кароткай гісторыі Беларусі". Аднак сапраўды значнай была і літаратурная дзейнасць Вацлава Ластоўскага. Ягоныя абразкі і вершы ў прозе маюць, бясспрэчна, высокі мастацкі ўзровень, стылёва і інтанацыйна нагадваюць творы тых жа жанраў Уладзіміра Арлова. Вершы ж Ластоўскага цалкам руйнуюць стэрэатыпы пра беларускую класічную паэзію. Замест катрэнаў з перакрыкаванай рыфмоўкай — верлібры, дольнікі, радковыя лагаэды з нерэгулярнай, часам распыленай рыфмай — то бок своеасаблівы рытмічны малюнак у кожным вершы, абсалютная незасяроджанасць на пэўным памеры і абавязковай даўжыні радкоў. Дзякуючы гэтаму, творы ўспрымаюцца як больш эмацыйныя, жывыя і вольныя... Яшчэ адна адметнасць вершаў Ластоўскага — тое, што штуршком для большасці з іх была патрэба выказаць пэўную, дакладна ўсвядомленую думку — адкуль шматлікасць тэм і выразнасць асноўных ідэй твораў. Тут і супастаўленне гандлю славянскімі рабамі на генуэзскім рынку са зладжанай у тым самым горадзе міжнароднай канферэнцыяй 1922 г., і паэтызацыя беларускай Радуніцы, і малітва зорніка да Сварога...

Адметнасць жа ўсёй творчасці Ластоўскага — па-першае, нязвыклая мова, пры мінімальнай колькасці русізмаў вельмі насычаная архаізмамі, дыялектызмамі і неалагізмамі (праснёны, канодны, кураклік, калыбка), што вылючна адпавядае сучаснай плыні ў літаратуры. Па-другое — зварот да гістарычнай тэмы і відавочная прыхільнасць аўтара да паганства, першаснай веры беларусаў, што магла б злучыць народ у адрозненне ад прынесенага чужынцамі хрысціянства. Дзякуючы гэтым уласцівасцям, паэзія Ластоўскага ўспрымаецца сёння абсалютна арганічна, а большасць вершаў, пакладзеных на музыку, маглі б быць з поспехам праспяваныя якім-небудзь pagan-metall гуртом.

Апавяданні гэтага аўтара разнастайныя паводле тэматыкі, стылю, мастацкага модусу, і разнастайнасць гэтая падаецца вельмі прывабнай. Такія ж апавяданні, як "Дудар", "Дзень ружавай кветкі", "Часы былі трывожныя", нават сёння ўсцешылі б рэдактараў літаратурных часопісаў.

Аповесць "Лабірынты" — крыху несувымерная, перагружаная звесткамі па беларускай і сусветнай міфалогіі, але значная як першая спроба стварэння вялікага фантастычнага твора. Для тых, хто сёння захапляецца тэмай паганства, развагі і супастаўленні Ластоўскага былі б, безумоўна, цікавымі; зрэшты, высокая ступень інтэлектуалізму прыкметна вылучае гэтага пісьменніка з шэрага тагачасных ягоных калег. Здзіўляе, што яшчэ да першай кнігі, выдадзенай Уладзімірам Пропам — вядомым фалькларыстам, які пачатак структурна-тыпалагічнаму вывучэнню наратыва, беларускія пісьменнікі імкнуліся заўважыць у народных казках сімвалічнае адлюстраванне актуальных для народа рэчаісных з'яў. Так, згадваючы Кацігарошка з сялянскай сям'і, што "падросшы, ідзе нішчыць зло на зямлі і памяць дабірае сабе яшчэ двух, а часам трох асілкаў, якія ўрэшце робяць між сабой змову, каб загубіць яго" — В. Ластоўскі тлумачыць казачную алегорыю такім чынам: "Чужаземцы, прыманыя спярша як госці, пачалі панявольваць славянскія народы і памяць абяртаць у сваіх нявольнікаў". Да таго ж, навукоўца робіць шматлікія параўнанні між беларускай і грэчаскай міфалогіяй...

У "казачным" кантэксце немагчыма абмінуць рускамоўны эцюд Максіма Багдановіча "Мадонна", дзе галоўны герой захапляецца імкненнем мастакоў спалучыць у абліччы Мадонны харастве і нявінніцы, і маці, а пасля звяртаецца да казкі "о братце Иванушке и сестрице Аленушке". "Тут народ свои наблюдения над жизнью выражал и, на этих вот нянекнедолетков внимательным глазом взглянувши, создал образ девочки с материнскими чувствами, — образ, как видите, в серию все тех же Мадонн входящий". Безумоўна, гэткім роздумам паспрыяла ўвага беларускіх пісьменнікаў да фальклору, самым яскравым выяўленнем якой сталіся вершы і паэмы Янкі Купалы.

На развітанне ж з творчасцю В. Ластоўскага — ягоны верш "На Каляды":

> Святаў Калядаў
> крывіцкім звычаем
> ў хатках нізенькіх прыкдаўшы,
> ў конадзень славіці
> выправім чэлядзь к суседу,
> "слаўце як трэба" сказаўшы.
> Сам я сягоння з жаною
> князям й князіняй завуся:
> месякам ясным я ў хаце,
> сонейкам жоначка будзе...
> Сеўшы на покуць,
> на лаве шырокай,
> дзетачак-зорак і чэлядзь
> пасадзім круг-столу:
> вось і нябёсы ў хатцы ўбогай,
> вось і багамі мы, людзі!

## Наміткі ад Віткі

Сваімі жыццём і творчасцю Васіль Вітка сапраўды вялізны сувой ужаўскага палатна. З яго можна нарабіць мноства намітак і ахінуць імі ўсё самае дарагое, што выпеставаў Цімох Васільевіч за свае 85 зямных гадоў.

Які ж Віткаў скарб прасіцца ў абдымкі з яго намітками? Слова — трапяткое і вобразнае. Мама з яе беларускай калыханкай. Дзеці — Божыя пасланнікі на Зямлі. "Вясёлка" — школка для малалетках. Вася Вясёлкін — пястун дзеда Васіля. Сябры, верныя ў хмарныя і сонечныя дні. Кнігі — выхавальніцы душы. Беларусь, якую Паэт любіў да слёз.

Я назваў Васіля Вітку паэтам. А ён жа яшчэ — казачнік, празаік, драматург, публіцыст, перакладчык, крытык, сатырык, гумарыст, энцыклапедыст, рэдактар, педагог.

У характары гэтага творцы вылучаюцца такія чалавечыя рысы, якія ўласцівы толькі Беларусу. Гэтыя якасці, як жывыя промні, бачацца мне ў асобе Васіля Віткі: прыродная мудрасць, непадкупная сціпласць, цыльцовая нястомнасць, вясёлкавая іскрыстасць, вясновая душэўнасць, таленавітая трывучасць, зайздросная вернасць.

Усё гэта зноў жа, як ікону, можна ўпрыгожыць наміткамі Віткі. І ўсё гэта цяпер — наша спадчына.

Я шчаслівы, што аднойчы асмеліўся і занёс самому Васілю Вітку свае першыя дзіцячыя апавяданні. Ён папрасіў прачытаць іх услых. Слухаў ён, галоўны рэдактар "Вясёлкі", і яго паплечнікі — Сяргей Грахоўскі, Алесь Пальчэўскі. Я, помню, узмакрэў ад таго чытання і папрасіўся зайсці да іх іншым разам, калі некалькі разоў перапішу свае творы. Цімох Васільевіч падараваў мне сціплую ўсмешку:

— Правільна вырашылі, Валодзя...

Тыя апавяданні пра Рыгоркавы прыгоды былі надрукаваны ў "Вясёлцы" на дзвюх старонках. Я ж і не мог прадбачыць тады, што некалі, ажно на трыццаць гадоў, стану галоўным вясёлкаўскім рэдактарам. А Цімох Васільевіч, мне здаецца, гэта адчуваў.

Аднойчы, калі я браў у яго інтэрв'ю, ён папрасіў мяне запісаць прозвішчы пісьменнікаў, якім ён даверае лёс беларускай дзіцячай літаратуры. Сярод іх Цімох Васільевіч назваў і мяне. Я паспрабаваў далікатна, але настойліва, не запісваць сваё прозвішча, ды ён быў непахісны.

— Валодзя, запішыце ўсё тое, што я вам сказаў.

У гэты міг яго добры, мілы твар быў крыху насуплены, строгі, як у бацькі з папружкай: "Рабі, што загадаў!"

Шмат-шмат чаго выношвае мая душа пра Васіля Вітку. Пасеянае — зарунее, закалосіць і дасць умалотны ўраджай. У гэта веру! І жыву ў будных і святах з адчуваннем, што Вітка і цяпер, з нябёсаў, спрыяе мне ў творчасці, у рэдактарстве, у любові да роднага Слова і мілай Беларусі.

Уладзімір ЛІПСКІ

## Памяць пра земляка

Пра слыннага земляка – пісьменніка Міколу Гамолку — не забыліся на малой радзіме. Колькі год Жыткавіцкім райвыканкамам было прынятае рашэнне аб ушанаванні памяці аўтара аповесцей "Дзяўчына ішла па вайне", "Лясная крэпасць", фантастычнага рамана "Шосты акіян" і многіх іншых. Гарадскі парк у Жыткавічах сёння носіць імя Міколы Гамолкі.

З'явілася надзея і на стварэнне музея Міколы Гамолкі ў Жыткавіцкай сярэдняй школе № 1. Апошнія гады ў навучальнай установе праводзіцца пошукавая работа па зборы матэрыялаў, звязаных з жыццёвым і творчым шляхам пісьменніка. Добрай дапамогай у гэтай важнай справе стаў нядаўні візіт у сярэднюю школу ўдавы Мікалая Іванавіча — Ніны Лапіцкай і сына пісьменніка Васіля.

Родныя Міколы Гамолкі перадалі частку яго асабістых рэчаў: друкарскую машынку, фотаздымкі, аўтарскія выданні, публікацыі і рукапісы...

Уладзімір МІКАЛАЕЎ

Пяць гадоў таму малады пісьменнік Сяргей Балахонаў выдаў сваю першую кнігу "Імя грушы". Дэбют гомельскага настаўніка гісторыі атрымаўся гучны: палова крытыкаў і чытачоў была ў захапленні, ад другой жа паловы маладому літаратару дасталося на арэхі. Чытацкая аўдыторыя пакутавала ад амбівалентных думак і меркаванняў, пакуль не вынесла нарэшце прысуд: у беларускую літаратуру вяртаюцца "вялікія формы", а гэта добрая прыкмета, як бы яно там ні было. Насамрэч, "Імя грушы" — гэта, безумоўна, з'ява ў нашай літаратуры: раман, паўнюткі алюзій, гумару, дзівоснай лексікі, незвычайны замес з гісторыі, фантастыкі, эзатэрыкі. Сам Балахонаў — таксама гучная з'ява ў беларускім культурным жыцці, гэткі шматгранны "чалавек-аркестр": і гісторыю дзеткам выкладае, і постмадэрнісцкія творы піша, і песні перакладае. Карэспандэнт "ЛіМа" сустрэлася з пісьменнікам, каб пагаварыць пра поспех мінулы і пра тое, што чакаць нам у будучыні ад гомельскага постмадэрніста.



# Сяргей Балахонаў: «Я пішу, не азіраючыся на модныя кірункі»

— Твор "Імя грушы" калісьці анансаваўся як першы беларускі постмадэрнісцкі раман. А нядаўна Зміцер Вішнёў выдаў свой раман "Замак, пабудаваны з крапівы". І сярод водгукаў на яго пабачыла знаёмы цэтлік: зноў "першы беларускі постмадэрнісцкі раман". Ці паспелі вы прачытаць гэты твор? Калісьці Зміцер выказаў свае думкі наконт вашай кнігі "Імя грушы", магчыма, цяпер вы маглі б штосьці сказаць пра яго раман?

— Я не памятаю, каб "Імя грушы" анансаваўся як першы беларускі постмадэрнісцкі раман. Калі недзе такія анонсы і сустракаліся, дык сыходзілі не ад самога аўтара. Я ніколі б не наважыўся, нават у маркетынгавых мэтах, такім чынам пазіцыянаваць свой твор. Пагатоў, задоўга да напісання "Імя грушы" першым беларускім постмадэрнісцкім раманам (эпохі найноўшай рэінкарнацыі постмадэрнізму) я стаў лічыць твор Уладзіміра Караткевіча "Хрыстос прызямліўся ў Гародні". З раманам Змітра Вішнёва я пакуль незнаёмы (бяру ў спіс літаратуры для летняга чытання). Таму сказаць, колькі постмадэрнізму ў "Замку, пабудаваным з крапівы", не бяруся. Але нешта мне падказвае, што аўтары названых вамі водгукаў папросту блытаюць тэрміналогію. Бо творчасць Вішнёва, наколькі я знаёмы з ёй, мне бачыцца нейкім адгалінаваннем мадэрнізму са сваімі разнастайнымі авангардысцкімі практыкамі. Не стану хаваць, што колішні крытычны артыкул Змітра пра "Імя грушы" я характарызаваў як адыёзны. Але папраўдзе ён не зачапіў мяне так моцна, каб таіць на аўтара крыўду і тачыць нажы. І калі мне закарціць напісаць водгук на раман "Замак, пабудаваны з крапівы", я зраблю гэта максімальна аб'ектыўна.

— Ці пагодзіцеся вы, што постмадэрнізм — гэта мода? Ці мае постмадэрнізм будучыню?

— Калі я пачынаў пісаць, то проста браў і пісаў, не азіраючыся на модныя кірункі. Але нечакана выявілася, што гэтае маё "проста пісанне" ў той ці іншай ступені можа быць аднесена да постмадэрнізму. Атрымалася, што не я знайшоў постмадэрнізм, а постмадэрнізм знайшоў мяне. Нельга сказаць, што гэтая сустрэча не была для мяне прыемнай. Вось жа з уласнага досведу мне цяжка назваць постмадэрнізм модай. Для мяне асабіста гэта пераважны спосаб светаўспрымання. Калі Умбэрта Эка ці Дзмітрый Затонскі сцвярджалі пра вечнае вяртанне постмадэрнізму, пра тое, што для кожнай эпохі ўласцівы свой варыянт постмадэрнізму, то я пайду ў сваіх сцверджаннях яшчэ далей: постмадэрнісцкае светаўспрыманне існавала заўсёды, ад таго моманту, калі чалавек навучыўся не толькі смяяцца, але і жартаваць. Іншая рэч, што не заўсёды былі спрыяльныя ўмовы для таго, каб гэтае светаўспрыманне знайшло сваё адлюстраванне ў творчасці. Мабыць, і ў будучыні аж да Апакаліпсісу, а мо і пасля яго, будуць існаваць постмадэрністы. Праблема будучыні постмадэрнізму палягае хіба ў тым, як будуць успрымацца творы, напісаныя ў яго рэчышчы, праз 100 — 200 і г.д. гадоў.

— Можа быць такое, што пісьменнік, які назваўся калісьці пад уплывам моднай хвалі постмадэрністам, цяпер, калі хваля ўжо адышла, проста не можа пісаць па-іншаму, не можа знайсці сябе, не можа напісаць, напрыклад, якасную рэалістычную прозу?

— А навошта? Навошта ламаць сябе, прымушаць да таго, што няміла сэрцу? Зрэшты, пры пільнай патрэбе ці дзеля эксперыменту можна паспрабаваць сябе перадолець. Тэхнічна гэта, напэўна, магчыма. Праўда, не бяруся прадказаць, якім будзе плён.

— Чытачы вельмі цёпла прынялі "Імя грушы", што нельга сказаць пра крытыкаў. Як вы ставіцеся да меркавання, што крытыкі раўнуюць чытача да пісьменніка і таму крытыкуюць найжарсцей тых, хто быў асабліва ласкава прыняты публікай?

— Я не заўважыў падобнай палярызацыі чытачоў і крытыкаў. Тут не ўсё так адназначна. Адна з першых чыста чытацкіх рэакцый на "Імя грушы", якая была выказана мне асабіста, была не цяплейшай за ядзерную зіму. А вось прафесійныя крытыкі былі, калі не цалкам прыязнымі ў ацэнцы "Імя грушы" (Г. Кісліцына, Л. Рублеўская), дык, прынамсі, без пустазвонска-хамаватых выпадаў (З. Вішнёў, Д. Жукоўскі, Н. Якавенка, М. Шчур). Мяркую, не трэба спрашчаць карціну, без агаворак сцвярджаючы, што крытыкі раўнуюць чытача да пісьменніка. Не менш асцярожна варта ацэньваць чытацкую прыязнасць да літаратара. Адзінае, што магу сказаць упэўнена: я свайго чытача люблю. Нават тады, калі мне намякаюць, што я з яго здзекуюся.

— Лексіку вашых твораў можна назваць даволі цяжкай для ўспрымання. "Незвычайныя" словы, якія вы выкарыстоўваеце, што гэта — архаізмы, неалагізмы? Якімі слоўнікамі вы карыстаецеся, каб так узбагаціць мову сваіх твораў?

— У канцы мінулага стагоддзя, будучы яшчэ студэнтам, я бязмэтна рабіў выпіскі з розных слоўнікаў, што былі даступныя мне толькі ў бібліятэцы. Гэта слоўнік Вацлава Ластоўскага, гістарычны слоўнік беларускай мовы, дыялектныя слоўнікі. Таксама рабіліся выпіскі "незвычайных" слоў, якія падаваліся ў каментарыях да твораў класікаў беларускай літаратуры XIX ст. У той час я не мог сабе патлумачыць, навошта мне гэта патрэбна. Але не мінула і пяці гадоў, як амаль усё з занатаванага прыдалося. Дадаўся яшчэ "тоўсты" слоўнік Яна Станкевіча. Калі казаць пра "Імя грушы", то прызнаюся, што ў першай частцы шмат лексікі ад Ластоўскага, у другой — ад Станкевіча, у трэцяй — ад Дуніна-Марцінкевіча. Апавяданне "Паляванне на пачварнага парсюка" напісана на беларускай мове з вялікай канцэнтрацыяй старабеларусізмаў XVI — XVII стст. Лічу, што старабеларушчына павінна заставацца для нас актуальнай крыніцай лексікі і асабліва устойлівых словазлучэнняў.

— Быць цікавым для нашчадкаў уваходзіць у вашу задачу?

— У мяне няма ніякіх задач. Я дзейнічаю спантанна. Верагодна, гэтая спантаннасць не будзе зразумелай ні нашчадкам, ні нават многім маім сучаснікам. Спакусліва думаць, што нехта хаця б дзеля спартыўнага інтарэсу прачытае твае творы ў той час, калі цябе самога ўжо не будзе.

— Вы актыўна жывяце ў Інтэрнеце, маеце блог пад назвай "Блог аднаго скамароха" і сайт, які завецца "Тэзей беларускае літаратуры". Чаму Тэзей? У якіх лабірынтах блукае гомельскі Тэзей?

— Прысутнічаю ў віртуальнай прасторы сапраўды рэгулярна, бо чэрпаю адтуль ільвіную долю той інфармацыі, якую атрымліваю ўвогуле. "Блог аднаго скамароха" — гэта не назва, а падзагаловак да назвы майго інтэрнэт-дзённіка. Насамрэч ён называецца "Вяртанне на крукі своя". Гэткі каламбур, які ў розных людзей выклікае розныя асацыяцыі, асабліва ад шматзначнасці слова "крук". Што да скамарохаў, то з пэўнага часу я адчуваю пераемнасць з імі. Невытлумачальнае пачуццё. У сайта назва "Тэзей беларускага постмадэрнізму". Яна знайшлася невыпадкова. Калі ў пачатку "нулявых" гадоў мне даводзілася дыскутаваць з Данілам Жукоўскім наконт наяўнасці/адсутнасці беларускага постмадэрнізму, шаноўны гарадзенскі "крытык новай хвалі" абвясціў мяне не толькі адзіным "правільным" постмадэрністам Беларусі, але і параўнаў з Тэзеем. Параўнанне мне спадабалася, і я выбраў яго для назвы сайта сваёй творчасці. Міф пра Тэзея мяне заўсёды захапляў. І вось я прымерыў яго вобраз на сябе. І што ж? Лабірынт агромністы. У яго хадах і тупіках — літаратура, гісторыя, музыка, фальклор, кіно… А яшчэ шмат парадаксальных сноў. А Мінатаўр, дакладна, як абяцаў Жукоўскі, толькі адзін — самота. Вось толькі, што з Арыяднай, да гэтага часу невядома…

— У вашым блогу вы аднойчы вельмі трапна адзначылі, што "крыўда + канспіралогія = нацыянальны характар беларусаў". А што для вас значыць быць беларусам?

— Быць беларусам для мяне — значыць падымаць са дна гісторыі артэфакты Беларускай Атлантыды. Да таго ж рабіць гэта нават тады, калі ніякіх артэфактаў зусім няма. Пагадзіцеся, што праца нялёгкая. Не кожны жыхар Беларусі на яе здатны, бо шчасліва спальвае жыццё ў карыстанні артэфактамі Русского Поля, па якія не трэба ныրцаваць у акіян гісторыі.

— Зараз дакладна можна казаць, што амаль кожны рэгіён краіны адзначаны сваёй "унутранай" літаратурай. Асабліва актыўна ідзе літаратурнае жыццё ў Мінску і Брэсце. Ці можна казаць пра наяўнасць асобнай гомельскай літаратуры?

— Ведаеце, я неангажаваны ў мясцовыя літаратурныя тусоўкі, таму не магу сказаць нічога пэўнага. Бакавымі слыхам і зрокам мне іншым разам выпадае фіксаваць нейкія падзеі, што звязаныя з гомельскім літаратурным жыццём. Але я заўсёды па-за гэтымі падзеямі. Я не ведаю тых гомельскіх творцаў. А яны не ведаюць мяне. Калі б у нас былі хаця б найменшыя пункты судакранання, мы абавязкова пазнаёміліся б. А так — прабач мяне, мая чарэшня. Для мяне гомельская літаратура — гэта творчасць Югасі Каляды, эксперыменты Андруся Скідана з літаратурна-мастацкага асяродку колішняга самвыдата "Аксамітны Жах", замалёўкі пра Гомель і ваколіцы Уладзіслава Ахроменкі. Іх творы зусім не падобныя міжсобку. Але ў іх — сапраўдная любоў да горада над Сожам, дарма што яна наўмысна не выпінаецца.

— Вы пераклалі на беларускую мову песню Юрыя Дземідовіча "Чароўны трусік". Песні якіх яшчэ беларускіх выканаўцаў вы перакладалі?

— Напэўна, "Чароўнага трусіка" мне прыгадаюць і ў апраметнай. Просценькі вершык, які здолеў бы перакласці школьнік, што мае збольшага добрыя веды ў беларускай. Мне толькі пашчасціла апярэдзіць іншых ахвочых, а потым абараняць Юру за тое, што ён пасароміўся спяваць "трусік". Але самае забаўнае, калі знайшліся крытыкі, якія аўтарытэтна заяўлялі, што мой пераклад няўдалы. Ага, нібы гаворка ідзе пра пераклад "Гільгамеша" ці "Іліяды". З тых маіх перакладаў песень беларускіх выканаўцаў, што потым загучалі іх жа галасамі, можна назваць гурты Naka, Нестандартный вариант, Серебряная свадьба (часткова), магілёўскі гурт Waria. Я кансультаваў па моўна-стылістычных пытаннях гурт Termin X, які не так даўно прэзентаваў альбом "Што дае нам магчымасць дыхаць". Перакладаю таксама песні замежных выканаўцаў (Rammstein, Плач Єремії, Linkin Park і інш.). У творчым даробку ёсць і ўласныя тэксты, напісаныя адмыслова як песенныя. Але пакуль яны ляжаць паўмёртвым грузам. Маладыя гурты любяць пісаць тэксты песень самастойна са страшэннымі моўнымі памылкамі. Узяць гатовае і якаснае яны чамусь не могуць.

— Вы пішаце прозу, займаецеся перакладамі, выконваеце песні, выкладаеце ў школе. Што для вас займае першае месца? Хто ён – Сяргей Балахонаў – пісьменнік, гісторык, перакладчык?

— Не хацелася б рабіць нейкага ранжыравання. Усе гэтыя іпастасі ў аднолькавай ступені складаюць маё агульнае "я". Калі нешта з пералічанага адкінуць ці наўмысна паставіць на першае месца, то я буду не я. Праўда, у тых выпадках, калі мяне просяць коратка абазначыць сваю сферу дзейнасці, найперш я называю сябе настаўнікам.

— А калі вы ўпершыню зразумелі, што вы — пісьменнік?

— Прызнаюся, што я аж дасюль цалкам не паверыў у гэта. У 2000 годзе, калі я служыў у войску і патрапіў у бальніцу, мяне адшукаў адзін хлопец, які чытаў мае першыя творы ў газеце "Наша Ніва". Ён прынёс для мяне цывільную вопратку, і мы паехалі да яго цешчы. Вось жа тады сваёй жонцы і цешчы гэты хлопец адрэкамендаваў мяне як беларускага пісьменніка. Сэрца ў мяне затахкала, бо раней мяне ніхто пісьменнікам не называў. Магчыма, гэты эпізод для мяне і стаў адпраўным пунктам усведамлення сябе пісьменнікам. На той час у маім даробку было ўсяго некалькі надрукаваных нататак.

— Пытанне да Балахонава-гісторыка: вам падабаецца час, у які мы жывём? Якая гістарычная эпоха вабіць вас больш за іншыя?

— Помніцца, як герой рамана Умбэрта Эка "Півач Фуко" разважаў над падобнага кшталту пытаннем. І сэнс яго разваг палягаў у тым, што няма і ніколі не будзе ідэальнай эпохі. Чалавек, калі ён увогуле пра такія рэчы задумваецца, заўжды будзе пачувацца ў сваім часе дыскамфортна, прымерваючы на сябе іншыя гістарычныя перыяды. Калі мяне пытаюць, ці хацеў бы я вярнуцца ў сваё юнацтва (часы распаду СССР і станаўлення незалежнай Беларусі), то я адказваю адмоўна. Вяртацца не хачу. Хачу пабыць там на экскурсіі ці ў экспедыцыі. Гэтаксама, як хацеў бы пабываць у кожным перыядзе беларускай гісторыі. Але жыць пастаянна ў Вялікім княстве Літоўскім ці ў Северо-Западном крае, захоўваючы свой цяперашні досвед, мне катэгарычна не хацелася б. Апошнія колькі гадоў містычным чынам мяне вабіць далітоўскі перыяд гісторыі Беларусі, пра які мы ведаем, па вялікім рахунку, не так і шмат. Нам невядома, як нашы продкі таго часу прызнаваліся адно аднаму ў каханні. Нам незнаёмы гумар Усяслава Чарадзея і яго падданых. Поўнай загадкай для нас з'яўляецца наяўнасць ці адсутнасць у IX — XIII стст. тутэйшай свецкай мастацкай літаратуры. Але зноў жа мая цікавасць да гэтай эпохі не азначае, што я лічу яе ідэальнай ці, прынамсі, утульнай для сябе.

— Сёлета спаўняецца пяць год з часу выдання вашай першай кнігі "Імя грушы". Сапраўды, яна тады выклікала рэзананс. З той пары вы не адзначыліся такім жа яркім выступленнем. Над чым вы цяпер працуеце?

— Сапраўды, новых кніг майго аўтарства з таго часу не з'явілася. Але ж нельга казаць, што ўсю гэтую пяцігодку назіралася маё творчае маўчанне. Я не маўчаў. Былі ж і "Снег капітана Мантгомеры" пра падзеі ў Гомелі сярэдзіны XVII ст., і альтэрнатыўная фантастыка "Пятля зацятасці", і шматлікія містыфікацыі нашталт "Пракляцця Вешчага Баяна" ды "Супер-Марыё з Вялікага княства Літоўскага". Пры жаданні ўсё гэта можна было б аб'яднаць пад адной вокладкай. Але кніга атрымалася б у выніку дужа пярэстай у жанравым сэнсе. Мне ж самому хацелася б бачыць наступнай кнігай паўнавартасны ў сэнсе аб'ёму раман. Аднак загвоздка ў тым, што я пішу яго амаль заўсёды ў летнія месяцы. Ён апавядае пра настаўніцкае жыццё з фантастычным суплётам рэчаіснасці і надрэальнага. Акрамя таго, я распачаў некалькі іншых буйных твораў, ды будучыня іх пакуль яшчэ менш пэўная, чым у настаўніцкага рамана. На ўсё патрэбны час. І не проста вольная хвілінка, а такая хвілінка, калі паспееў адпачыць. Таму большасць ўсплёскаў пісьменніцкай актыўнасці ў мяне назіраецца ў час вакацый. Вось такая проза жыцця.

Алеся СЯНЧУК

## Гусіным пяром



Лявон ВАЛАСЮК. Нарадзіўся ў 1955 годзе ў вёсцы Песцянькі Кобрынскага раёна. З 1963 года жыве ў Брэсце. Пасля школы працаваў слесарам на заводзе, служыў у Савецкай Арміі ў Венгрыі. У 1981 годзе скончыў архітэктурны факультэт Брэсцкага інжынерна-будаўнічага інстытута. Мастак-дызайнер. Сябра Беларускага саюза мастакоў. Друкаваўся ў часопісах "Полымя", "Маладосць", тыднёвіку "ЛіМ", у зборніках "Дзень паэзіі". Аўтар вершаваных кніг: "Леаніды", "Чырвоная вежа", "Познія сны", кніжкі прозы "Сцежкі да сядзібы". Кніга "ЗНАКІ НА ВАЛУНЕ" (выбранае і новыя вершы) выйшла ў Брэсцкай друкарні ў 2010 годзе. Рэдактар — Алесь Каско. Прадмова Міколы Сянкевіча.

# «На абрыўках аблокаў»

Паэзія — такая дзіўная рэч, што не перастаеш уражвацца ёю ні пры першай, ні пры дваццаць першай сустрэчы. А што не менш дзіўна, яна раптам адкрываецца там, дзе па першым часе ты не з нейкіх прычын не заўважыў ці не разгледзеў. Так сталася ў мяне з вершамі берасцейца Лявона Валасюка. Памятаю, што першыя дасланыя ім паэтычныя зборнікі мяне калі і ўражвалі, дык найперш сваім арыгінальным мастацкім афармленнем. Не ставала ім ні стройнасці, ні строгасці, ні рэдактарскага адбору, ні аўтарскай сюжэтнай выбудаванасці. Хоць, заўважу, паасобныя вершаваныя ўдачы здараліся, аднак губляліся ў стыхійнай гушчы вершаваных напластаванняў. Сёння многія з тых вершаў перачытваюцца мною свежа і па-новаму, быццам рэхам вяртаючыся з той вершалiннай ветранай какафоніі...

Дык у чым жа справа? Паэт, пастарэўшы, стаў пісаць больш адмыслова? Наўрад ці. Справа ў падыходзе і стаўленні да сваёй творчасці. Разам з набытым выдавецкім досведам у Л. Валасюка з'явілася самакрытычнасць і неабходнасць рэдактарскай ацэнкі. І гэта дало плён. Тым больш, што да рукапісу прыклаліся ажно два прафесіяналы — вядомы паэт Алесь Каско і пісьменнік-літаратуразнаўца Мікола Сянкевіч.

Па-першае, саму кнігу прыемна браць у рукі. Гэтаму спрыяе і высокі друк, і якасная папера, і мастацкае адмысловае афармленне самога аўтара. Чалавек, які мае архітэктурную адукацыю мастака-дызайнера, Лявон паўсюль прытрымліваўся гармоніі і адпаведнасці ў прапорцыях. Знешне гэтае выданне аддалена нагадвае мне колішнюю адмысловую кнігу Міхася Стральцова "Мой свеце ясны", якую я часта люблю не толькі перачытваць, але і проста пагартаць дзеля эстэтычнага задавальнення. Канечне, там больш відавочны талент з яго тонкімі лініямі і адценнямі, больш насычаная ілюзійным туманам вобразнасць, і ўсё ж...

Цяпер, што да самога зместу. Адчуваецца рука рэдактара. Цвярозадумны А. Каско не прапусціць стыхійнага самацёку і безразборнай вершаманіі. Таму вершы ўладжаны і дапасаваны ў асобныя раздзелы. Іх пяць. Першыя чатыры складаюць гэтак званае "выбранае" паэта пад назовам "Палёт матыля", апошні ж раздзел ("А да вясны так далёка") прэзентуе чытачу "новыя вершы" Л. Валасюка. Структура зборніка выдатна прадумана і годна ўвасоблена. Я ўяўляю, як няпроста было А. Каско вытрымаць сваю лінію, не адступіцца перад націскам амбітнага берасцейскага аўтара і пераканаць яго ў правільнасці і адназначнасці свайго бачання кнігі. Дзякуючы яго строгасці і адбору, сёння ёсць чым выявіцца перад чытачом.



Да таго ж глыбока-няспешнае, а не спагадна-беглае, як часта бывае, прачытанне ўсёй творчасці паэта аўтарам прадмовы М. Сянкевічам вылілася ў заклапочаную, разважлівую і, што істотна, чытэльную гаворку на пачатку кнігі.

Справа заставалася за малым — за добрымі вершамі. І яны знайшліся. І не адзін-два, а пару дзесяткаў. Як для адной кнігі, то нямала. Што найперш падкупляе мяне асабіста ў лепшых вершах Л. Валасюка, дык гэта яго натуральнасць думкі і пачуццяў у адносінах да самага святога: маці, радзімы, мовы, Айчыны, веры, духоўнасці, высокай чалавечай маралі. А яшчэ мяне з ім збліжае наша адпрыроднае вяскоўства — нацыянальная беларуская крэўнасць. Чытаючы яго вершы, як бы вяртаешся да сябе таго, якім ты быў "задуманы" і якім павінен быць насамрэч, але з розных часцей за ўсё незалежных ад цябе прычын і абставін, на жаль, не стаў...

А хата
Засталася там…
Але —
Адчыненыя сені…

Засталася прага ўвайсці ў пакінутыя адчыненымі дзверы, але дачаснае пакутнае веданне засцерагае нас ад канчатковага расчаравання ў жыцці... бо сёння за тымі дзвярыма — пустка і нежыць... Толькі выратавальная памяць і любоў пакідаюць нам права на працяг спрадвечнага. Вельмі правільна напісаў у прадмове М. Сянкевіч, вобразна пераасэнсоўваючы наш зямны шлях на праявах чалавечага дзяцінства: "А якая рызыка па крыгах дабрацца да берага, бо, калі не пашанцуе, не ўтрымаеш раўнавагу, — можаш і па пояс акунуцца. І чакай тады, пакуль валёнкі ды нагавіцы высахнуць, а яшчэ ж прачуханца ад маці атрымаеш. Менавіта раўнавага, сцвярджае аўтар "Знакаў на валуне", ад самага маленства трымае нас на жыццёвым шляху".

Раўнавага стрымлівае
Ад благіх учынкаў,
Ад паспешлівых слоў…

Так піша Л. Валасюк і такой аўтарскай пазіцыі ён стараецца прытрымлівацца ў сваёй творчасці, хоць гэта і не заўсёды ўдаецца. Асабліва ўражваюць лірычныя верлібры паэта, дзе апісваецца прыгажосць беларускай прыроды:

На паляне восеньскай
Жоўта-залатой
Павуцінне белае.
Белы сон.
Спакой.

За гэтымі радкамі радном тчэцца псіхалагічны настрой і праступае філасофскі падтэкст цэласнага твора. Аўтар вызначае свае вершаваныя тэксты як мініяцюры, напісаныя ў вольнай форме, але не забываецца ён і на традыцыйныя рыфмаваныя вершы. Зрэшты, тут важна — не як напісана, а — як выдыхнута, бо змест твора сам набывае тую форму, у якой ён найлепш пачуваецца і ў якой ён найбольш годна выяўляецца перад сваім чытачом. Недзе ў падкорцы Л. Валасюк, я так думаю, мае час ад часу бескантрольна-падсвядомыя пасылы добра завучанай ім паэтычнай школы свайго земляка Алеся Разанава. Асацыяцыі сям-там прачытваюцца. Але ж ці кепска гэта? Блага было б, калі гэта былі заёмы з якога-небудзь буйнатварага графамана... Самотны мінор прыцішаных гукаў суправаджае чытача на ўсім працягу кнігі. Зямля бацькоў не дае супакою паэту, а яе чарнобыльская трагедыя адгукаецца нечаканай метафорыкай:

Я птушак
Жытам накармлю —
Птушкі памерлі.
Я кветкі
Вадою паліў —
Кветкі засохлі…
Чым накормяць,
Напояць
Мяне?..

Але на глебе гэтага шчымлівага песімізму кволіцца парасткам неадольная жыцця і паступова ўзрастае настойлівае праяўленне калі не мажорных нот, то ўсё ж прага прагматычных праясненняў уласнага лёсу:

Праз шыбіну ліецца святло
Нечаканага дня.
Хмаркай белай адхілена
Фіранка льняная.

Альбо, скажам, такое творчае адлюстраванне ўласнага мастацкага настрою:

Ад палітры старой
Каляровыя пахі.
Бы вясёлыя птахі
Заляцелі ў пакой.

Запамінаюцца і такія янішчыцкія мастакоўскія расфарбоўкі летняга дня:

Ціхі вечар.
Светлы сон.
Спіць у полі
Сіні лён.
Зоркі сцелюць
Ясны след,
Рассыпаюць
Жаўтацвет.

Трэба асобна адзначыць, што ў вершах Л. Валасюка няма абрыдлай пост-савецкай параднасці і пустапарожняй грамадзянскай рыторыкі. Сумленнасць і шчырасць паэтычнага ўздыху і роздыху жывяць яго душу і сэрца. Скажам словамі Валасюка, што яго "Муза" (назва верша):

У летнім халадку
Сядзела
Каля цётчынага
Ганку.
Чытала вершы
Па радку…

Вось два з іх — да пошуку ўжо ўпомненай намі раўнавагі — якія вызначаюць ідэю жыццясцвярджальнасці ўсёй паэзіі Лявона Валасюка:

У двор прыляцеў
Чорны воран,
І ў хаце маёй
Цёмна стала.
Але:
У сонечны дзень
Я ў хату зашоў,
Памаліўся…
Замест бажніцы —
На паліцы цвыркун.

І такіх прыкладаў даволі шмат. Скажам, і гэтыя дзве мініяцюры:

Сэрца баліць.
Пакутуе душа.
Слова было
Лязом нажа.
Аднак:
У полі за вёскай —
Збуцвела жыта.
У небе —
Месяца серп.

Асацыяцыя адназначна адпраўленая да Біблії. І да сённяшняй вясковай рэчаіснасці. На маю думку, паэзія (мастацтва) — гэта адказ душы на запытанні чалавечай істоты. Пэўным чынам такім адказам ёсць і гэтая кніга вершаў. Буду шчырым, патрапляюцца на яе старонках і прахадныя шараговыя тэксты як практычныя выдаткі літаратурнай дзейнасці паэта Лявона Валасюка. Фатаграфічная празаічнасць і наўпроставая празрыстасць некаторых тэкстаў робяць іх буднімі і ведама-звыклымі. Тыпу такіх:

Святло ў тваім акне
Пабачыў...
Як цёпла на зямлі,
Як светла мне.
І непадалёк:
Восень раны мае
Залечвае
Полымем лісця
З бацькоўскай бярозы.

Можна было б абысціся без іх? Безумоўна. Але то ўжо была б іншая кніга, пра якую пісалася б у іншай танальнасці. Зрэшты, паэты і кнігі цікавыя і запамінальныя менавіта сваёй непрыхарошанай натуральнасцю пісьма (арыгінальным стылем найперш) і выбітнай аўтарскай асабовасцю. А яшчэ самабытнасцю, калі хочаце, якой і з'яўляецца, на маю думку, гэты паэтычны зборнік. Бадай лепш за мяне сказаў пра кнігу Л. Валасюка ва ўжо ўпомненай прадмове М. Сянкевіч: "Удалай бачыцца назва зборніка "Знакі на валуне". Замшэлы камень-валун — адзін з тых вобразаў, да якіх Лявон Валасюк звяртаецца найбольш часта. (...) На замшэлым плячы волата — "пячаткі рук і босых ног". Менавіта "босых" — было б святатацтвам наступаць бруднымі падэшвамі ботаў на адбіткі сонца, дажджу і ветру на гэтым ушанаваным паэтам манументе часу. Разумець знакі на валуне — шчаслівае наканаванне ўсіх, каму дарагая зямля бацькоў".

Нельга не пагадзіцца з такой высновай.

ЛеГАЛ

# Стукаюць рыфмы ў скронь пасівелую…



Калі пра каго і можна казаць «непадуладны гадам» — дык пра найадданейшага сябра беларускай літаратуры ў Варшаве — Чэслава Сэнюха.

Што слыннаму перакладчыку ўжо 80 — тое не выяўляецца ў аніводнай жыццёвай праяве-паставе Чэслава: ці гэта прапанова кудысьці паехаць-павандраваць, ці наладзіць пачастунак, ці сустрэцца на творчай нарадзе, ці перакласці новы тэкст для аўдыёперадач, лік якім ужо набліжаецца пад 550 (болей паўтысячы штотыднёвых выхадаў у эфір для літаратурнай радыёбібліятэкі!! — такое напоўніцу можа ацаніць толькі калега-журналіст).

Анічога практычна спадар Сэнюх не адкідае, прагнучы піць жыццё нагбом.

А жыццё тое склалася нялёгка…

Народжаны 9 ліпеня 1930 г. ў Любчы над Нёманам, з радзімага кутка Чэслаў вынес не толькі матчыну мову і спеўныя народныя песні-прыпеўкі, але нейкае невыказнае тужлівае рэха, што безназоўна лунала пад скляпеннямі суседняй дзеляцічанскай царквы, даўняй уніяцкай… Пра тую даўнюю "веру продкаў" пераказвалі яму дзяды Ганна ды Андрэй Смыкі (ці варыянтна "Шмыкі"). Род Шмыкоў здаўна вёўся ў вёсачцы Ваўкарэзь між Любчай і Дзяляцічамі.

Вёўся ды звёўся… Няма ўжо такой мясцовасці ў Любчанскім краі: Ваўкарэзь перайменавалі ў "калгас Пабеда". Але перш чым той калгас утварыць, бацьку Чэслава, інжынера Станіслава Сэнюха, выслалі… НКВД арыштавала яго напярэдадні першамайскага свята 1940 г. (бо меў дома план-мантаж маста праз Нёман, які сам як архітэктар спраектаваў). Уляпілі 10 гадоў — "город Мариинск Новосибирской области, почтовый ящик 2473 а". Ліставанне сваякоў з «ворагам народа» цягнулася менш чым год: згодна з дакументамі, здабытымі ўжо пасля вайны, Станіслаў Сэнюх памёр 16 красавіка 1941 г.

Апроч лістоў, па ім застаўся кенатаф ("grób symboliczny") на Варшаўскіх могілках, куды Чэслаў наведваецца на Дзяды і ў іншыя дні да матулі, да сваёй першай жонкі Крысціны і да сястры Гэлены…

Бо пасля вайны ў Польшчы апынулася ўся сям'я Сэнюхаў.

У 1950 г. Чэслаў скончыў Беластоцкі ліцэй імя Жыгімонта-Аўгуста, а вось варшаўскі універсітэт, дзе вучыўся да 1954 г. на русістыцы, скончыць не атрымалася: паглынула стыхія радыёжурналістыкі, якая на дзесяцігоддзі стала яго асноўнай прафесіяй. І толькі ў 1980-я спачатку спакваля, а потым усё больш ушчыльную пачалася праца над радзімым беларускім словам, каб найлепш перараказаць яго на польскай мове. Так, загучалі па-польску Янка Брыль, Васіль Быкаў, Алесь Адамовіч, Уладзімір Караткевіч ды іншыя.

Так урэшце паўстала польскамоўная «Новая зямля» Якуба Коласа — вынік 10-гадовага змагання-шліфавання Чэславам несмяротнага шэдэўра…

І як ён сам непадуладны гадам — гэтак няхай непадуладнай часу стане і ўсё перакладзенае ім. У імя Айчыны, шлях якой нехай славіцца ў стагоддзях тымі рыфмаванымі творамі, якія перастварыў перакладчык з любчанскай вёскі над Нёманам…

Язэп ЯНУШКЕВІЧ

На здымку: Чэслаў Сэнюх.

Палітра рускай паэзіі мае самыя розныя адценні самых розных колераў. Паэтаў у Расіі заўжды было шмат. Але, калі паглядзець сёння свежым вокам, то з бясспрэчна "залатога" XIX стагоддзя засталося не больш як дзесяць аўтараў. Тую ж самую "пальцавую" лічбу можна прымяніць і да стагоддзя XX. Вось жа, якая б ні была багатая літаратура, усё роўна час і людзі "адфільтроўваюць" толькі самае асноўнае.

Сённяшні выпуск "Даляглядаў" прысвечаны рускай лірыцы XIX-XX стст. Некаторыя чытачы кажуць, што перакладаць беларусам з рускай мовы — непатрэбшчына, бо кожны ахвотны можа пачытаць suседзяў у арыгінале. Але, бадай што, варта займацца такім перакладам. Найперш, гэтым мы кшталтуем уласную паэтычную мову, развіваючы яе стылістычна. Па-другое, пераклады рускай літаратуры таксама могуць станавіцца шэдэўрамі жанру: разанаўскі Хлебнікаў, да прыкладу, відавочна супастаўны па слоўным майстэрстве з "Фаўстам" Сёмухі...

Усе прапанаваныя ўзнаўленні — новыя і раней не аб'яўляліся ў друку.

Ціхан ЧАРНЯКЕВІЧ

## Васілій ЖУКОЎСКІ

### Што такое закон?

Закон — напяты цераз вуліцу канат,
Каб пешаходаў супыняць
сярод дарогі,
Альбо іх павярнуць назад,
Альбо заблытаць ногі.
Але — дарэмна ўсё!
Назад ісці не рупіць,
І пачакаць ніхто не хоча!
Не выйшаў ростам —
дык падніз праскоча,
А хто вялікі — пераступіць!

## Міхаіл ЛЕРМАНТАЎ

### Да***

1

Прабач! — не спаткацца нам болей
І ў поціску рук не сагрэць;
Прабач! — тваё сэрца на волі...
Ды з іншымі шчасця не мець.
Я знаю: з адчаем пакутным
Ізноў страпянецца яно,
Калі ў ім ускрэсне нячутна
Імя, хто загінуў даўно!

2

Ёсць гукі — нікчэмнага чыну,
Натоўпу — для кпінаў асцё,
Але іх забыць немагчыма:
З душою яны — як жыццё;
Нібыта ў магіле, былое
На дне гэтых гукаў святых;
І ў свеце пачуць толькі двое
Іх могуць — і ўспыхнуць ад іх!

3

На момант нас лёсы злучылі,
Ды вечнасць нішто перад ім:
Усе мы пачуцці спалілі
Сваім пацалункам адным;
Прабач! — аб кароткім каханні
Пакінь шкадаванні хутчэй:
Здавалася цяжкім расстанне,
Ды, пэўна, сустрэцца цяжэй!

## Апалон МАЙКАЎ

### З нізкі «Накіды»

Формы, мой сябра, дыхтоўнасць —
не ўсё яшчэ ў справе мастацтва.
Чыстаю хай мне знутры свеціцца
ў форме душа.

1882 — 1883

Кажаш, няма ў цябе ворагаў?
— дружа, прабач, не паверу:
Столькі зрабіў ты дабра!
столькім памог, паспрыяў!
Ведай: удзячнасць для нізкай душы
— як ярмо, як абраза, —
Ну, а душаў высокіх —
ці многа ты знаеш?.. Злічы!

## Велімір ХЛЕБНІКАЎ

### Па-людзі

Птушка па вышыню
Да неба ўзлятае,
Панна па вышыню
Ўзносіцца на абцасах.
Калі я не маю абутку,
Іду купляць на базары.
Калі няма ў каго носа,
Ён воску на нос купляе.
Калі няма ў народа душы,
Ён ідзе да суседа
І за плату яе набывае —
Ён, душы пазбаўлены!..

## Восіп МАНДЭЛЬШТАМ

* * *

Мы жывём — і не чуем краіну сваю.
Слых ні слова не ловіць —
хоць побач стаю,
А калі хто і мовіць паўслоўца,
Тут жа ўспомніць
крамлёўскага горца.

Яго тоўстыя пальцы —
рух тлустых чарвей,
Кожны сказ —
за пудовую гіру вярней,
Тараканна смяецца вачышчамі,
І халявы зззяюць начышчана.

Зброд — паўлюдзі —
наўкола з паслугамі
Танкашыя згінаюцца дугамі,
Хто мармыча, хто свішча, хто ные —
Ён адзін ставіць тычкі прамыя.

Як падковы, за ўказам указ ён куе —
Каму ў лоб, каму ў зад,
каму ў пах паддае.
Што ні кара ў яго — то маліна
І з шырокім дыханнем грудзіна.

Пераклад Васіля Зуёнка

## Інакенцій АНЕНСКІ

### Ліра гадзінніка

Гадзіннік не здзейсніў урока,
А маятнік быццам заснуў,
Тады расчыніў я шырока
Футляр іх — і ліру хіснуў.

І, страціўшы бачнасць спакою,
Чаканнем якога жыла,
Ізноў па турэмным пакоі,
Блукаючы, ліра пайшла.

І вось ужо ходзіць больш роўна,
Знайшоўся мінулы размах.

..............................................

О сэрца! У той час, як раптоўна
Смяротны адчуеш ты жах,

Ці знойдзецца хтосьці, каб ліру
Ў табе гэтак ціха хіснуць,
І ў лепшыя дні, нібы ў вырай,
Цябе, маё сэрца, вярнуць?..

### Аметысты

Тады, як спальваючы сінь,
Барвяны дзень расце шалёна,
Я клічу ветравую плынь,
І аметыстаў змрок сцюдзёны.

І каб не сонца прамяні
Палілі грані аметысту,
А ззянне свечкі ў цішыні
Ўзнімалася над ім агніста.

І каб, праходзячы наскрозь,
Упэўнівала гэта ззянне:
Не наша сувязь недзе ёсць,
А прамяністае яднанне...

Пераклад Уладзіміра Стасюка

## Анна АХМАТАВА

### Пятая ружа

Soleil ты звалася, ці чайнай,
І чым магла б ты быць яшчэ.
Наколькі ж стала незвычайнай —
Што не забыць цябе лягчэй.
Ты ззяннем прывіднага лета
Напамінала райскі сад.
Быць і петраркаўскім санетам
Магла б, і лепшай ад санат.

Мы будзем піць тваё дыханне,
Табой мой дом благаслаўлім.
Была ты, як само каханне,
Хоць справа тут зусім не ў ім.

## Барыс ПАСТЭРНАК

* * *

Быць знакамітым — непрыгожа,
Не гэта ўзносіць найвышэй.
Не варта лік архіваў множыць,
Над рукапісамі дрыжэць.

Сэнс творчасці — самааддана сць,
Не поспех і не шум гурбы.
Ганебна, будучы ледзь здатным,
Шматлікіх вуснаў прытчай быць.

Без самазванскага напору
Жыць варта — так, каб на зямлі
Прывабіў ты любоў прасторы,
Пачуў бы будучыні кліч.

І акунацца ў невядомасць,
І крокі ў ёй хаваць на дно,
Нібыта ў тумане — мясцовасць,
Калі і носа не відно.

І трэба пакідаць прабелы
У лёсе — не сярод папер,
Жыцця абзацы і раздзелы
Адкрэсліць на палях паспець.

Другія пройдуць пядзь за пядзяй
Твой шлях, знаходзячы сляды.
Ды перамогі і паразы
Сам не павінен розніць ты.

Адно павінен — ні на дольку
Твар не хаваць свой, як дзіця.
А быць жывым,
жывым — і толькі,
Жывым — да цемры небыцця.

Пераклад Міколы Кандратава

## Дзмітрый КЕДРЫН

### Кавярня

...Хто мае ў кішэні мускус,
той не крычыць пра
гэта на вуліцах.
Пах мускусу гаворыць за яго.

### Саадзі

Звычай у паэтаў спаконвеку,
Як збяруцца разам у кавярні,
То пачнуць сварыцца, недарэкі.
Трос Амару Магамет кавярны,
Драў на ім адзенне творца п'яны,
Ліў памыі, бруд і пырскаў пенай:
"Ты радок пятнаццаты
з майго "Дывана"
Сцібрыў! Злодзей! Брудная гіена!"
Маладзейшыя крычалі: "Брава!",
Хто старэй, хіталі галавамі.
Падзяліць не можаце вы славу?
Дзе ваш сорам?
Што, братове, з вамі?
І Амара плюнуў ад парога
Ў Магамета: "Бездар ты, пісака!
Хай цябе міне любоў прарока,
Хай міне падзяка падзішака!
Ты кастрат, маўчыш ужо гадамі!
Спеваком ты быць не маеш права!"
Хто старэй, пацвердзілі кіўкамі,
Хто малодшы, мармытнулі: "Брава!"
Саадзі ж маўчаў і сёрбаў каву,
Так сказаў, нарэшце: "Кіньце звады.
Даказаць, што геній,
проста — спраўай!"
Вось такую даў усім параду.
Час мінуў. Забылі ганарыстых,
Памяць пра іх згасла, зледзянела.
Голас Саадзі ж пеў звонка, чыста,
Заварожваў, бо душа ў ім пела.
Слухала кавярня, дых стаіўшы...
Пахла мёдам, пахлі кветкі, травы...
(І дзяды замерлі: лепш за іншых!
Юнакі знямелі з сваім "брава")
...Як жаўрук звінеў
над росным лугам
І кахання ўсім, і шчасця зычыў...
Гэта праўда: лепш за ўсё паслухаць,
А аплёўванне — паганы звычай!

Пераклад Паўла Місько

## Глеб ГАРБОЎСКІ

* * *

Рэчка ў Віцебску — Віцьба.
Сесці на камень і выць бы.
Раней у Віцебску —
з царкваў гарод...
Суму ў горадзе па самы рот.
А храмы ў Віцебску
былі вышэй галавы...
Горад Віцебск старэй Масквы.
Нядаўна ўзарвалі дванаццаты век.
Як пырсне цэгла на белы снег!
Прараб вясёлы — чарцям радня —
Свет цэлы разбурыць. І цішыня!

* * *

За мяжой не быў я ні хвілінкі
Не таму, што ўсім па горла сыт.
Мне і ад сваіх ужо будынкаў
Хочацца ў трушчобы альбо скіт.

А другі паэт, бы ў анекдоце, —
Адылжэцца дома, баламут,
Праляціць над Чылі ў самалёце —
І "Чылійскі сшытак" — тут як тут.

Ці пачне расчулены шашні
З Францыяй... Чырыкае, як чыж,
Каб пасля — аж з Эйфелевай башні
Уціхую плюнуць на Парыж.

* * *

Сябе ў люстэрку больш не пазнаю:
той чалавек,
што быў патрэбен свету,
раптоўна перацёк у нічыю
чужую абалонку і прыкметы.
Так вераснем —
пастылаю парой,
абвісла нешта, нешта ўжо распята.
і раптам разумееш: свет не той,
і што прыйшла не восень, а адплата.

### Валянціну Распуціну

Ліст сцякае з галін невясёла.
Дождж блішчыць у сівой барадзе.
А ці ёсць за прысадамі сёлы?
Аказалася, ёсць... дзе-нідзе.

Значыць можна
ў прагулках па трасах
Напаткаць неўспадзеўку гармонь?
Аказалася, можна і разам,
Проста так... у вясновую звонь.

Дзед і мудра глядзіць, і старанна,
Можа, помніць семнаццаты год?
Аказалася, помніць... ды цьмяна.
Як праз дождж, што засыпаў яго.

Пераклад Алега Салтука

## Віктар ЛАПШЫН

### Іду на споведзь

Мой друг! Мой брат! Такая справа:
Больш я маўчаць не маю права —
Іду на споведзь, як на суд.
Калі памру, дык прынародна.
Надзея дыхае свабодна
Ў душы, збавілай ад пакут.

Хвалююся, ды веру ўпарта,
Што з некім падзяліцца варта
Сардэчнай думай. Зведаў я:
Змарнее тайнае пад спудам.
Няхай не стане слова цудам,
А рэхам зробіцца быцця.

Прабач мне загадзя: баюся —
Без лаянкі не абыдуся,
Ды грэх – нахабна лгаць услых:
Салодкае ліслівіца слова.
Шурпатая мая прамова,
Але за ўсіх — і дзеля ўсіх.

Пераклад Уладзіміра Скарынкіна

Задумваемся мы пра іх ці не, а экалагічныя праблемы датычаць абсалютна ўсіх. І чым больш імкліва развіваецца наша цывілізацыя, тым вастрэй адчуваецца зваротнае: патэнцыял прыродных рэсурсаў — не бязмежны. Людзі, адказныя перад жыццём, неабыякавыя да захавання біялагічнай і ландшафтнай разнастайнасці, экалагічнай раўнавагі, парупіліся, каб у сусветным календары з'явіліся гэтак званыя міжнародныя экадні. Штогод, і з усё большым грамадскім розгаласам ды навуковай грунтоўнасцю, адзначаюцца, напрыклад, абвешчаныя Генеральнай Асамблеяй ААН Сусветны дзень водных рэсурсаў, Міжнародны дзень аховы азонавага пласту. Ці такія вехі экалагічнага календара, як 22 мая — Міжнародны дзень біялагічнай разнастайнасці ды 5 чэрвеня — Сусветны дзень навакольнага асяроддзя. Да гэтых дзвюх важных дат прымяркоўваўся выставачны праект "Біясфера-2010", зладкаваны сталічнай мастацкай галерэяй "Універсітэт культуры" і Прадстаўніцтвам Арганізацыі Аб'яднаных Нацый у Рэспубліцы Беларусь.





# Радасць разнастайнасці

Арт-праект "Біясфера-2010" яго арганізатары трактуюць як своеасаблівае мастацкае даследаванне. Чаму? Таму, што ў жывапісных, графічных, скульптурных работах, фота ды арт-аб'ектах, выстаўленых у галерэі, раскрыліся цікавасць іх стваральнікаў да разнастайнасці праяў аб'ектыўнага жыцця, захапленне невытлумачальнай гармоніяй біясферы, мастацкае асэнсаванне яе загадкавай дасканаласці, багацця і складанасці форм; выявілася імкненне аўтараў перадаць цеплыню подыху біясферы і падштурхнуць гледача да разваг пра тыя з'явы, што ствараюць экалагічную небяспеку.




Ідэю праекта яго куратар, дырэктар галерэі "Універсітэт культуры" Дзяніс Барсукоў тлумачыць так: "Правесці канцэптуальную мастацкую выстаўку ва ўлонні Міжнароднага года біялагічнай разнастайнасці — надзвычай актуальная задума. Усе мы жывём у біясферы, але біясфера жыве ў кожным з нас. Усе мы — расліны, жывёлы, людзі — утвараем адно цэлае, адзін унікальны і складаны арганізм. І вельмі важна для нас, насельнікаў біясферы, усведамляць гэтую непадзельную еднасць і рабіць усё магчымае для яе захавання. Свежыя, нестандартныя, крэатыўныя, таленавіта ўвасобленыя ідэі ўдзельнікаў выстаўкі здатныя і захапіць яе наведвальнікаў мастацкімі якасцямі, і прыцягнуць увагу грамадскасці да праблемы захавання навакольнага асяроддзя. А калі разважаць глыбей, гэта значыць — праз мастацтва скіраваць увагу на жыццёвую неабходнасць захавання біялагічнай разнастайнасці



Зямлі, каштоўнага і, на жаль, безабароннага і крохкага багацця ўсяго чалавецтва".

Выстаўка "Біясфера-2010" уразіла разнастайнасцю самавыяўлення творчых індывідуальнасцей, вынікам чаго і сталася шматстайнасць жанраў, творчых падыходаў, стыляў, пошукаў, эксперыментаў... У экспазіцыю увайшлі як ранейшыя, так і нядаўнія работы вядомых майстроў ды маладых, але прызнаных ужо, мастакоў: Вадзіма Качана, Марты Шматавай, Людмілы Налівайкі, Ганны Сілівончык, Васіля Пешкуна, Людмілы Дамнянковай, Стаса Сугінтаса, Максіма Калтыгіна, Андрэя Скіцёва, Сяргея Стальмашонка ды многіх іншых.

Прэлюдыяй успрымалася дэманстрацыя старажытнага аўтэнтычнага вулея як сімвала таго жыцця ў гармоніі з прыродай, якое ўжо страціла сучаснае урбанізаванае грамадства. "Рэха" — так назвалі гэты арт-аб'ект Павел Вайніцкі, Сяргей Завіжэнец і Дар'я Іваноўская, размясціўшы яго насупраць люстранай сцяны галерэі такім чынам, што перад гледачом адкрываецца бясконцая анфілада пустых пакояў даўно пакінутага пчалінага дома. І гэты эфект своеасаблівага "візуальнага рэха" прымнажаецца аўдыёэфектам — манатонным куваннем нябачнай зязюлі, якая вядзе адлік віртуальных гадоў...

"Прадчуванне апакаліпсісу" адлюстравалася ў нейкіх не дзіцячых, не забаўных, а злавесных папяровых караблікаў на чорнай вадзе, што ўзніклі ў мастацкім уяўленні Дзяніса Барсукова. Аўтар дасціпных арт-аб'ектаў Сяргей Шыла "ўбачыў" і паказаў, як пакутліва захлынаецца ў Сусвеце наш маленькі зямны шар, абліты нафтавым "соусам". Тацццяне Сугінт удалося "падслухаць" і графічна занатаваць "Шэпт травы", які, нібы фантомны шум хваляў у вялікіх марскіх ракавінах, перадаецца праз бясконцую чараду мініяцюрных смоўжыкаў — кранальных і крохкіх насельнікаў зямнога мікракосму. Алесі Скорабагатай прымроіўся "Танец светлякоў" ва ўлонні паганскай містычнасці прыроды, ля "басаногага" расквітнелага дрэва. А старэйшына айчыннай школы жывапісу Барыс Аракчэеў падтрымаў агітацыю за біялагічную разнастайнасць магутным жыццесцвярджальным акордам — карцінай "Спякота": палатно замілоўвае сонечным панарамным краявідам, прыгожымі постацямі коней на мелкаводдзі...

На вернісажы, атмасферу якога расквеціла праграма самабытнага гурта Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў "Алтай-электрон" пад кіраўніцтвам Валерыя Малахава, выступілі прадстаўнік Арганізацыі Аб'яднаных Нацый у Рэспубліцы Беларусь Антоніус Брук, галоўны спецыяліст упраўлення мастацтваў Міністэрства культуры Беларусі Аляксандр Зіменка, мастацтвазнаўца Яўген Шунейка. Дарэчы, "Біясфера-2010" — гэта ўжо трэці, пасля выставак "Арт-бульба" і "Бэбі-бум", супольны праект галерэі "Універсітэт культуры" і Прадстаўніцтва ААН у нашай краіне.

Святлана БЕРАСЦЕНЬ

На здымках: Павел Вайніцкі, Сяргей Завіжэнец, Дар'я Іваноўская "Рэха" (арт-аб'ект); Сяргей Станіслаўчык "Чорная зорка" (палатно, алей); Дзяніс Барсукоў, Аляксандра Салдатава "Memento mori" (камп'ютэрная графіка); Сяргей Шыла "Зямля пад соусам".

Фота Віктара Кавалёва

## У наступным нумары ЛіМ

Чытач, магчыма, звярнуў увагу на з'яўленне ў газеце за 28 мая новай рубрыкі "Прастора ўяўлення", дзе былі прадстаўлены інтэрв'ю са старшынёй Беларускага саюза мастакоў Уладзімірам Савічам, матэрыялы пра разнастайныя па тэматыцы і аўтарстве мастацкія выстаўкі. Гэтая рубрыка і надалей будзе перыядычна з'яўляцца на старонках "ЛіМа". А ў наступную пятніцу "Прастора ўяўлення" прапануе вашай увазе артыкулы пра персанальныя мастацкія выстаўкі такіх знаных творцаў, як Рыгор Несцераў, Мацвей Басаў...

З глыбінкі

## Сцяжынкі ў свет мастацтва

Вызначальнаму, першаму шляху ў краіну творчасці быў прысвечаны святочны канцэрт сёлетніх і былых выпускнікоў дзіцячай школы мастацтваў горада Драгічына, прымеркаваны да яе 50-гадовага юбілею.

На свята прыехалі дзесяткі ганаровых гасцей з усіх куткоў Беларусі. Вядома ж, у асноўным гэта былыя навучэнцы, уладальнікі тых "шчаслівых пуцёвак у жыццё", якія з цягам часу самі сталі майстрамі: вядомымі музыкантамі, педагогамі, артыстамі, аспірантамі і дацэнтамі. Са сцэны раённага Дома культуры іх прывітаў цяперашні дырэктар школы, таксама колішні яе выпускнік, С. Падлужны. Побач з ім былі і тыя, хто узначальваў школу ўсе гэтыя гады.

Кожны год са школы выходзяць дзесяткі музыкантаў, прафесіяналаў ігры на 16 інструментах, а яшчэ — нямала юнакоў і дзяўчат, якія навучыліся тут выдатна маляваць. Як адзначыў у сваім выступленні дырэктар школы, для двухсот былых выпускнікоў мастацтва стала галоўнай справай жыцця. Сярод іх першы выпускнік школы, цяперашні выкладчык музыкі па класе баяна, кіраўнік ансамбля народных інструментаў, які з 1985 года носіць званне "народны", кампазітар М. Сіліч, настаўнікі музыкі розных школ раёна В. Талатай, А. Федзюковіч, загадчык аддзела культуры Кобрынскага райвыканкама Н. Жук ды іншыя.

Вялікім аказаўся пералік і тых, кім асабліва ганарыцца школа-юбіляр. Гэта дацэнт кафедры народна-інструментальнай творчасці, мастацкі кіраўнік аркестра Беларускага дзяржаўнага універсітэта культуры і мастацтваў С. Авадок, яго родны брат, выкладчык музыкі вышэйшай катэгорыі гімназіі № 15 г. Мінска Г. Авадок, кіраўнік аркестра народнага ансамбля песні і танца "Сузор'е" з Брэста С. Стэльмах, салістка ўзорна-паказальнага аркестра Узброеных сіл Рэспублікі Беларусь Паліна Данская і іншыя.

На ўсю Беларусь праславілі школу яе выпускнікі. Лаўрэатам 3-й прэміі Міжнароднага конкурсу юных вакалістаў імя С. Манюшкі стаў Аляксей Падлужны, пераможцай рэспубліканскага конкурсу "Маладыя таленты" ў намінацыі "народныя спевы" выйшла Хрысціна Клімчук. Шмат узнагарод у нядаўняй выпускніцы Эльвіры Стэльмашук. Званне лаўрэата ў конкурсе малады выканаўцаў "Шануюць цябе, Белая Русь!" атрымала Жанна Ліцвінка, а Ганна Гражэўская — Гран-пры Міжнароднага фестывалю-конкурсу "Джанкой-2010".

Мікола ТРАФІМЧУК

Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь
ГА "Саюз пісьменнікаў Беларусі"
РВУ "Літаратура і Мастацтва"

ГАЛОЎНЫ РЭДАКТАР
Алесь КАРЛЮКЕВІЧ





Адрас рэдакцыі:
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 284-84-61
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
Аддзелы:
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-82-04, 284-66-71
бухгалтэрыя — 284-66-72
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце: www.lim.by



Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра РВУ "Літаратура і Мастацтва".
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і Мастацтва".
Друкарня Рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства "Выдавецтва "Беларускі Дом друку"
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Наклад 2998
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 17.06.2010 у 11.00
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7
Заказ — 2864
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 0024-4686